

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 17 сакавіка 1989 г. № 11 (3473) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

15 і 16 сакавіка праходзіў чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. На ім былі разгледжаны наступныя пытанні:

1. Аб правядзенні выбараў народных дэпутатаў СССР ад Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

2. Аб аграрнай палітыцы партыі ў сучасных умовах.

На пленуме прысутнічалі кандыдаты ў народныя дэпутаты СССР ад КПСС.

У выніку тайнага галасавання ўсе кандыдаты былі выбраны народнымі дэпутатамі СССР ад Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Пленум прыняў пастанову аб наказах народным дэпутатам СССР ад КПСС.

З дакладам па пытанні аб аграрнай палітыцы партыі ў сучасных умовах выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.

Для ўдзелу ў абмеркаванні гэтага пытання на Пленум была запрошана група сакратароў сельскіх райкомаў, старшынь калгасаў, дырэктараў саўгасаў, арандатараў, вучоных і іншых работнікаў аграпрамысловага комплексу.

У ходзе абмеркавання даклада адбылася прынцыповая гаворка аб далейшых шляхах развіцця сельскай гаспадаркі ў краіне, забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання, а прамысловасці — сельскагаспадарчай сыравінай.

З заключным словам на Пленуме выступіў М. С. Гарбачоў.

Па абмеркаваным пытанні Пленум прыняў пастанову.

## «ТВАЁ МЕСЦА Ў ПЕРАБУДОВЕ»

**АДБЫЎСЯ ПАРТЫЙНЫ ПІСЬМЕННІЦКІ СХОД, ПРЫСВЕЧАНЫ АБМЕРКАВАННЮ МАТЭРЫЯЛАЎ СУСТРЭЧЫ Ў ЦК КПСС З ДЗЕЯЧАМІ НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ 6 СТУДЗЕНЯ Г. Г.**

З дакладам на тэму «Тваё месца ў перабудове» выступіў сакратар партбюро СП БССР Г. Пашкоў.

Дакладчык адзначыў, што роля пярвічнай партыйнай арганізацыі, роля пісьменніка-камуніста сёння рэзка ўзрастае. Расце і адказнасць кожнага за ўсё, што ты робіш, што сцвярджаеш сваім мастацкім або публіцыстычным творам, да чаго заклікаеш.

Спыніўшыся далей на праблемах беларускамоўных выданняў, Г. Пашкоў гаварыў, што сярод прычын іх нізкіх тыражоў — звужэнне сферы ўжытку роднай мовы, ведамасны бюракратызм, а таксама нізкі ўзровень прапаганды беларускіх часопісаў. Ён сцвярджаў, што выраслі тыражы тых выданняў, дзе адышлі ад шаблону, пайшлі да чытачоў, падмацавалі сваю работу творчымі пошукамі і якасцю твораў.

Наша задача, сказаў у заключэнне Г. Пашкоў, — праўдзівае мастацкае адлюстраванне рэчаіснасці, актыўны ўдзел у духоўным адраджэнні народа. У гэтым сэнсе ранейшую прымаўку «будзе хлеб — будуць і песні» можна перайначыць так: «будуць песні — будзе і хлеб».

На сходзе выступілі пісьменнікі Г. Марчук, Л. Дайнека, Я. Будзінас, У. Федасеенка, А. Дзeружынскі, А. Шашкоў, А. Сілянкоў, Э. Ялугін, першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч, загадчык ідэалагічнага аддзела Мінскага гаркома партыі Н. Іванова і інш.

Загадчык сектара літаратуры і мастацтва ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ А. Бутэвіч паведаміў аб мерах, якія прымаюцца партыйным кіраўніцтвам рэспублікі для паляпшэння становішча ў галіне культуры, праінфармаваў прысутных аб рашэнні вышэйстаячых партыйных органаў стварыць у партыйнай арганізацыі СП БССР партком.

З інфармацыямі аб рабоце партбюро за апошні час выступілі намеснікі сакратара партбюро СП БССР В. Аколава і В. Супрунчук.

*ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР*

# ПРЭСТЫЖ ХЛЕБАРОБА



**Іосіф Адамавіч МАКАРЭВІЧ, старшыня калгаса «Барацьба» Пухавіцкага раёна, кандыдат у народныя дэпутаты СССР па Мінскай сельскай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 567.**

А першай гадзіне ночы электрычка Мінск — Асіповічы нечакана для нешматлікіх у такі позні час пасажыраў спынілася пасярэдзіне перагону Рыбцы — Седча. Тут яе ўжо чакаў немалы натоўп з аркестрам і транспарантамі. Да машыністаў, што спусціліся з кабіны электравоза, падбеглі па-святочнаму прыбраныя дзяўчаты і пад воплескі ўручылі ім хлеб-соль, кветкі, павіншавалі з Днём чыгуначніка.

Было гэта 1 жніўня 1987 года, і з таго дня цягнік пачаў спыняцца штодня на новым прыпынку пад назвай «Зазерка». Зазерка — вёска, што ляжыць побач з чыгуначным палатном і з'яўляецца цэнтрам калгаса «Барацьба».

Са старшынёй калгаса Іосіфам Адамавічам Макарэвічам мы ідзём па станцыйнай платформе, і ён з непрыхаваным гонарам расказвае, як будаваўся прыпынак, колькі тысяч кубаметраў грунту завезлі сюды калгаснікі.

— Усё, што вы тут бачыце, — гаварыў Іосіф Адамавіч, — і памяшканне станцыі, і платформы, і бардзюры ўздоўж чыгуначнага палатна — зроблены намі. Камісія Упраўлення беларускай чыгункі, якая прымала станцыю, зазначыла, што пабудавана яна прафесійна.

Я цярпліва слухаю старшыню, але ў рэшце рэшт не вытрымліваю, з языка майго злятае пытанне:

— Так, сапраўды, прыгожая станцыя, але навошта вам, Іосіф Адамавіч, спатрэбіўся гэты клопат, ці ў вас больш работы няма, як думаць аб умацаванні чыгуначнага транспарту?

Мой субяседнік усміхнуўся:

— Каб вы яшчэ ведалі, колькі начальніцкіх кабінетаў прыйшлося наведаць, колькі нерваў папсаваць, пакуль дабіўся дазволу на гэты прыпынак... Разумееце, наш калгас стаіць на чыгунцы. На тэрыторыі гаспадаркі электрычка Мінск — Асіповічы робіць аж чатыры прыпынкі. Не ведаю, ці ёсць яшчэ дзе-небудзь калгас, дзе б людзям было зручней ездзіць, скажам, на сенажаць ці на ферму цягніком. А ў Зазерцы раней цягнік не спыняўся, і гэта было вельмі нязручна, бо ў Зазерцы праўленне калгаса, машынны двор, майстэрні, гаражы, свінагадоўчы комплекс. Працуюць тут людзі амаль з усіх вёсак. І калі раней дабірацца да работы было досыць цяжка, дык цяпер сеў на цягнік, напрыклад, у Рыбцах і праз 15—20 мінут ты ўжо на месцы...

Я пачаў свой расказ з гэтага эпізоду, бо ў ім убачылася мне ўменне Іосіфа Адамавіча мысліць стратэгічна.

Калі вам даводзілася, паважаны чытач, калі-небудзь гутарыць са старшынёй прыгараднага калгаса, дык першае, што

(Працяг на стар. 2—3).

# ПЕРШЫЯ НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ СССР

Усесаюзнаму таварыству вынаходнікаў і рацыяналізатараў давялося першаму сярод грамадскіх арганізацый краіны назваць — зноў-такі самых першых — народных дэпутатаў СССР. 11 сакавіка ў маскоўскім Палацы культуры «Мерыдыян» пашыраны пленум Цэнтральнага савета УТВР выбраў народнымі дэпутатамі СССР: намесніка загадчыка лабараторыі Інстытута электронікі АН БССР, заслужанага вынаходніка Беларускай ССР У. С. БАЛЬБАСАВА, начальніка ўпраўлення па распрацоўцы, стварэнні і ўкараненні галаўных узораў абсталявання, перспектыўнай тэхнікі і тэхналогіі Чарапавецкага металургічнага камбіната Л. І. ДАНІЛАВА, брыгадзіра фрэзероўшчыкаў Свярдлоўскага машынабудаўнічага завода імя Калініна Героя Сацыялістычнай Працы Л. С. ДЗЯДЗЮХІНА, генеральнага дырэктара Ленінградскага МНТК «Механапр», члена-карэспандэнта АН СССР У. І. РАУНІЎЦАВА і плавільшчыка Светлаводскага завода чыстых металаў імя 50-годдзя СССР Кіраваградскай вобласці, заслужанага вынаходніка Украінскай ССР Б. І. СУШКО.

# У ТРАДЫЦЫЯХ ДРУЖБЫ

Узбагачэнню духоўнага жыцця народа закліканы актыўна садзейнічаць Фонд славянскай пісьменнасці і славянскіх культур. Яго ўстаноўчая канферэнцыя закончылася 11 сакавіка ў Маскве.

Нараджэнне гэтай грамадскай арганізацыі звязана з традыцыйнымі святамі славянскай пісьменнасці і культуры, якія ў апошнія гады набылі сапраўды ўсесаюзны маштаб. Так, ва ўрачыстасцях, якія прайшлі ў мінулым годзе ў Ноўгарадзе, удзельнічалі дзеячы культуры і навукі Расіі, Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі, Закаўказзя і Сярэдняй Азіі. Натуральна, што для правядзення такога маштабнага мерапрыемства неабходна штодзённая праца, якой і будзе займацца фонд. Разам з тым яму прадстаіць сур'ёзная дзейнасць па вывучэнні і прапагандзе моў, звычаяў, традыцый, гісторыі, пісьменнасці і культуры братніх народаў, супрацоўніцтве з славянскім насельніцтвам саюзных рэспублік і з суайчыннікамі за мяжой.

Удзельнікі канферэнцыі — відныя пісьменнікі, вучоныя, грамадскія дзеячы, прадстаўнікі працоўных калектываў, духавенства — выказалі ўпэўненасць у тым, што фонд стане рэальным сродкам умацавання міжнацыянальных адносін.

На канферэнцыі зацверджаны статут фонду, выбраны яго савет. Старшынёй савета стаў акадэмік М. І. ТАЛСТОЙ, састаршынямі — пісьменнікі В. Р. РАСПУЦІН, Б. І. АЛЕЙНІК, Н. С. ГІЛЕВІЧ.

ТАСС.

# Памяці Аркадзя Куляшова

Вечар памяці народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова ў сувязі з 75-годдзем з дня яго нараджэння адбыўся ў Магілёве. Актавую залу музычнага вучылішча запоўнілі студэнты педінстытута імя А. Куляшова, іншых ВНУ горада, навучэнцы тэхнікумаў, рабочая моладзь, інтэлігенцыя.

Даклад пра жыццё і творчасць А. Куляшова зрабіў кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры педінстытута В. Атрашкевіч. З цікавасцю слухалі ўдзельнікі вечара ўспаміны пра бацьку В. Куляшовай. Сакратар абласнога аддзялення СП БССР І. Аношкін прыгадаў свае сустрэчы з песняром. Паэты П. Прыходзька, М. Федзюковіч, член літаратурнага аб'яднання В. Габрусёва прачыталі свае новыя вершы.

У вечары прыняла ўдзел сакратар гаркома партыі Л. Н. Іванішчанка.

Вечар памяці паэта-земляка праведзены таксама ў Чавускім раённым Доме культуры. Пра жыццё і творчасць А. Куляшова расказала бібліятэкар Д. Гірэева. Успамінамі пра сустрэчы з А. Куляшовым падзяліліся пісьменнікі П. Шасцерыкоў і І. Аношкін. Паэты А. Мельнікаў і В. Хаўратовіч, члены літаб'яднання «Маладзік над Проняй» журналіст М. Салаўцоў, настаўніца Л. Рыжкова і вучаніца С. Волкава прачыталі свае вершы-прысвячэнні. Быў наладжаны конкурс чытальнікаў вершаў А. Куляшова, пераможцы ўдастоены прызоў.

Літаратурныя вечары і сустрэчы, прысвечаныя памяці песняра-земляка, прайшлі ў многіх школах і бібліятэках, клубах і дамах культуры Магілёўшчыны.

І. ГАЛІНОЎСКІ.

# З УЗНАГАРОДАЙ!

За шматгадовую плённую работу і вялікі ўклад у развіццё беларускага савецкага тэатральнага мастацтва артыст Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народны артыст Беларускай ССР КАРМУНІН Павел Васільевіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

# Ігар Лучанок — Ганаровы грамадзянін Мар'інай Горкі

З Мар'інай Горкай звязана дзяцінства і юнацтва І. Лучанка, яго любоў да музыкі і песні. Сваю прывязанасць да роднага горада кампазітар выказаў у песні «Мар'іна Горка», якая спадабалася не толькі землякам. Ігар Міхайлавіч часта сустракаецца з мар'інагорцамі, выступае перад жыхарамі горада і раёна з творчымі справаздачамі, дзеліцца сваімі планамі, задумкамі.

Адзначаючы вялікі ўклад кампазітара ў развіццё музычнай культуры, шырокую прапаганду беларускай песні ў краіне і за мяжой, моцную дружбу з родным горадам, Мар'інагорскі Савет народных дэпутатаў прысвоіў Ігару Міхайлавічу Лучанку званне Ганаровага грамадзяніна Мар'інай Горкі.

В. АРЛОЎ.

# ПРЭСТЫЖ ХЛЕБАРОБА

(Пачатак на стар. 1).

вы маглі ад яго пачуць, гэта скаргі на тое, што гаспадарка абязлюдзела, бо горад, нібы гіганцкая помпа, высмоктвае з вёскі ўсю моладзь.

У калгасе «Барацьба» такой праблемы няма, хоць да Мінска — паўгадзіны язды электрычкай. Наадварот, сюды прыязджаюць маладыя людзі з Мінска з просьбай прыняць у калгас, ды не ўсе такія просьбы задавальняюцца. Сёння ў калгасе «Барацьба» — 1050 працаздольных, сярод іх шмат моладзі.

У працяг сваёй думкі аб уменні Макарэвіча глядзець у заўтрашні дзень раскажу яшчэ і пра цэх пластмас, які працуе ў той жа Зазерцы. Як ён узнік? Заключылі дагавор з Мінскім заводам імя Леніна на выраб пластмасавых дэталяў, у былым памяшканні бульбасховішча абсталявалі цэх пластмас, дзе вырабляюць масажныя шчоткі, дэталі міксераў, ручкі для друшлякоў — усяго 29 назваў. Цэх дае каля 600 тысяч рублёў чыстага прыбытку ў год.

Ёсць задума ў старшыні (аўтарытэт Макарэвіча ў калгасе непахісны) арганізаваць яшчэ і цэх па вырабе пліткі пад мармур (ужо заказалі для гэтага спецыяльны прэс), цэх па вырабе тэлефоннага кабеля — ідуць перагаворы з міністрам сувязі.

У «Барацьбе» грашовы прыбытак летась склаў больш як тры мільёны рублёў. Сярэдні заробак калгаснікаў — 201 рубель.

Калгас «Барацьба» ці не самы старэйшы ў Пухавіцкім раёне — арганізаваны ён быў 20 сакавіка 1930 года, так што неўзабаве адсвяткуе сваё 60-годдзе. У музеі я бачыў дакументы, з якіх можна прасачыць гісторыю тутэйшай калектыўнай гаспадаркі. Дарэчы, назваць калгас «Барацьбой» прапанаваў вясковы актывіст Фёдар Сачок. «Была вялікая барацьба з аднаасобнікамі, якія не хацелі запісвацца ў калгас, — апавядаў ён у сваіх успамінах, занатаваных у адным з музейных альбомаў. — Вось я і прапанаваў назваць калгас — «Барацьба».

Вось так.

І ўсё-такі, усё-такі... Я ездзіў па брыгадах, заходзіў на фермы, у Дом культуры, гутарыў з людзьмі і зноў і зноў думалася: дазвольце селяніну, як тут, адчуць сябе гаспадаром на зямлі, паспрыяйце, каб ён жыў у чалавечых умовах, — і ў магазінах нашых паліцы будуць трашчаць ад прадуктаў.

Усе надзеі зараз многія ўскладаюць на арэндны падрад. У калгасе «Барацьба» яго няма. Толькі гаспадарчы разлік. Працуюць на канчатковы прадукт, зыходзячы з гэтага і аплачваецца праца хлебаробаў.

Наогул, у калгасе нічога не робіцца дзеля моды. І па загадзе зверху. Я пацікавіўся ў Іосіфа Адамавіча, ці не назаляе яму сваімі ўказаннямі ра-

*Экалогія: праблемы, сітуацыі, канфлікты*

«Пад націскам грамадскасці ЗША, а таксама ў выніку ўсё больш жорсткіх нарматываў ГДК кіраўніцтва многіх амерыканскіх кампаній вымушана прымаць адпаведныя меры. Так, выдаткі вядучых хімічных фірм на тэхнічныя сродкі, якія забяспечваюць значнае зніжэнне індустрыяльных выкідаў і прамысловых адходаў, складаюць зараз да 20 прац. ад агульных капітальных выдаткаў».

(З газет).

# ПЕЙЗАЖ З ПАЛІФЕМАМ на фоне хімзавода

У Светлагорску давялося пачуць такія словы: «Зноў экалогія?! Ну, колькі можна пісаць пра адно і тое ж?! Хіба іншых праблем няма? Напісалі б лепш пра мяса, якога не хапае, ці пра мыла...» Можна было б паіранізаваць над наіўнасцю такой сентэнцыі, альбо ўвогуле не надаць значэння гэтым словам. Але пачуў я іх... ад загадчыка аддзела аховы прыроды буйнога хімічнага прадпрыемства. І гэта прымушае задумацца.

Можа, сапраўды экалогія стала ў апошні час усяго толькі моднай тэмай? Столькі ўжо напісана пра экалагічныя праблемы, столькі фільмаў, перадач зроблена, што быццам і гаварыць няма пра што. Ці не становіцца гэтая тэма «праходной» для нашага брата-журналіста? З такой пастаноўкай пытання можна было б у нечым і пагадзіцца. Але вельмі ж выразна бачыцца за падобнымі развагаманнямі іншая думка — наколькі прымітыўная, настолькі небяспечная. Вось не ведалі б мы пра экалагічную пагрозу — і ўсё было б добра. Прэса, маўляў, толькі палохае грамадскасць, апісвае «жахі». Ёсць жа ўжо і пастанова аб карэннай рэарганізацыі справы аховы прыроды ў СССР, шмат карысных рашэнняў, а друк усё не суніmaecца...

У 60-я гады, калі ў пасёлку Шацілкі Гомельскай вобласці будавалася электрастанцыя, а потым пачаў расці новы горад—Светлагорск — словы «экалагічны крызіс» не ўжываліся. У той час будаўніцтва сацыялізму ўсё яшчэ трывала звязвалася ў грамадскай свядомасці з будаўніцтвам Днепрагэса і Волга-Дона, Ферганскага канала і Турксіба, Магніткі і Камсамольска-на-Амуры. (Колькі рамантыкі заключалася ў гэтых словах яшчэ і для нас, школьнікаў 60—70-х!) Праслаўленнае пакаленне, кажучы словамі тых гадоў, працягвала справу бацькоў. Паўставалі новыя гарады — «гарады будучыні»: Брацк, Сумгаіт, Атаммаш. У геаграфічных назвах падкрэслівалася вера ў чалавека — «уладара прыроды» і ў «цудоўнае заўтра»: Зеленаград, Светлагорск...

Не будзем з вышыні сённяшняга дня (таго самага «цудоўнага заўтра», якое наступіла так раптоўна) кпіць з мар і надзей тых, хто будаваў электрастанцыю, хто будаваў «горад энергетыкаў, горад хімікаў, горад юнацтва» Светлагорск. Ды на самай справе — што, электрычнасць, святло не патрэбны былі жыхарам Палесся? Ну, зразумела, былі і ёсць патрэбы. А хімічныя валокны, лаўсан, кардон, іншыя карысныя рэчы — хіба можна без іх абысціся? Усё так.

Вось толькі засталіся пытанні: чаму трэба было будаваць завод «Хімвалакно» фактычна ў самім горадзе? Зразумела, санітарна-ахоўная зона вакол прадпрыемства ёсць. Але сёння, як высветлілася, тут ва ўсю будуюць... дачныя домікі, і ніхто не бачыць у гэтым абсалютна нічога незвычайнага.

Зусім побач з горадам пабудаваны і цэлюлозна-папяровы завод, на «духмяныя» газа-пылавыя выкіды якога больш за ўсё скардзяцца гараджане. А між тым, на прадпрыемстве доўгі час наогул не ведалі ўсіх кампанентаў гэтых выкідаў. Толькі нядаўна кіраўніцтва завода заключыла дагавор з рэспубліканскім інстытутам санітарыі і гігіены аб комплексным вывучэнні хімічнага складу выкідаў і ўздзеяння іх на арганізм чалавека. Як кажуць у такіх выпадках — лепш пазней, чым ніколі. Пакуль пытанне аб увядзенні ў строй 2-й чаргі ЦПЗ застаецца адкрытым... Сем гадоў назад ў святочны майскі дзень, пры нармальным надвор'і на «Хімвалакне» рухнуў комін. На шчасце, ніхто не пацярпеў. І пасля гэтага яшчэ два гады выпрабоўвалі цярплівасць гараджан, зацягваючы аднаўленне коміна, пакуль не была прынята пастанова гарвыканкома, у якой вызначаліся канкрэтныя неадкладныя меры па паляпшэнні экалагічнай абстаноўкі.

*Але гэта ўжо, можна сказаць, — гісторыя, справа мінулых дзён.*

Што сёння? Вось ужо некалькі гадоў як насельніцтва горада, якое хутка расло ў 60—70-я гады, стабілізавалася — 70 з лішнім тысяч чалавек. Справа, відаць, у тым, што вытворчыя магутнасці ўжо не растуць на прадпрыемствах былымі тэмпамі. Усё ж такі пераход эканомікі з экстэнсіўнага шляху развіцця на інтэнсіўны, гаспадарчы разлік на прадпрыемствах становяцца рэальнасцю. Не апошнюю ролю адыгрывае і той факт, што пераважная большасць занятых на вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно»— жанчыны, і ў горадзе адчуваецца недахоп жаніхоў. Тым не менш, нараджальнасць у горадзе і раёне расце. У мінулым годзе з'явіўся на свет 1741 будучы грамадзянін. Праўда, як адзначаюць урачы, павялічылася колькасць неданошаных дзяцей. Якая будучыня чакае маленькіх светлагорцаў? Ці ўсе яны вырастуць здаровымі і дужымі? У мінулым годзе ў параўнанні з 1987-м лёгачных (у тым ліку алергічных) захворванняў у дзяцей было на дзесяць тысяч выпадкаў больш. Пнеўманія ў дзяцей у 1987 годзеназіралася 198 разоў, а ў наступным — 314.

Расце агульная колькасць анкалагічных захворванняў — асабліва страўніка і кішэчніка. Алергічныя захворванні скуры ў жыхароў Светлагорска з 82-га па 88-ы год ўзраслі амаль у 6 разоў.

Усе гэтыя лічбы павядаміў мне галоўны ўрач раёна У. Шкурко. Лічбы, безумоўна, не могуць не трывожыць, мяркуе Уладзімір Мікалаевіч, толькі на іх падставе рабіць якія-небудзь шырокія абагульненні і адназначныя высновы не варта. Тут могуць дзейнічаць шмат якія фактары. Але што датычыць экалагічнай абстаноўкі, дык, безумоўна, яе ўплыў нельга недаацэньваць. Аднак патрэбны грунтоўныя, кваліфікаваныя і, галоўнае, пастаянныя даследаванні. Пры тым абмяжоўвацца нейкім адным раёнам было б няправільна. Не сакрэт, што агульнае зніжэнне імунітэту характэрна зараз для жыхароў многіх рэгіёнаў. Ці звязана гэта з радыяцыйнай абстаноўкай, якая склалася пасля Чарнобыля, — на гэта сёння наўрад ці можна адказаць з дакладнасцю.

Зраблю маленькае адступленне. Светлагорскаму раёну, можна сказаць, пашанцавала. Яго амаль не закранула чарнобыльская катастрофа. Аднак і тут ёсць населеныя пункты, дзе радыяцыйная абстаноўка выклікае трывогу. Так, санстанцыя вымушана была некалькі разоў адбракоўваць малочныя прадукты, завезеныя з некаторых вёсак на гарадскі рынак з-за павышанага ўтрымання радыенуклідаў.

Галоўны клопат для жыхароў Светлагорска ўяўляе на сённяшні дзень хімічнае забруджванне паветра. Выкіды цэлюлозна-папяровага завода, пра якія ўжо ішла гаворка, у мінулым годзе склалі 948 тон. На ступеньку вышэй — ЦЭЦ, выкіды якой вымяраюцца ў 4.364 тоны. Ну, а «чэмпіён» пакуль што — ВА «Хімвалакно». Сумарная «магутнасць»

ённае начальства. Ён усміхнуўся:

— Гады два—тры назад спрабавалі «раіць» калі сеяць, калі жаць, колькі і чаго сеяць, колькі і якой трымаць жывёлы. Потым зразумелі, што дарэмна губляюць на гэта час, мы ўсё роўна зробім па-свойму. А пераможцаў, як кажуць, не судзяць.

Сапраўды, калгас можа адчуваць сябе пераможцам. Давалі мясцовыя палеткі некалі па 5—6 цэнтнераў збожжа з гектара, цяпер на круг атрымліваюць 30—40, бульбы было 70—80 цэнтнераў — цяпер утрая *больш*. На калгасных фермах каровы — як на карцінках. Вымя — што цэбар. Зараз, на пачатку сакавіка, тут надойваюць ад каровы па 12 кілаграмаў малака. Летась за год на карову атрымалі больш як па 4 тысячы літраў, а ўсяго калгас адвёз летась у горад больш за 6 тысяч тон малака.

Незвычайнае ўражанне пакінуў свінакомплекс, якім загадвае Іван Аляксандравіч Ткач. Чысціня там ідэальная. 12 тысяч свіней на комплексе. І калі вы бачылі ў магазіне апетытную свініну, дык, магчыма, яна адсюль. Комплекс атрымлівае 1200 тон свініны ў год.

Што яшчэ кідалася ў вочы ў час маіх вандровак па калгасе, дык гэта асфальтаваныя дарогі, якія пралеглі ва ўсе вёскі, на ўсе фермы і брыгады. Аказалася, гаспадарка мае свой асфальтавы заводзік.

Ці не ўсе, з кім я гаварыў у калгасе, згадвалі ў размове Макарэвіча ці, як яго тут паважліва называюць, «Адамавіча». «Адамавіч сказаў...», «Адамавіч зрабіў...» Культ? Не, не культ. Глыбокая павага. Сардэчная пашана. Людзі з замілаваннем успаміналі, як на самым пачатку сваёй старшынёўскай кар'еры Макарэвіч браў у рукі касу і першым ішоў касіць на балота. Бывала, у адзіноце. Мо, каб накрычаў на людзей, аблаяў, ніхто б на тое балота і не пайшоў бы. А тут па вёсцы панеслася: «Макарэвіч сам косіць!» І неўзабаве амаль усе мужчыны сталі побач з ім з косамі. Сцірт скласці — таксама без старшыні не абыходзілася, бо рабіў ён гэтую няпростую работу лепш за спрактыкаваных старых людзей.

Усе ведаюць і такое — дзверы кабінета Іосіфа Адамавіча заўсёды адчынены для людзей. «Я аднойчы не вытрымаў, сказаў Макарэвічу: «Адамавіч, людзі, дальбог, усякі сорам страцілі — ідуць у кабінет хто і калі хоча», — расказваў мне намеснік старшыні І. Каранік. — А ён мне: «Няма нічога горшага, чым калі людзі стаяць пад дзвярамі». І ведаеце, усіх выслухае, з усімі вырашыць пытанне...»

Мне гаварылі, што Макарэвіч ведае, як зваць-велічаць усіх старых у калгасе. Не было выпадку, каб, заехаўшы ў вёску, не спыніў машыны каля хаты, дзе жывуць старыя, не зайшоў, не пацікавіўся, мо маюць у чым патрэбу.

Кажу пра ўсё гэта таму, што мы проста адвыкліся ад добрых учынкаў, увогуле, ад харошых людзей.

Хочацца згадаць і такі момант з гісторыі гаспадаркі. Яна неаднойчы аб'ядноўвалася са сваімі суседзямі. У 1977 годзе далучыла да сябе частку саўгаса «Рудзенскі», калгас імя ЦК КПБ, эксперыментальную базу «Зазер'е», на пачатку мінулага года — калгас імя Куйбышава. Кожная з гэтых гаспадарак ніяк не магла стаць на ногі. Іосіф Адамавіч з гумарам успамінаў, як некалі на раённых нарадах толькі і чулася: «ЦК КПБ» зноў адстае», «ЦК КПБ» цягне назад», пакуль аднойчы высокі чын з Мінска не перапыніў дакладчыка і не сказаў са злосцю: «Трэба перайменаваць гэты калгас у імя Пухавіцкага райкома партыі!»

— Скажыце, Іосіф Адамавіч, гэтае аб'яднанне — ініцыятыва зверху? — спытаў я.

— Не, мы самі вырашалі.

— Самі? Добраахвотна ішлі на тое, каб узяць на сябе такі клопат?

— Разумееце, у нейкі момант я адчуў, што нашаму калгасу стала цесна ў яго межах, — сказаў старшыня. — Гаспадарка ж у нас шматлюдная, прадукцыйнасць працы высокая і, ведаеце, людзям стала не хапаць працы. Іншая справа цяпер, калі ў калгасе тры з паловай тысячы гектараў сельгасугоддзяў, 2500 галоў буйной рагатай жывёлы, у тым ліку 600 дойных кароў, 12 тысяч свіней, 100 трактараў, 80 аўтамашын...

Іосіф Адамавіч росту сярэдняга, паўнаваты, круглатвары, для сваіх 53-х гадоў мае амаль некранутую сівізной густую чупрыну. Праўда, здароўя асаблівага няма.

— Як толькі панервуюся, пахвалююся, адразу падымаецца ціск. І сэрца пачаў «адчуваць», — прызнаўся неяк.

Родам ён тутэйшы, з Пухавіцкага раёна. Скупа расказваў пра сваё дзяцінства, галоднае і пакутлівае — бацька памёр, калі хлопчыку не было яшчэ і шасці гадоў. Засталася маці з двума малымі на руках. А тут вайна, акупацыя. Як выжылі, цяжка і сказаць.

Да старшынёўства пабываў і радавым калгаснікам, і рахункаводам, і бухгалтарам, і брыгадзірам. Пасля дэмабілізацыі з арміі хацеў быў падацца ў горад, але падумаў — пашкадаваў маці і сястру, паехаў дахаты. Ужо на пасадзе старшыні скончыў завочна Ленінградскі сельгасінстытут, мае спецыяльнасць агранома...

У той дзень паехаў я з Макарэвічам на яго сустрэчу з выбаршчыкамі ў Дукору — цэнтр суседняга калгаса імя 16 чырвоных партызан. Па дарозе Іосіф Адамавіч расказваў, якім цяжкім быў для яго акруговы выбарчы сход. Збіраўся ён ажно двойчы. Першы раз высветлілася, што сход праводзіўся з парушэннем выбарчага заканадаўства, большасцю галасоў выбаршчыкаў вырашана было назаўтра правесці паўторнае галасаванне. Тады ўжо Макарэвіч набраў галасоў на многа больш, чым сапернікі.

Што сказаць пра выступленне Макарэвіча перад выбаршчыкамі? Спачатку я сумеўся, калі Іосіф Адамавіч пачаў гаварыць дужа ж звыклыя, агульныя словы. Але, кінуўшы позірк у залу, ён усміхнуўся і нечакана зусім іншым голасам сказаў:

— Ды лепш пагаворым пра нашы вясковыя справы, пра тое, што нам замінае жыць...

Зала заварушылася, засяродзілася. Усе ведалі: тут Макарэвічу ёсць што сказаць. Ён і праўда па памяці называў лічбы, аналізаваў, прыводзіў эканамічныя разлікі, крытыкаваў аграпром, міністэрствы, сельскагаспадарчую навуку, урад за няўвагу да патрэб сельскай гаспадаркі.

— Трэба сплачваць даўгі сялу, — гаварыў ён. — Чаму дагэтуль дзяржава прадае нам усё так дорага? Каб купіць, напрыклад, адзін зернеўборачны камбайн «Дон», гаспадарцы трэба прадаць каля двухсот тон малака. Я не кажу ўжо, што малако ў нас купляюць па цане напітку. А колькі *каштуюць нам* трактары, будаўнічыя матэрыялы? Я б спытаў у тых, ад каго гэта залежыць, чаму ў нас такая дрэнная, у параўнанні з замежнымі ўзорамі, сельгастэхніка? Гадоў трыццаць я ведаю бульбаўборачны камбайн «ККУ-2» і амаль нічога ў ім не паляпшаецца. Як пакутавалі раней з ім механізатары з-за пастаянных паломак, так пакутуюць і цяпер...

Уважліва слухала зала кандыдата ў дэпутаты і тады, калі гаварыў ён пра сацыяльнае пераўтварэнне вёскі.

— Селянін даўно заслужыў, каб жыць у добрай кватэры, мець добры заробак, пенсію, не меншую той, якую даюць у горадзе...

— Правільна, Адамавіч, правільна! — чулася з залы.

Словы Іосіфа Адамавіча набылі асаблівую важкасць яшчэ і таму, што ўсе ведалі — ён слоў на вецер не кідае. Дзедзе, а ў калгасе «Барацьба» вяскоўцам жывецца куды лепш, чым у іншых гаспадарках. Кожны год тут будуецца 18—20 дамоў сядзібнага тыпу з усімі камунальнымі выгодамі. Тут за кошт гаспадаркі павысілі пенсіі людзям да 70 рублёў у месяц, жанчынам, якія нарадзілі дзіця, выплачваюць грашовую дапамогу на працягу трох гадоў. Тут бясплатна кормяць механізатараў у час палявых работ. Тут моцна дбаюць аб культуры вёскі, народнай асвеце: у калгасе тры школы — дзесяцігодка, у якой займаецца 350 вучняў і дзве васьмігодкі, некалькі дамоў культуры, музычная школа, спартыўны клуб, урачэбны і *зубапратэзны кабінеты*...

Па дарозе дамоў Макарэвіч завёў гаворку пра маючы адбыцца Пленум ЦК КПСС, які павінен абмеркаваць надзённыя пытанні сельскай гаспадаркі.

— Праблем многа, — сказаў ён. — Трэба ўзняць прэстыж прафесіі хлебароба, вярнуць зямлі гаспадара...

*За акном машыны плылі палі*, на якіх не было ўжо і следу снега. Іосіф Адамавіч злавіў мой позірк і сказаў:

— Угнаенні на палі мы поўнасцю вывезлі, зараз закрываем вільгаць у глебе. Калі будзем сеяць? Спяшацца не трэба, зямля яшчэ халаднаватая. А так усё гатова — тэхніка адрамантавана, насенне ў нас элітнае, праверана на ўсходжасць...

Ідучы на станцыю ўздоўж вулічных платоў, за якімі стаялі радкі дрэў, пачуў ледзь улоўны гаркаваты пах вішні. Яна, кажуць, вясну чуе першай.

**М. ЗАМСКІ.**

---

**газа-пылавых выкідаў за 1988 год ацэньваецца тут у 12 тысяч 900 тон. Гэтыя дадзеныя прывёў начальнік Светлагорскай інспекцыі па ахове прыроды А. Сакалоўскі. Агульная колькасць шкодных выкідаў на прадпрыемствах горада ў параўнанні з 85-м годам знізілася ледзь не ўдвая, а гэта, лічыць Анатоль Уладзіміравіч, не можа не даваць падставы для аптымізму. За апошні час удалося давесці да нормы такія шкодныя выкіды на «Хімвалакне», як серавадарод, вокісы азота, чадны газ. Вось толькі серавуглярод псуе ўсю карціну. Яго ўтрыманне ў паветры ўсё яшчэ перавышае ГДК у некалькі разоў, а гэта ж вельмі небяспечны яд!**

**Праўда, у раённай інспекцыі не вельмі ўпэўнены ў лічбах, атрыманых у лабараторыі гідраметэаслужбы, бо замеры так званых «падфакельных выкідаў» праводзіліся за мінулы год лічаныя разы.**

**Мне не хочацца паглыбляцца тут ва ўзаемаадносіны паміж інспекцыяй, лабараторыяй гідрамета і санстанцыяй, дзе гэтая лабараторыя знаходзіцца. Скажу толькі, што з меркаваннем галоўнага санітарнага ўрача раёна Л. А. Цітко аб тым, што трэба аб'яднаць намаганні ўсіх служб, якія адказваюць за чысціню навакольнага асяроддзя, цяжка не пагадзіцца.**

**Да месца будзе тут сказаць і аб тым, што пасля рэарганізацыі структуры Дзяржкампрыроды раённыя інспекцыі атрымалі і дадатковыя сродкі і больш шырокія паўнамоцтвы — яны адказваюць цяпер не толькі за чысціню вады, захаванне флоры і фауны, але і за чысціню паветра. А прыняты нядаўна новы, больш строгі Санітарны кодэкс прымусіў нарэшце гаспадарнікаў лічыцца з загадамі санстанцыі.**

**Толькі адзін прыклад. Гадамі чадзілі ў навакollях Светлагорска звалкі з адходамі хімічнай вытворчасці. З-за самаўзгарання ўвесь час тут успыхвалі пажары. У мінулым годзе раённая СЭС нарэшце дамаглася таго, *што за ўвесь год* не было ніводнага пажару на сметніках.**

**Але вернемся на «Хімвалакно». Нельга сказаць, што хімікі не спрабавалі з самага пачатку вырашыць на заводзе праблему ачысткі так званых вентвыкідаў ад серавуглároду. (Серавуглярод, адзначым, неабходны кампанент пры вытворчасці віскозы). Яшчэ ў канцы 60-х гадоў была распрацавана ўстаноўка *нейтралізацыі серавугляроду* ў кіпячым вугальным слаі. Аднак па тэхналогіі англійскай фірмы «Куртальдс», якая была пакладзена ў аснову ўстаноўкі, патрабаваўся вугаль какосавых арэхаў (!), які можна было закупіць толькі на валюту. Не трэба, відаць, і казаць, што на валюце вырашылі «сэканоміць». Эканомія прывяла да таго, што ўстаноўка на айчынным вугалі аказалася абсалютна неэфектыўнай. А безвыніковыя спробы яе «мадэрнізацыі» абышліся ў немалыя грошы.**

**У 1976 годзе айчынная фірма Дзіпрагазачыстка пачала распрацоўку новай ўстаноўкі рэкуперацыі серавугляроду. З таго часу гэтае ачышчальнае збудаванне коштам 12 мільёнаў рублёў ператварылася ў сапраўдны даўгабуд. За 12 год было асвоена 8 мільёнаў. Кіраўніцтва аб'яднання запэўнівае, што сёлета ўстаноўка абавязкова пачне працаваць, і тады колькасць шкодных выкідаў зменшыцца ўдвая.**

**Праўда, у аддзеле аховы прыроды аб'яднання скардзяцца, што не ўсё залежыць ад жадання мясцовых улад і дырэкцыі прадпрыемства. Для новай устаноўкі рэкуперацыі таксама патрэбны вугаль не абы-які, а пэўнай маркі, выраблеецца ён не з экзатычных какосаў — з айчыннай драўніны, але ўсё роўна гэта дэфіцыт, і каштуе ён нямала.**

**Наогул, як добра ведаюць спецыялісты, вытворчасць штучнага валакна вельмі дарагая, энергаёмістая, патрабуе вялікіх працоўных затрат. Для вырабу віскозных валокнаў, для прыкладу, патрэбна высакаякасная цэлюлоза. Не без здзіўлення даведаўся я, што на Светлагорскае аб'яднанне завозяць яе з Байкала, з цэлюлознага камбіната. (Так-так! З таго самага ЦБК, закрыцця якога шмат гадоў дамагаецца грамадскасць). *Толькі* асабліва чыстая (пакуль яшчэ!) байкальская вада дае магчымасць атрымліваць цэлюлозу патрэбнай тэхнічнай якасці. Светлагорскі ж цэлюлозны завод выпрацоўвае кардон, сыравінай для якога можа быць і звычайная макулатура.**

***Апрача таго, для вырабу* штучнага валакна патрэбны каталізатары — плаціна, цынк і г. д. На ўчастку рэгенерацыі цынку са сцёкавых водаў на «Хімвалакне» штогод аднаўляецца каля 1000 тон цынку, кожная абыходзіцца прадпрыемству прыкладна ў тысячу рублёў. Да таго ж, гэты ўчастак — адзін з самых шкодных для здароўя людзей. Санстанцыя гатова прыняць самыя рашучыя меры, аж да закрыцця ўчастка, калі там не будзе наведзены парадак. А ў адказ прадпрыемства пагражае... скінуць 4,5 тысячы тон цынку ў Бярэзіну. Час, аднак, змяніўся. Пагрозы цяпер не «працуюць». Наадварот. У мінулым годзе загадам Дзяржкамітэта *па ахове прыроды* на заводзе быў апламбіраваны ўчастак вытворчасці аміячнай вады. Дзякуючы гэтаму ўжо восенню ўтрыманне аміяка ў сцёкавых водах знізілася ў дзесяць разоў.**

**Мне хацелася б знайсці *адказ вось на якое* пытанне. Калі вытворчасць штучных валокнаў настолькі дарагая, патрабуе вялікай колькасці чыстай вады і наогул небяспечная для навакольнага асяроддзя, дык ці варта аўчынка вырабу? Няўжо зусім няма ніякіх альтэрнатыў хімічнай вытворчасці тканін? Тэхнакратычны падыход, калі прыродныя багацці разглядаюцца ўсяго толькі як рэсурсы, калі на першым месцы — планы вытворчасці, прыбытак, а чалавек — толькі «фактар», калі ўсе выдаткі ў рэшце рэшт можна спісаць на дзяржаву, вядзе да страты сапраўднага пачуцця гаспадара, пачуцця адказнасці перад грамадствам, перад людзьмі. У мінулым годзе раённая інспекцыя спагнала з прадпрыемства каля 80 тысяч рублёў за парушэнні заканадаўства па ахове прыроды. Але ніхто з кіраўнікоў завода не адчуў гэты штраф на сваёй уласнай кішэні. Выдаткі ж прадпрыемства на ахову прыроды складаюць зусім *малы працэнт ад агульных* выдаткаў і практычна не растуць.**

**Мне могуць запярэчыць — і часта пярэчылі: у нас, у Светлагорску, усё яшчэ не так кепска з аховай прыроды, нават лепш, чым у іншых гарадах. Дзіўнаватае апраўданне!**

**Існаванне прадпрыемства, ды і ўсяго горада звязана з Бярэзінай, уздоўж берага якой ён выцягнуўся. Магутныя ачышчальныя збудаванні, не так даўно ўведзеныя ў строй, у нейкай ступені аслабілі націск на раку. Тут яшчэ нават можна купацца. Але праблемы захавання чысціні Бярэзіны вельмі хвалююць работнікаў Светлагорскай інспекцыі па ахове прыроды. Прадаўжае зніжацца ўзровень ракі, галоўным чынам — з-за меліярацыі. (Яшчэ каля дваццаці год назад у раёне *Светлагорска была* фактычна знішчана, ператворана ў канаву рака Ала, прыток Бярэзіны). Пакутуе рака — пакутуе раслінны свет. За апошнія гады пасохла нямала цудоўных дубоў-волатаў, што раслі ля берагоў Бярэзіны. Нядаўна лесапаталагічная экспедыцыя з Бранскага інстытута ўстанавіла: кроны дрэў у лясах, што прылягаюць да Светлагорска, зрэджаны на 60 працэнтаў. У сваю чаргу дэградацыя лясоў — адна з прычын абмялення Бярэзіны.**

**Дагэтуль няма ў Светлагорску лодачнай станцыі. Гэта азначае, што шматлікія ўладальнікі маторак практычна бескантрольна забруджваюць раку. *Нядаўна* пачалося збудаванне набярэжнай. Ёсць спадзяванне, што з'явіцца і лодачная станцыя...**

**...Сёлета Бярэзіна вызвалілася з лядовага панцыру незвычайна рана. Нязвыкла было назіраць у пачатку лютага, як рака хутка нясе свае мутнашэрыя — пад колер неба — воды ўздоўж Светлагорска, нясе так імкліва, быццам хоча хутчэй мінуць сумныя, засыпаныя смеццем і будаўнічым друзам берагі. Рака была пустынная: не было да яе справы чалавеку ў гэты халодны час. І прырода здавалася халоднай і нават варожай чалавеку. Але калі нам здаецца, што прырода нам за нешта помсціць, на самай справе гэта азначае, што нешта не ў парадку ў чалавечым грамадстве.**

**Сярод шэдэўраў жывапісу эпохі класіцызму ёсць карціна французскага мастака М. Пусэна «Пейзаж з Паліфемам». Паліфем — міфалагічная істота, якая сімвалізавала ў старажытных рымлянаў**

**(Працяг на стар. 15).**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## На помнік Кастусю Каліноўскаму

Працягваюць паступаць грашовыя сродкі на рахунак № 702 Беларускага фонду культуры з паметкай: «На будаўніцтва помніка Кастусю Каліноўскаму ў Гродне». Нядаўна на яго пераведзены ганарар за другі нумар часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе».

Яшчэ летась рэдакцыя аб'явіла, што рыхтуецца менавіта такі нумар, прысвечаны памяці К. Каліноўскага і 135-годдзю з дня паўстання, якім ён кіраваў. Атрыманыя пасля гэтага матэрыялы склалі ў другім нумары спецыяльны сшытак «Памяці нацыянальнага героя». Тут змешчаны верш В. Малініч «Гарачае сэрца», артыкулы «Вобраз змагара ў мастацтве» А. Белага, «Разам з вялікім Кастусём» Г. Кісялёва, «Кастусь Каліноўскі на Слонімшчыне» С. Чыгрына, «На радзіму Каліноўскага» В. Рамацэвіч. Э. Зайкоўскі падрыхтаваў спіс мясцін, дзе адбываліся найбольш значныя падзеі паўстання 1863—1864 гадоў — «За зямлю і волю», А. Каляда прапанаваў літаратурна - музычную кампазіцыю «За шчасце народа», А. Марціновіч — рэцэнзію на кнігу «К. Каліноўскі. З друкаванай і рукапіснай спадчыны», выпушчаную летась выдавецтвам «Беларусь».

Пераведзены на будаўніцтва помніка К. Каліноўскаму ганарар і за іншыя матэрыялы нумара.

**В. ЦЯРЭШКА.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

## БУДЗЕМ ГАЛАСАВАЦЬ, АЛЕ...

*Працягваецца выбарчая кампанія. Сёлета яна адметная ад усіх ранейшых кампаній, бо ўпершыню — сапраўды выбарчая. Упершыню нашы людзі атрымалі рэальную магчымасць вылучаць і выбіраць. Упершыню ім стала не ўсё роўна, каго выбіраць і за што галасаваць, хто і за якія заслугі трапіў у выбарчыя бюлетэні.*

*Гэта засведчыла і рэдакцыйная пошта «ЛіМа». Вось два лісты. Прыйшлі яны з аднаго і таго ж кутка Беларусі — з Палесся. І гаворка ў іх ідзе пра адно і тое ж. Таму і вырашылі мы паставіць іх на газетнай паласе побач, аб'яднаўшы адным загалоўкам.*

**Палессе — самы лепшы куток на зямлі! Дзе яшчэ столькі рыбы, што сама ў лодку скача? Дзе яшчэ ласі пасвяцца разам з каровамі, а дзікія качкі разам са свойскімі ля берага плаваюць, бо як выплывуць на глыбіню, дык самы праглынуць іх разам з пер'ем? Дзе яшчэ лясы такія ёсць, у якіх грыбы хіба толькі ў паветры не растуць?..**

**Але гэта было даўным-даўно, калі меліярацыяй на Палессі займаліся толькі бабры. А з тае пары, як пачалі капаць канавы і ставіць плаціны меліяратары, адбыліся тут вялікія змены.**

**Не адзін год усемагутны «Галоўпалессеводбуд» узначальваў тав. Зеляноўскі. Гэта яго стараннямі і стараннямі яго падначаленых учынена на Палессі такое, што сёння ў канавах адзін карась гадуецца, якога палешукі раней і за рыбу не лічылі, што славутыя палескія буслы, якія сяліліся ледзь не на кожнай паляшуцкай хаце, ходзяць жабракамі за сіласаўборачнымі камбайнамі, бо няма дзе ім больш хадзіць, што пазнікалі-звяліся тут ласі і журавы (апошнія засталіся хіба толькі ў песнях), што многія куткі нашага краю стала проста не пазнаць. І вось цяпер тав. Зеляноўскі вылучаны кандыдатам у народныя дэпутаты СССР. Хто дасць гарантыю, што ён, займеўшы новыя званне і статус, з яшчэ большым імпэтам не зоймецца пераўтварэннем беларускага Палесся ў пясчаную і тарфяную пустэчу?**

**Ю. М. ГІМБАТАЎ,**
**дырэктар клуба чыгуначнікаў.**
г. Лунінец.

●

**Несумненна, што наш кандыдат стане дэпутатам. Упэўнены ў гэтым і ён сам, упэўнены і выбаршчыкі. І не таму, што ён самы дастойны з дастойнейшых, а таму, што выбаршчыкам няма выбару: ён адзіны ў нас балаціруецца.**

**А самае галоўнае, што наш кандыдат у дэпутаты на працягу 1979—1985 гадоў узначальваў «вышэйшы орган улады», які планамерна калечыў і працягвае калечыць Палессе. Спашлюся на прыклад калгаса «17 верасня», дзе меліяраваныя землі ператварыліся ў пустынныя, дзе жыхары вёсак з-за адсутнасці вады паглыблялі калодзежы, дзе лес пачаў высыхаць, а сёння ідзе яго суцэльнае вынішчэнне. Гэтым вышэйшым органам улады з'яўляецца «Галоўпалессеводбуд», а кандыдатам у народныя дэпутаты — Зеляноўскі Анатоль Іванавіч, які ўсё сваё працоўнае жыццё займаецца пераўтварэннем прыроды.**

**М. І. ШЭЛЕХАЎ,**
**старшыня Савета ветэранаў вайны і працы.**
г. Давыд-Гарадок.

ЧЫТАЧ ПРЫЙШОЎ У РЭДАКЦЫЮ

## СІДАРЫХА ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

**Паглядзіце на здымак. Гэта — Івянец, славутая сталіца ганчарнага краю, здаўна і непарыўна звязаная са станаўленнем і росквітам беларускай керамікі. Так выглядае гэты невялікі гарадок паблізу Мінска, зняты, як кажуць фатографы, «з высокай кропкі». Зрэшты, не ўвесь гарадок, а самы цэнтр яго, пра што сведчыць хоць бы будынак касцёла, бо храмы, звычайна, заўжды ўзводзіліся ў цэнтры вёсак і мястэчак, на самых высокіх, лепшых месцах.**

**Здымак прынёс у рэдакцыю івянецкі настаўнік, выкладчык выяўленчага мастацтва Алег Фядосавіч РАМАНОЎСКІ. Прынёс, паклаў перад намі на стол і без асаблівых прадмоў пачаў свой аповяд:**

— Касцёл, што ў цэнтры здымка, у нас завуць Белым. Злева ад яго — вялікі двухпавярховы будынак. Гэта былы Кляштар францысканцаў. Над стромым дахам касцёла на фоне неба відаць яшчэ адна вежа. Гэта другі івянецкі касцёл, ахрышчаны Чорным. А між імі — Сідарыха, маляўнічы пагорак, па-тутэйшаму, панашаму — гара Сідарыха, любімае месца адпачынку гараджан. Сёння лёс яе ў небяспецы...



**Алег Фядосавіч памаўчаў, быццам збіраючыся з думкамі, і працягваў:**

— Неўзабаве нашаму Івянцу споўніцца 600 гадоў. Гэта ж нямала, праўда? Нават і для гарадка ўзрост паважны. А чым ён сустрэне свой юбілей? Можа здарыцца так, што і апошніх сведак яго немалой гісторыі не застанецца. Маю на ўвазе і гэты касцёл, і кляштар, і саму Сідарыху. Чаму, пытаецеся? А вось чаму.

Дваццаць гадоў назад будынак нашага касцёла, помнік архітэктуры пачатку XVIII стагоддзя, аблюбаваў Мінскі праектна-тэхналагічны інстытут — надумаў стварыць у яго сценах сваю вытворчую базу. Задумаў і зрабіў. Устанавіў у будынку станкі, станкі не маленькія, вібрацыя ад іх такая, што не вытрымалі і магутныя касцельныя сцены. У выніку сёння гэтае тварэнне рук чалавечых, наш гонар, наша «каменная кветка» прыйшла ў аварыйны стан. Далейшае выкарыстанне будынка ў такім прызначэнні забаронена таварыствам аховы помнікаў.

Да касцёла прымыкае былы францысканскі кляштар, у якім таксама працуюць розныя станкі і прыборы, іншае вытворчае абсталяванне. Шматлікія прыбудовы і надбудовы парушылі архітэктурны ансамбль помніка, наогул не цешаць вока.

Паўстала пытанне аб тым, што трэба з будынка былога касцёла станкі выносіць. Але куды? Вырашана пабудаваць новыя вытворчыя карпусы. Ды ўсё пытанне ў тым, дзе іх надумаліся пабудаваць. Дайце веры, там жа, паблізу сцен касцёла і кляштара, на беразе нашай слаўнай рачулкі Волмы. Цудоўны заліўны луг, выдатную сенажатку плануецца падняць на тры метры і там, на новым насыпным грунце, узвесці новыя карпусы. Само сабой, што новаму прадпрыемству спатрэбіцца і кацельня. Дык вось, кацельню разам з высачэзным, ці не саракаметровым комінам мяркуецца «пасадзіць» на Сідарысе. Што застанецца пасля гэтага ад нашай любімай Сідарыхі? Дзе будуць гуляць, адпачываць дарослыя і дзеці? А ўявіце сабе, што побач з гэтымі адмысловымі стройнымі вежамі паўстане дымакурны комін? Прыгожае будзе відовішча, ці не праўда?

Грамадскасць пасёлка паднялася супраць такога неразумнага рашэння, выступіла супраць варварскага — іншага слова не знаходжу! — праекта. Аднак мясцовыя ўлады не пажадалі прыслухацца да думкі людзей. 23 лютага Івянецкі пасялковы Савет правёў сход, на які былі запрошаны толькі зацікаўленыя асобы, і там, у «добрых, старых» застойных традыцыях, было прынята келейнае рашэнне правесці той праект у жыццё. Людзі абураны, людзі збіраюць подпісы, скардзяцца, шукаюць паразумення і падтрымкі.

Ніхто не кажа, мабыць, патрэбны і эксперыментальная база інстытута, і кацельня. Але свет клінам не сышоўся на тым, каб гэтыя аб'екты будаваць у цэнтры Івянца. Сідарыха павінна застацца месцам адпачынку гараджан. Урэшце, варта прыняць пад увагу і тое, што наш гарадок уключаны ва ўсесаюзны турыстычны маршрут. Дык хіба можна дапусціць, каб так знявечыць планіроўку і краявід пасёлка?

А яшчэ ж і другое. Наша Волма, наша крынічная, хуткаплынная рачулка і так задыхаецца ад атрутных сцёкаў дрэваапрацоўчага камбіната, птушказавода, кандытарскай фабрыкі, хлебазавода, аўтабазы, той жа эксперыментальнай базы, іншых прадпрыемстваў і ўстаноў. Ці вытрывае яна яшчэ адну нагрузку? Ды і навошта ж нас пазбаўляць права на чыстую ваду, чыстае паветра?

Мы прапануем у будынку касцёла святога Міхаіла, у нашым Белым касцёле, адкрыць музей народнай творчасці. Музей нашай івянецкай керамікі. Думаецца, паказаць у ім будзе што, толькі трэба паруліцца ды сабраць незлічоныя, параскіданыя сёння па краіне скарбы. А ў будынак кляштара вярнуць музычную школу і Дом піянераў, якія цяпер месцяцца ў спарахнелай сялянскай хаціне пачатку стагоддзя. Дарэчы, музычная школа калісьці і была там, у сценах кляштара, а пасля яе чыімсьці валявым і не надта разумным рашэннем выселілі.

— Сёння, у час перабудовы і галоснасці, — скончыў свой расказ Алег Фядосавіч, — нельга дапусціць, каб ажыццяўляліся келейныя, непрадуманыя, заснаваныя толькі на меркантыльных падставах праекты. Сідарыху трэба ўратаваць!

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## «Пра кар'ер, «капцілку» і «драбілку»

**Так называлася публікацыя, змешчаная ў «ЛіМе» (№ 3 за гэты год) пад рубрыкай «Чытач прыйшоў у рэдакцыю». У ёй гаварылася пра тое, што «Мінскаблсельбуд» вырашыў распачаць у адным з маляўнічых куткоў Маладзечаншчыны будаўніцтва кар'ера па здабычы гравію і шчабёнкі, драбільна-сартыравальнай устаноўкі і завода па вырабу асфальту з адходаў нафты. Усе гэтыя вытворчасці меркавалася размясціць паблізу вёсак Казлы, Баяры, Ласі, Воўкаўшчына, Уша, Красоўшчына, Івонцавічы, побач з якімі да таго ж знаходзяцца сёння дваццаць садовых таварыстваў, піянерскі лагер і пансіянат, зона адпачынку.**

**Публікацыя была паслана ў Мінскі аблвыканкам, Маладзечанскі райвыканкам, саўгас «Прагрэс», Маладзечанскі лясгас і «Мінскаблсельбуд» з просьбаю адказаць на пастаўленыя ў ёй пытанні.**

**Пакуль мы чакалі адказу, у рэдакцыю прыйшоў ліст ад старшыні прафкома навуковавытворчага аб'яднання «Транстэхніка» Ф. В. Чарняўскага. Ён напісаў, што супрацоўнікі аб'яднання, якія з'яўляюцца членамі садовага кааператыву «Зарэчча», размешчанага ў згаданым раёне Маладзечаншчыны каля Баяраў, шчыра ўдзячны газеце за дапамогу ў барацьбе з ведамаснымі прыярытэтамі. «Незразумела, каму прыйшла ў галаву думка пабудаваць побач з градкамі радыскі і цыбулі асфальтабетонны завод? — пытаецца наш чытач. — Як могуць адукаваныя людзі з аграпрома абараняць гэтую заганную ідэю? Шмат членаў нашага і іншых кааператываў не верылі ў пазітыўны вынік справы, бо ведаюць сілу ведамаснага апарату. Толькі выступленне вашай газеты ў абарону нашага кааператыву дадало нам упэўненасці...»**

**Першае афіцыйнае рэагаванне паступіла ў рэдакцыю з Маладзечанскага лясгаса. Галоўны ляснічы А. Ю. Роліч паведаміў, што «намечаны канкрэтныя меры да прыняцця ўзгодненых рашэнняў зацікаўленых бакоў у адпаведнасці з заключаным дагаворам». Пагадзіцеся, цяжка зразумець з гэтага афіцыйнага адказу галоўнага ляснічага, пра якія КАНКРЭТНЫЯ МЕРЫ ідзе гаворка. А вось пра «канкрэтныя дзеянні» Красненскага лясніцтва ў раёне вёсак Баяры — Казлы, пра якія сціпла прамаўчала кіраўніцтва Маладзечанскага лясгаса, мы ўсё ж даведаліся. Даведаліся ад таго ж нашага чытача, які прыходзіў у рэдакцыю, — Л. Д. Дзянісава. Ён пазваніў нам і з абурэннем паведаміў, што вакол садовых таварыстваў па кальцы вв. Баяры — Казлы рабочыя Красненскага лясніцтва высеклі... 1300 бяроз саракагадовага ўзросту. Значыць, кар'ер, «капцілка» і «драбілка» будуюцца?**

**Так, будуюцца, як высветлілася, «з мэтай забеспячэння сыравінай завода жалезабетонных вырабаў і буйнапанельнага домабудаўніцтва Мінскага аблсельбуда, што размешчаны ў пасёлку Чысць Маладзечанскага раёна». Гэта цытата з афіцыйнага адказу рэдакцыі намесніка старшыні Маладзечанскага райвыканкома В. В. Бярнацкага. Далей ён паведамляе, што «адвод зямельнага ўчастка пад кар'ер па здабычы пясчана-гравійнай сумесі з будаўніцтвам драбільна-сартыравальнай устаноўкі і пад'язной дарогі праведзены ў адпаведнасці з распараджэннем Савета Міністраў БССР № 673-р ад 19 кастрычніка 1988 года тэрмінам на 5 гадоў». Вось так, толькі на 5 гадоў, аказваецца, хопіць карысных выкапняў у пясчана-гравійным месцанараджэнні «Баяры». Дык ці варта руйнаваць прыроду, якая не загоіць свае раны на працягу мо сотні гадоў, з-за «сиюминутных» ведамасных інтарэсаў?**

**Далей у адказе Маладзечанскага райвыканкома паведамляецца, што «будаўніцтва асфальтабетоннай устаноўкі на адведзеным зямельным участку не прадугледжваецца. Для яго размяшчэння падабраны ўчастак удалечыні ад населеных пунктаў і садовых таварыстваў». Што ж, разумнае рашэнне!**

**Прыемна і тое, што «Мінскі сельбуд выступіў з хадайніцтвам аб дазволе будаўніцтва пад'язной дарогі да кар'ера з боку в. Івонцавічы», што «зямельны ўчастак, адведзены пад будаўніцтва пад'язной дарогі да кар'ера будзе да вясенніх палявых работ рэкультываваны» (маецца на ўвазе адрэзак дарогі, што праходзіў за 100 метраў ад садовых таварыстваў. — РЭД.), «што дырэкцыя саўгаса «Прагрэс» саставіла акт на страты, якія гаспадарка пацярпела ў выніку адвода зямель і будаўніцтва кар'ера і пад'язной дарогі».**

**Што ж, хоць гэтыя пытанні вырашаны — людзі не будуць штодзень дыхаць атрутай ад выхлапных газаў з «КРАЗаў», «МАЗаў» і іншай магутнай тэхнікі. Як паведаміў Л. Дзянісаў, 31 студзеня кампетэнтная камісія ў складзе старшыні Маладзечанскага райвыканкома А. Луновіча, яго намесніка па будаўніцтве З. Зайкоўскага, генеральнага дырэктара вытворча-праектнага будаўнічага аб'яднання «Чысць» І. Русака, прадстаўніка саўгаса «Прагрэс» прыйшлі да высновы, што не варта будаваць часовую дарогу, а стварыць пастаянную з выхадам ад кар'ера на існуючую дарогу Івонцавічы — Плябань.**

**Ды, аказалася, радавацца было рана: будаўнікі пайшлі ў чарговае наступленне. Днямі ў рэдакцыю зноў пазваніў старшыня садовага таварыства «Халмагор'е» Л. Дзянісаў і расказаў:**

**— Інжынер па будаўніцтве кар'ера «Баяры» Аляксандр Андрэевіч Тоўкач папярэдзіў мяне, што дае тэлеграмы ў аграпром, аблсельбуд і іншыя інстанцыі. З якой мэтай? Каб паставіць перад фактам: зноў будуць аднаўляць тую дарогу, што каля нашых гародаў. Справа ў тым, што будаўнікі пасля інжынерных і эканамічных разлікаў прыйшлі да высновы: перакрыжаванне новай дарогі з чыгункай і аўтамагістраллю Маладзечна — Мінск будзе каштаваць некалькі мільёнаў рублёў...**

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

## *Надзённыя радкі*

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

### *Недавер*

**Недавер —
Дрымотны звер:
Дзе — знарок,
А дзе — падспудна
Ён цікуе,
Недавер,
З пушчы нашых душ
Паўсюдна.**

**Дзе ступіў?
Куды ступіў?
Што наўме ў хвіліну гэту?..
*Востры позірк*
Не ступіў
І не кануў ён у Лету.**

**Падазронасці — сваяк
І яе найпершы лёкай,
Недавер
за грош,
за так
Служыць ёй
З пары далёкай.**

**Выглядае недавер,
Як шашок,
грызе свядомасць:
«Не праверыў — дык правер,
Гэта лепш, чым невядомасць!..»**

**Хоць гушчар не той цяпер,
Ды і сам аслаб як быццам, —
Не здаецца
недавер —
У давер
Ён хоча ўбіцца!**

**Ён спакою не дае
Ні ў святочны дзень,
Ні ў будзень...
Ці ж не страшны
недавер,
Як і звер падбіты,
Людзі?**

**Не цяпер, дык у чацвер
Хіба з логава не ўстане?
Хіба зноўку
недавер
Не зачэпіць,
Не дастане?..**

**Недавер —
Што хіжы звер,
След яго ў душы крывавіць...
Недаверу —
Свой давер,
Як заслон,
Змагу паставіць?..**

### *Таварыш дарагі*

**Меўся ўзяць ён абцугі —
Вырваць культу цвік іржавы,
Стаў таварыш Дарагі
Стырнавым усёй дзяржавы.**

**І пацёк руччом ялей,
Хлынуў, шумна-ўзнагародны.
Абцугі адклаў далей
Ён тады: «Той цвік —
Прыгодны...»**

**Пахвальба, нібы дамкрат,
Хоць памалу,
Ды ўздымала:
«Праўдалюб і дэмакрат,
Кіраўнік, якіх замала!»**

**Пышнай славы пірагі
Выпякалі словаблуды:
«Дарагі...» ды «Дарагі...»
І ўзахлёб заўжды,
І — ўсюды.**

**Балбатні хлуслівай
хлуд
Біў па думках,
Лез у душы.
Словаблуд і лізаблюд
Селі ў покуць,
Бы чынушы.**

**І ў застольным тлуме тым
Не заўважылі ў гаворках:
Дарагі стаў... з а л а т ы м —
З галавы да ног
У зорках!**

**Што ні дзень, рамень тужэў —
Не прымаў прамоў крылатых...
Дарагі ўсё даражэў,
Ды не ў сэрцах,
А ў дакладах.**

**Рос «прэстыж» —
Раслі даўгі.
Ці ж да іх —
Да славы падкім?
...Спіць таварыш Дарагі,
А даўгі вяртаць —
Нашчадкам.**

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# МІЖ БЫЛЫМ І НАСТУПНЫМ

**СШЫТАК ЧАЦВЁРТЫ**

СЯРОД НЕГАТЫЎНЫХ, шкодных з'яў, якія мелі месца ў духоўным жыцці нашага грамадства і якія мы абавязаны цяпер рашуча запыніць, — сціранне гістарычнай памяці і размыванне нацыянальнага вобліку. Адно і другое ішло поруч — як адзіны працэс, і праводзілася скрозь і ўсюды, дзе толькі можна. Забіванне ў народзе памяці садзейнічала абезабліčванню нацыі, і наадварот — страта рыс уласнага нацыянальнага вобліку памагала глушыць гістарычную памяць. Ці гэта была толькі неразумная, абумоўленая невуцтвам і нізкай інтэлектуальнай культурай, даніна рэвалюцыйнаму часу, ці гэтак ажыццяўлялася свядомая стратэгічная (процілеглая ленінскай!) устаноўка, — адкажа будучыня. Але што рабілася нешта неразумнае, нядобрае і па сутнасці амаральнае — сёння гэта больш чым відавочна. Трацілі свае старажытныя назвы гарады, гарадкі, вёскі, вуліцы, плошчы; адвечныя, прыгожыя, самабытныя імёны са «святцаў» замяньваліся недарэчнымі, пачварнымі новаўтварэннямі, накшталт Сталініра, Рэвінтэр, Вільмэн, або — імёнамі замежнымі, якія «дома», напэўна, гучаць натуральна, а гвалтоўна перасаджаныя ў нашу мову выпіраюць з яе эўфанічнага строю. Выкарчоўваліся з народнага побыту здаровыя, прыгожыя даўнія традыцыі, звычаі, абрады. Гэта быў, можна сказаць, усеахопны наступ на народную культуру і мараль, на народнасць як адметную рысу светапогляду працоўнага чалавека і краевугольны камень яго эстэтыкі, на нацыянальныя асновы духоўнасці. У выніку, хацелі ці не хацелі, а замест яркай чалавечай асобы атрымлівалі безаблічную істоту — з вытраўленай душой і без маральнай апоры. Колькі іх сёння навокал — бяздушных, прымітыўных, тупых, жывёліста гнюсных і звяружыста жорсткіх істот! Асабліва—маладых гадамі. Газеты чытаць страшна пра іх цынічныя, садысцкія злачынствы. Можна запярэчыць: а прычым тут адно да другога — руйнаванне старых назваў або імён і фашыстоўская жорсткасць маладых садыстаў? А прытым, што ў жыцці грамадства ўсё ўзаемазвязана: руйнуецца культура, рушацца здаровыя традыцыі — рушыцца духоўнасць, разбураецца і руйнуецца чалавечае ў чалавеку. Не на тое ў свой час замахнуліся. Трэба было змагацца з сацыяльнай несправядлівасцю, з няпраўдай, з хлуснёю, з двайной мараллю, з хабарніцтвам, з бюракратызмам, а змаганне ішло... з памяццю, культурай і мовай народа. За вялікія памылкі — вялікая плата.

□

**«Я ЛЮБЛЮ РАСІЮ да болю сардэчнага». Гэта сказаў не лірык, і наогул не паэт, а вялікі, калі не найвялікшы, рускі сатырык Салтыкоў-Шчадрын. Нікому з нас, беларусаў, таксама не забаронена сказаць: «Я люблю Беларусь да болю сардэчнага». І хто скажа ці напіша так — публічна, адкрыта асуджаны за гэта не будзе. Але я ведаю таварышаў, якія, прачытаўшы такое прызнанне беларуса, дзесь унутры душы адрэагуюць нездавальненнем і непрыемна скрывяцца. «Ну, навошта? — запратэстуе кісла скрыўленая фізіяномія. — Навошта так падкрэсліваць сваю любоў да Беларусі? Гэта — нясціпла. І наогул... гэта можа прывесці... да ўхілу».**

**Аб тым, што Салтыкова-Шчадрына яго прызнанне ні да якага ўхілу не прывяло, таварышы не думаюць.**

**Ці трэба дабаўляць, што гэныя, знаёмыя мне кіслатварыя таварышы, самі беларусы? Канешне, беларусы! У гэтым і ўсё гора-бяда наша!**

□

ЗА НЕКАЛЬКІ ПЕРШЫХ ГАДОЎ існавання БССР было зроблена тое, чаго не маглі ва ўмовах царызму зрабіць за доўгія дзесяцігоддзі: у шырокіх масах беларускага народа выспела нацыянальная самасвядомасць, яна ахапіла ўсе слаі насельніцтва, асабліва вёску. У гарадах, што праўда, сітуацыя заставалася крыху больш складанай, больш супярэчлівай: прыціхлі да пары да часу сілы антыбеларускія — былыя чыноўнікі, гандляры, колішнія вайскоўцы, царскіх часоў «асветнікі» і «навукоўцы» і іншыя перакананыя вялікадзяржаўныя шавіністы. Як толькі надарылася магчымасць — яны павылазілі са шчылін і паказалі сябе. Можна не сумнявацца, які значны іх уклад у разгром гэтак званай беларускай «нацдэмаўшчыны», у дратаванне і вынішчэнне патрыятычнай беларускай інтэлігенцыі, у ліквідацыю беларускіх школ і шматлікіх разнастайных асяродкаў нацыянальнай культуры. І аднак жа тое, што ў сферы культурнай палітыкі было ажыццёўлена на Беларусі ў 20-я гады, вынішчыць дарэшты не ўдалося, аснова — засталася, і на ёй, хоць часам са скрыпам, адбывалася далейшае развіццё беларускай літаратуры, мастацтва, гуманітарнай навукі. На ёй, гэнай аснове, мы, шчыра кажучы, і ўтрымаліся.

□

**АДНО З САМЫХ нядобрых і шкодных параджэнняў адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмы—імкненне бачыць нацыяналізм у натуральным росце нацыянальнай самасвядомасці народа, яго мастацкай і навуковай інтэлігенцыі. Імкненне гэта, свядомае ці несвядомае жаданне—вельмі недарэчнае. Рост нацыянальнай самасвядомасці народаў і народнасцей нашай краіны—непасрэдны вынік перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая разбіла імперскую «турму народаў» (вызначэнне У. І. Леніна) і заклікала пабудаваць на яе месцы дом брацтва і дружбы народаў. Без росту нацыянальнай самасвядомасці не можа быць росту нацыянальнай культуры. Таму, калі мы не на словах, а напраўду зацікаўлены ў развіцці і нават росквіце нашай культуры,—давайце парадуемся пэўным зрухам у актывізацыі нацыянальнай самасвядомасці сярод беларусаў і паклапоцімся аб тым, каб гэта актывізацыя набывала ўсё больш дзейсны характар.**

□

КАБ «ДЗЕЙНІЧАЎ», у сэнсе — ідэалагічна, маральна і эстэтычна ўплываў на людзей мясцовы літаратурны ці краязнаўчы музей альбо нейкі помнік культуры, гісторыі, дойлідства — патрэбна культурнае асяроддзе, г. зн. асяроддзе з гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасцю. Іначай, пры агульным апрасценні душы, людзі будуць глядзець і на такі музей і на помнік раўнадушна, ды будуць адно здзіўляцца з тых, хто пра гэтакія рэчы клапоціцца: «Што — ім рабіць няма чаго, што гуляюць, як дзеці ў цацкі?..» Зноў і зноў прыходзіш да высновы: трэба пачынаць са школы; толькі добрая школа — верны шлях да стварэння сапраўды культурнага асяроддзя.

□

**ПАВОДЛЕ СТАЛІНА, толькі ў 1931 годзе адбыўся ў СССР пералом творчай і навуковай інтэлігенцыі ў бок сацыялізму. Што ён меў на ўвазе—які пералом? Успамінаю, што ведаю пра гэты год, пра гэты час на Беларусі. Ад згадак—цяжка на душы робіцца. У лістападзе 1930-га, даведзены Бэндам і бэндаўцамі да роспачы, робіць спробу самазабойства Янка Купала. У лютым 1931-га, адрынуты паплечнікамі па ленінскай партыі, затраўлены, зганьбаваны і апляваны, канчае з сабой першы прэзідэнт Акадэміі навук БССР гісторык Усевалад Ігнатоўскі. Тады ж, у гэтым самым годзе, затурзаны, хворы фізічна і зломлены маральна, Міхась Чарот піша свой ганебны верш «Суровы прыгавор падпісваю першым...» Можа, Сталін меў на ўвазе творчасць накшталт гэтага чаротаўскага верша? Вялікую трагедыю паэтаў, мастакоў, вучоных—іх адыход ад праўды, ад сумлення, ад свабоды творчасці, ад нацыянальнай свядомасці,—ён назваў пераломам у бок сацыялізму? Якім жа тады ён уяўляў сацыялізм? Ясна, што зусім не такім, якім яго ўяўлялі сумленныя перад сабой і рэвалюцыяй паэты, мастакі, вучоныя...**

□

НЕКАЛЬКІ СТАГОДДЗЯЎ мы, жыхары Вялікага Княства, былі «ліцвінамі» — так называлі нас суседзі і так называлі сябе мы самі. Не літоўцамі, а ліцвінамі. У знакамітым «Дзённіку» Фёдара Еўлашэўскага — канец XVI стагоддзя — чытаем: «маршалкавал межи послами наш литвин, князь Лукаш Болько Свирский». І яшчэ нават на пачатку XX стагоддзя гэтым тэрмінам карысталіся — прыгадаем апублікаваную ў 1902 годзе працу нашай паэткі Марыі Косіч «Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни». У вывучэнні гісторыі свайго народа мы неймаверна шмат страцілі ад таго, што існавала (ды і зараз існуе) тэрміналагічная неразбяpыха: «ліцвіны» скрозь і ўсюды ўспрымалася як «літоўцы». Па гэтай прычыне пра Вялікае Княства як пра супольную дзяржаву літоўска-беларускую дагматыкі ад гісторыі і слухаць не хочуць. Наогул жа пытанне наконт гістарычнай тэрміналогіі вельмі складанае. Змены ў найменні народа, у назве краіны адбываліся на свеце нярэдка.

□

**У БЕЛАРУСІ АМАТАРАЎ паэзіі, асабліва сярод моладзі, агулам шмат—у працэнтах бадай не менш, чым у іншых рэспубліках. Але—колькі з іх ліку носяць паэзію роднага краю ў сэрцы? Ці многія з іх набываюць кнігі паэтаў сваёй зямлі? У клубе знакамітага калгаса на сустрэчы з хлебаробамі і мясцовай інтэлігенцыяй чую пытанні пра многіх нашумелых сучасных маскоўскіх аўтараў—бачна, што тут цікавяцца імі, сочаць за іх творчасцю, за выступленнямі ў друку. Гэта—добра, канешне. Як-то кажуць, на здароўе! Але было б не добра, а выдатна, калі б такая ж цікавасць была выяўлена і да майстроў беларускага паэтычнага слова. На жаль, на жаль! Ні аднаго пытання ні пра аднаго з нашчадкаў Купалы і Коласа! У роднай беларускай вёсцы, на роднай беларускай зямлі!..**

**Што ў такія хвіліны робіцца на душы ў гэтых самых няшчасных нашчадкаў? А гэта тут нікога не цікавіць. Гэта сяго-таго зацікавіць толькі тады, калі паэт ад болю закрычыць. Тады будзе выказана абурэнне: што ён драматызуе становішча? Што за надрыў? Што за душэўная драма, калі так паспяхова—у цэлым па рэспубліцы — ідуць справы!**

□

НАМ У СПАДЧЫНУ, разам з усім добрым і светлым, дасталося і сёе-тое ад праклятай мінуўшчыны, у тым ліку—ад псіхалогіі колісь цёмных, прыгнечаных, прыніжаных, зняверaных у сабе людзей. Ад псіхалогіі халуйска-лакейскай, паводле якой усё разумнае, мудрае, таленавітае, геніяльнае—недзе там, за межамі Беларусі, а ў нас тут—нічога вартага няма. Гэтым у значнай меры тлумачацца нігілістычныя адносіны ў рэспубліцы да сваёй нацыянальнай культуры і да сваёй роднай беларускай мовы. Пакуль мы гэтай праклятай спадчыны канчаткова пазбавімся—пройдзе яшчэ, на жаль, багата часу. Хутка такое не робіцца. Павінны нарасці новыя пакаленні. І менавіта таму сёння максімум увагі трэба скіраваць на моладзь—дапамагчы ёй развіць у сабе пачуццё нацыянальнай і чалавечай годнасці.

□

**ЯКАСЦІ, якія мы, пісьменнікі, трацім у сабе і якіх не хапае героям нашых кніг,—гэта лепшыя якасці беларускага народа, беларуса-працаўніка. Вось—сацыяльная і нацыянальная праблема велізарнага маштаба і звышактуальнага значэння. Перараджаецца, каб не сказаць —выраджаецца, народ. Народ, як нацыянальна-этнічная адзінка са сваім тварам, характарам, душой, сваім духоўным абліччам. Дакуль жа мы будзем раўнадушна глядзець на гэта? На нашых вачах, нават у размовах з намі, добрыя вясковыя людзі — даяркі, механізатары, спецыялісты—цураюцца роднага слова і стараюцца патрафіць моўнаму валапюку чыноўнікаў, стараюцца далучыцца да індустрыяльнага шырпатрэбу масавай культуры, уступаючы гэтай ненажэрнай пачвары—каб паглынула! — духоўна-мастацкія каштоўнасці сваёй зямлі. Не думаць, чым усё гэта можа кончыцца для лёсу самога народа,—недаравальна.**

□

ЦЯПЕР МНОГІЯ ШУКАЮЦЬ адказу на пытанне, чаму і калі стала магчымым у нашым грамадстве пашырэнне бездухоўнасці, зніжэнне агульнага ўзроўню маральнасці, сумленнасці. І справядліва бачаць вытокі гэтых працэсаў у тых спосабах і метадах, якімі ажыццяўлялася кіраванне эканомікай і гаспадаркай краіны, вытворчасцю і размеркаваннем нацыянальнага прыбытку ў часы Сталіна і доўга пасля яго. У спосабах і метадах, якія абапіраліся на што хочаш, толькі не на здаровы сэнс, не на праўду і справядлівасць. Мала было відно здаровага сэнсу, праўды, справядлівасці і ў сферах культуры і асветы, што таксама адмоўна адбівалася на духоўным і маральным стане нацыі. Дзесяткі гадоў цягнецца ў нас, у Беларусі, сітуацыя, калі гэтак званы масавы чытач, глядач і слухач «спажывае» нацыянальную літаратуру і мастацтва мізэрнымі дозамі. Якою цаной нацыя плаціць за гэта—хто мае вочы, той бачыць. Нараслі і працягваюць расці пакаленні людзей нацыянальна маласвядомых, а то і зусім не свядомых. Бадай ніхто з прыродных беларусаў сёння не адважыцца сказаць: я—не беларус, я—рускі, бо адчувае: ну, які ж я рускі, вунь яшчэ дзед і баба жывуць пад Слуцкам, ды і прашчуры там жылі спрадвеку... Але ж ён і не можа ўпэўнена сказаць: я—беларус, бо... які ж я беларус? Па чым гэта відаць? Я ж нават сваёй роднай мовы адцураўся! Не ўмею гаварыць па-беларуску. Кніг беларускіх не чытаю. Беларускіх газет і часопісаў не выпісваю. У беларускі тэатр не хаджу. Беларускіх танцаў не танцую. Беларускіх песень не пяю. Гісторыі беларускага народа не ведаю, ні яго традыцый, ні яго звычаяў... Ну, які ж я пасля ўсяго гэтага беларус? Ніякі!.. Хм, дык

(Працяг на стар. 12).

**Заканчэнне. Пачатак — у нумарах «ЛіМа» за 17 і 24 лютага, 10 сакавіка.**

*Нам засталася спадчына...*

# ЭПІЧНАЕ ПОЛЕ ГІСТОРЫІ

**Алег ЛОЙКА**

ЭПІЧНАЕ поле гісторыі заўсёды шырокае. Быліны, як вядома, любілі вобраз чыстага поля, у яго выпраўляючы сваіх герояў. Ды быліннае чыстае поле не было пустым абсягам, якім нашу гісторыю хацелі бачыць, ды і дасюль бачаць некаторыя. Не толькі вульгарны сацыялагізм адбіраў у нас гісторыю (гісторыя народаў СССР да 1934 года не выкладалася),— адбіраў яе на свой лад і культ асобы і так званы застойны перыяд са сваім лозунгам «даеш сучаснасць».

Якія ж нашы адносіны да спадчыны сёння? Сёння, вядома, адышло ў нябыт франтальна-татальнае, трацкісцкае ў сваёй ідэалагічнай сутнасці адмаўленне цікавасці да нацыянальнага мінулага, калі лічылася, што «праступна ўвасхрашаць мінулае». Словы, узятыя ў двукоссі, на жаль, з тэксту, што вядомы як «Адкрыты ліст Янкі Купалы», які быў надрукаваны ў снежні 1930 года ў газеце «Звязда». Балюча і крыўдна згадваць такое!

**Ад прадзедаў спакон вякоў**
**Нам засталася спадчына,**
**Паміж сваіх і чужакоў**
**Яна нам ласкай матчынай.**

Параўнайце: «Спадчына... ласкай матчынай...» і — вышынска-бэндаўскае: «Праступна!» Няхай мы і ведаем сёння, што «Адкрыты ліст»— фальшыўка Л. Бэнды, ды ад гэтага не лягчэй: каварства жахае!

Культ асобы шукаў у гісторыі алюзіяў і рабіў героем адпаведна — у рускай гісторыі — не вечавы Ноўгарад ці Пскоў, а магільшчыкаў феадальнай дэмакратыі на Русі Івана III і Івана IV. Калі героямі рускай гісторыі не сталі вальналюбныя Ноўгарад і Пскоў, то не мог стаць героем гісторыі беларусаў і Полацк, які 400 гадоў справаваўся вечам. Калі апрычнікаў культу прываблівала змрочная фігура тырана Івана IV, то не магла іх цешыць постаць Льва Сапегі, які дарма спадзяваўся на замірэнне з Іванам IV.

Вульгарны сацыялагізм забіраў у нас гісторыю агулам і па частках. Па частках, калі Францішка Скарыну абʼяўляў манахам-цемрашалам, калі толькі дзеячаў праваслаўнай царквы абʼяўляў патрыятычнымі, перадавымі, калі ледзь не аднаго Васіля Вашчылу з-за яго сацыяльнага паходжання пакідаў у нацыянальных героях.

Але найперш аб вульгарнай тэндэнцыі дэгераізацыі нацыянальнай гісторыі. Хто з нас асабліва ведае сёння пра герояў нашай гісторыі года 1481-га — пра слуцкага князя Міхала Алелькавіча, пра князёў Фёдара Бельскага і Івана Гальшанскага, пра герояў барацьбы з крымскімі татарамі, пра герояў Лівонскай вайны — не з боку Івана Грознага, а з боку Вялікага княства Літоўскага? Бо ж у Вялікім княстве Літоўскім да XVI стагоддзя цалкам сфарміравалася і культура дзяржаўнага мыслення і пачуццё патрыятызму, якое сённяшнія рускія гісторыкі называюць «дзяржаўным». Іншымі словамі, і шляхта і магнаты ў сярэдневяковай Беларусі былі носьбітамі «нармальных» патрыятычных пачуццяў. Патрыятычныя пачуцці іх фарміравалі і «Слова пра паход Ігаравы», і беларуска-літоўскія летапісы і хронікі, і творчасць Ф. Скарыны, Л. Сапегі, А. Рымшы.

Мы — спадчыннікі герояў «Слова пра паход Ігаравы» — нароўні з народамі рускім і ўкраінскім. Наша ваяцкая гісторыя сярэднявечча як бы ў «вілцы» паміж «Словам пра паход Ігаравы» і «Песняй беларускіх жаўнераў 1794 г.» — песняй касінераў-беларусаў Тадэвуша Касцюшкі. Ды героі нашай сярэдневяковай гісторыі — не толькі паўстанцы-сяляне, казакі родам з Беларусі, але і служылы сярэдневяковы люд — шляхціц, а то і магнат, калі апошні быў рыцарам высакароднага мяча. Вульгарныя ж сацыёлагі выкінулі з нашай спадчыны гісторыю і славу абарончага і караючага за няцноту, здраду, каварства беларускага мяча, і мы пераможцу ў 60 бітвах вялікага гетмана, князя Канстанціна Астрожскага не лічым сваім гераічным продкам, дні перамогі над агрэсіўнымі крымчакамі пад Клецкам і на Прыпяці не лічым сваімі святамі, як і дзень перамогі над мангола-татарамі пад Крутагорʼем ля Койданава, як і дзень Грунвальда, паэтызуючы які ў паэме «Пруская вайна», Ян Вісліцкі натхнёна апяваў сваіх землякоў з Варвары-Беларусі — воінаў-альбарусінаў.

Як на сёння відаць, «Песняй пра зубра» Міколы Гусоўскага, перакладзенай на сучасную нашу мову Язэпам Семяжонам, працэс, названы У. Калеснікам «вяртаннем зор», толькі пачаўся. І цяпер чарга не толькі на паэму 1516 года Яна Вісліцкага «Пруская вайна», але і на эпас Андрэя Рымшы — на паэму «Дэкатэрас Акраама, або Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў... Крыштафа Радзівіла...» (1585).

Паэма А. Рымшы пэўна ў найбольшай ступені стала выражэннем як рэгіянальнага, літоўска-беларускага патрыятычнага пафасу, звязанага з усведамленнем айчыны — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, так і агульнадзяржаўнага, звязанага з вернасцю старабеларускага шляхціца польскаму каралю, з рыцарскім ідэалам вернасці васала сюзерэну, вернасці А. Рымшы свайму военачальніку і мецэнату К. Радзівілу і каралю Рэчы Паспалітай Стафану Батуры (Баторыю). Паэма А. Рымшы разам з тым—апафеоз шляхецкім вольнасцям, якімі беларуская шляхта ў складзе Рэчы Паспалітай справавалася — апафеоз натуральны, заканамерны, бо ў XVI стагоддзі шляхецкія вольнасці не вялі яшчэ Рэч Паспалітую да згубы, а былі трыумфам феадальнай дэмакратыі, шляхтай заваёванай і сцверджанай. У паэме А. Рымшы — шырокае адлюстраванне падзей Лівонскай вайны, прычым аўтэнтычнае,— адлюстраванне відавочцы, сведкі падзей, які не прамінуў ва ўступе да сваёй паэмы гэта спецыяльна адзначыць: «Аб тым гаворку сваю вяду, што вочы нашы бачылі...» І яшчэ ў паэме А. Рымшы выразна выявіла сябе сацыяльная псіхалогія ўдзельніка паходу — радавога шляхціца з ягоным разуменнем крыўды і помсты — тыпалагічна сярэдневяковым разуменнем, звязаным з еўрапейскім рыцарскім культам і ўсходнеславянскай традыцыяй «давання» праўды, клятвы за змір і злюб і адчування сябе справядлівым пры пакаранні парушальнікаў зміру і злюбу. Якраз парушальнікам міру ў паэме паказаны Іван Грозны, за што ён не так воляю аўтара, як, па ягонаму разуменню, боскім промыслам караецца, і таму ў цэлым ваенны паход К. Радзівіла і апяваецца як справядлівы, хоць паэт не раз паказвае і жорсткасць паходу, і крывавасць. У паэме пагэтаму развіваецца і матыў агульна-гуманістычнага асуджэння вайны ўвогуле, ідзе ўпамінанне «акрутнага» бога вайны Марса, «ненасытнага людской крывёй»; ёсць і спачуванне да ахвяр расправы, жаль да зямлі, паленай і дратаванай ваенным паходам.

У мастацкіх адносінах паэма А. Рымшы не такая цэласная, як «Слова пра паход Ігаравы» ці «Песня пра зубра» М. Гусоўскага, бо ў ёй мастацкія кавалкі перамяжоўваюцца з дзённікава-рэляцыйнымі. Але ў цэлым твор А. Рымшы менавіта з той спадчыны трох народаў-суседзяў — палякаў, літоўцаў і беларусаў, якая ў нас вульгарнымі гісторыкамі была забрана і вяртаць якую таксама час.

Асабліва ж гісторыя ў нас была забрана ў сувязі з тым, што амаль уся гісторыя Вялікага княства Літоўскага была вынесена, як то кажуць, за дужкі гісторыі беларускага народа ў той час, калі тая з фарміраваннем Вялікага княства Літоўскага пачыналася, у яго абсягах з XIV да XVIII ст. працякала. У цэлым у культаўскую схему гісторыі народаў СССР Вялікае княства Літоўскае не ўкладвалася, прынамсі, па дзвюх прычынах: па-першае, таму, што ўвайшоўшы ў склад Рэчы Паспалітай, Вялікае княства таксама стала краінай шляхецкіх вольнасцей, а гэта супрацьстаяла ідэалу Івана Грознага. Па-другое, дзейнічаў перастраховачны прынцып недапушчэння сапраўды навукова-гістарычнага погляду на гарады як цэнтры абʼяднання і фактары гістарычнага саперніцтва—дзейнічаў з-за канʼюнктурнай боязі навесці які-небудзь цень на горад Маскву як на цэнтр новага сацыялістычнага яднання народаў. І што з таго, што Масква сацыялістычная ў выніку вульгарызацыі гісторыі аказвалася як бы прамой пераемніцай абʼяднальных феадальна-цэнтрысцкіх тэндэнцый («Масква — трэці Рым, а чацвёртаму не бываць»!),— вульгарызатараў гэта не шакіравала. І яны, каб нібы найпэўней сцвердзіць ідэю дружбы народаў, адвольна перакрэслівалі праўду гісторыі, якая, вядома ж, была не ідэальнай, а канфліктнай, драматычнай, трагічнай. Ды ўтойвалася не толькі канфліктнае, але і тое, што здаецца, замоўчвацца не павінна было б, бо было, напрыклад, у нас, у сярэдневяковай Беларусі, своеасаблівай рэгіянальнай школай дружбы народаў.

Слова «унія», як вядома, у перакладзе з лаціны абазначае «саюз». Як жа нам у Савецкім Саюзе не азірацца на нашых продкаў, што саюзу, злюбу народаў шукалі яшчэ ў сярэднявякоўі?! Крэўская унія (1385) — адна з першых здзейсненых у Еўропе, і яна не распалася, як Кальмарская, даўшы ў выніку больш гістарычна светлага, чым унія Англіі з Шатландыяй. Крэўская унія — падняты шлагбаўм у Рэч Паспалітую — краіну шляхецкіх вольнасцей, на якую як на ўзор дзяржавы глядзеў гуманіст Эразм Ратардамскі.

Праблемы нашай нацыянальнай спадчыны ўвогуле ўскладнёныя тым, што гістарычныя вытокі нашай культуры і літаратуры мы амаль не звязваем з вярхамі феадальнага грамадства, агулам аднёсшы культуру гэтых вярхоў да ненароднай, недэмакратычнай спадчыны, механічна ўслед за вульгарызатарамі разумеючы тэзіс У. І. Леніна аб дзвюх культурах у кожнай нацыянальнай культуры. І, такім чынам, наша культура феадальных часоў, звязаная з імёнамі Льва Сапегі ці Міхала Радзівіла, Канстанціна Агінскага, несправядліва аказваецца па-за нашым прызнаннем.

Што ў дадзеным выпадку найперш трэба падкрэсліць? А тое, што наша народнасць у сярэдневякоўі пачыналася як «нармальная» народнасць у поўні свайго сацыяльна-класавага складу. Гэта ў новым часе, у XIX, на пачатку XX стагоддзя беларуская нацыя складвалася ў мужыцкую ў сувязі з апаляченнем і русіфікацыяй нацыянальных вярхоў, у сувязі з нераўнамерным сацыяльна-класавым складам нацыі. А ў XVI стагоддзі феадалізм у Беларусі быў на грэбені свайго гістарычнага авансавання, мясцовыя феадалы былі тут цэментуючай сілай, якая арганізавала край палітычна, эканамічна, культурна, ідэалагічна. Якраз на пікавай вяршыні гэтага працэсу быў магнат — князь Леў Сапега. І трэба прызнаць, што патрыятызм Льва Сапегі быў гістарычна-канкрэтны, быў далейшым развіццём дэмакратызму Францішка Скарыны як выразніка інтарэсаў феадальнага сярэдняга саслоўя — паспольства, бо нездарма ж у публіцыстыцы Льва Сапегі — вуснай і пісьмовай — разпораз гучаць скарынінскія формулы: «О **сполное** добро всих», «сторожи **посполитое** вольности».

Як вядома, патрыятызм Ф. Скарыны быў універсальна-рэнесансны: мы не можам назваць яго ўсвядомлена беларускім, бо, падкрэсліваючы свой полацкі пачатак, Скарына не аперыруе паняццямі «Белая Русь» ці «Литвин», у той час як Л. Сапега, сучаснік Андрэя Рымшы, як і той, мог бы ўзяць сабе псеўданімам слова «Літвін», якое ўказвала на прыналежнасць да Літвы, як Вялікага княства Літоўскага, Беларуска-Украінскага і Жамойцкага.

Леў Сапега ўвогуле, нягледзячы на сваё княжацкае паходжанне, на тое, што пад канец жыцця перайшоў у каталіцызм, даўшы гэтым не лепшы прыклад іншым беларускім магнатам і шляхце, тым не менш застаецца адной з першых зорак нашага сярэднявечча, вяртанне якой наш час толькі прыспешвае. Леў Сапега — выдатны военачальнік, вялікі гетман літоўскі, а пры канцы жыцця — маршалак Вялікага княства Літоўскага, выдатны дыпламат, бліскучы публіцыст, рэдактар трэцяга Статута Вялікага княства Літоўскага (1588) — ва ўсіх сферах сваёй дзей-

**Аляксей КАЎКА**

# НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

## Памяці М. М. Улашчыка

У Маскве, у Інстытуце гісторыі АН СССР адбыліся чытанні, прысвечаныя памяці выдатнага беларускага савецкага гісторыка М. М. Улашчыка (1906—1986). У сустрэчы, акрамя супрацоўнікаў аддзела крыніцазнаўства гісторыі СССР дакастрычніцкага перыяду згаданага інстытута, прынялі ўдзел навукоўцы з інстытутаў славяназнаўства і балканістыкі, археалогіі АН СССР, Дзяржаўнага гістарычнага музея, прадстаўнікі Археалагічнай камісіі СССР. Адкрыў і вёў сустрэчу доктар гістарычных навук В. І. Буганаў, загадчык аддзела, у якім звыш трыццаці гадоў працаваў М. М. Улашчык. У чытаннях прынялі ўдзел вядомыя савецкія вучоныя, дактары гістарычных навук У. А. Кучкін, У. Г. Літвак, Л. Л. Мураўёва, Л. В. Аляксееў, а таксама кандыдат гістарычных навук С. У. Думін.

Выступленне ж нашага земляка, актыўнага аўтара «ЛіМа» Аляксея Каўкі штотыднёвік змяшчае сёння на сваіх старонках.

**Рыхтуючыся да нашай сустрэчы, паглядзеў у сваім архіве ўсё, што звязана з Мікалаем Мікалаевічам. На адным з апошніх прыжыццёвых фотаздымкаў ён сфатаграфаваны ў дзень свайго 80-годдзя ля габелена з выявай знакамітага Карамзіна, сярод родных і блізкіх, якія віншавалі ў той вечар юбіляра. Гаворка, зразумела, не аб простых аналогіях. І ўсё ж у сімвалічным суседстве аўтара гісторыі беларуска-літоўскага летапісання з аўтарам «Гісторыі дзяржавы Расійскай» ёсць нешта адметнае. Бо ў спасціжэнні, раскрыцці лёсаў свайго народа Улашчык таксама праявіў сябе першапраходцам, падзвіжнікам, першаадкрывальнікам, здабыў сваімі працамі званне гісторыка ў найвысокім сэнсе гэтага слова.**

**Год назад часопіс «Полымя» ў памяць аб вучоным апублікаваў верш «Гісторык»; аўтар яго — вядомая паэтэса Данута Бічэль-Загнетава, для якой, як і для многіх іншых беларускіх інтэлігентаў, М. Улашчык быў і застаўся духоўным настаўнікам, прыкладам вернасці і самаадданасці ў служэнні народнай справе. У ім ёсць такія радкі:**

Шукальнікаў долі імёны
Ачысціць ад гнусу маны.

**Ад «гнусу маны» і замоўчванняў ачышчаецца імя выдатнага вучонага. Убачыла свет — са старонак таго ж «Полымя» — яго патаемная работа «Вёска Віцкаўшчына» (выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпускае яе асобнай кнігай). У рэспубліцы выдадзены ці рыхтуюцца да выдання персанальныя і тэматычныя энцыклапедыі па літаратуры і мастацтве, этнаграфіі Беларусі, пра Ф. Скарыну, М. Багдановіча, дзе асветлены ўклад М. Улашчыка ў развіццё нацыянальнай навукі і культуры. Вось-вось чакаецца зʼяўленне ў кнігарнях яшчэ аднаго неардынарнага энцыклапедычнага тома — «Статута Вялікага княства Літоўскага 1588» з факсімільным узнаўленнем поўнага тэксту вядомага помніка. Помніцца, ужо безнадзейна хвораму, за некалькі дзён да смерці паведамілі Мікалаю Мікалаевічу добрую вестку: аб задуманым перавыданні Статута, аб тым, што ў рэдакцыі БелСЭ разлічваюць на кансультацыю, падтрымку буйнога спецыяліста Улашчыка. Не забудзецца журботна-прасветленая ўсмешка на хворым твары, слабы голас: «Бачыце, чаму ж не папрацаваць цяпер, але ж вось...» Ды жыве ідэя, працягваецца справа Улашчыка. Тыя ж беларускія энцыклапедысты распачынаюць падрыхтоўку шматтомнай энцыклапедыі па гісторыі, аднатомнікаў па археалогіі, архітэктуры Беларусі. У выдавецтве «Навука і тэхніка» плануюць факсімільнае перавыданне камплектаў «Нашай Нівы», адной з першых беларускіх легальных газет, якая адыграла выключную ролю ў нацыянальным, грамадска-палітычным абуджэнні беларусаў напярэдадні Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.**

**У дыскусіях апошніх месяцаў, са старонак рэспубліканскага і ўсесаюзнага друку пачаўся прарыў дагматычнай блакады, якой вульгарызатары ад навукі на працягу застойных дзесяцігоддзяў скажалі і змяртвялі гістарычнае мінулае беларускага народа. Спашлюся на матэрыялы пленума праўлення СП БССР «Гісторыя народа і літаратура», на публікацыі М. Ермаловіча, А. Грыцкевіча, В. Грыцкевіча, А. Мальдзіса, У. Калесніка, В. Круталевіча, У. Арлова, С. Думіна, А. Сідарэвіча, В. Скалабана, К. Тарасава і Э. Ялугіна. Вяртаюцца да народа імёны забытых ці абылганых дзеячаў беларускага нацыянальнага руху, відных вучоных, пісьменнікаў, большай часткай знішчаных у гады культу асобы. Не магу таксама не прыгадаць актывізацыю гісторыка-патрыятычнага і літаратурнага руху моладзі ў самадзейных абʼяднаннях «Талака»,**

## Паэзія

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**



### Пра аптымізм

Перачытала даўнія вершы —
Самыя шчырыя, самыя першыя —
І вывад зрабіла:
я мо з калыскі
Неверагодная аптымістка.

Свет да мяне,
покуль мела наіў,
Сонечным бокам павернуты быў,
І ўсё, што магло мне
азмрочыць чало,
У ценю надзейна схавана было.

Не выключэнне я з правіл, аднак жа.
Дружна газеты і дыктары нашы
Нас пераконвалі: сонца ў зеніце!
Толькі зірніце
ды не змаргніце!

Нашы дырэктары,
нашы міністры —
Спрэс паслухмяныя аптымісты,
І за каштоўную якасць натуры
Ім выдаюць немалыя купюры.

Вось і не бачаць уласнай зямлі,
Дзе соль Салігорска
з'ядае палі,
Дзе беспрытульна і гулка — гады —
Сноўдае рэха народнай бяды.

Ды не падумайце, зрок у парадку:
Бачаць паперыну, візу, пячатку.
Тая папера — як індульгенцыя.
(Хай камплексуе інтэлігенцыя.)

Пустка палеская, рэкі-канавы —
То аптымістаў сумныя справы.
Гэта дакор — невымоўны, вялізны —
Нам
і казённаму аптымізму.

●

Калі народ ідзе на звод,
Губляе ўпэўненасць народ.

Ён, як сляпы на раздарожжы,
Гатоў кідацца убакі
І па жыцці ужо не можа
Ісці без нечае рукі.

Калі народ ідзе на звод,
Зацятым робіцца народ.

Ён пазбягае горкай праўды.
І, у чаканні лепшых дзён,
Не церпіць жалю і спагады,
Бо сам сябе шкадуе ён.

Ён звыкла слухае прамовы,
На працу раненька ўстае,
А ім не сказанае слова
Баліць і грудзі рве мае.

●

Ластаўкі зляцеліся на сход.
Птушыны заклапочаны народ,
Вядома, абышоўся без даклада,
Ды калгатні аднак
было багата.

— Пахаладнела, — піскнула адна.
Другая запярэчыла:
— Мана!
Пакуль хапае мух — датуль і лета.
(Ухвальна ўсе заціўкалі на гэта).

— І ўсё ж — туман, — мацнеюць
галасы. —
Сцюдзёным, зімнім вее ад расы...
— Даліся вам і росы, і туманы:
Штолета выбіраемся зарана!

— Спытаем у старэйшых...
Ім відней,
Калі ляцець.
— Збіраемся!
— Хутчэй!..

Сядзела моўчкі ластаўка старая.
Яна такія сходы памятае.

**ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ**

# ВЯРТАННЕ З-ЗА НЕБАКРАЮ

Лютаўскія нумары рэспубліканскіх літаратурна-мастацкіх часопісаў, як і папярэднія, даюць нямала падстаў для роздуму. Як звычайна, глыбока мастацкая, востра праблемная палымянская проза: апавяданне В. Карамазава «Супраць неба — на зямлі» — яшчэ адно сведчанне ў карысць таго, наколькі патрэбны нам так званы «малы жанр» і наколькі выразна раскрывае ён свае мажлівасці пад пяром майстра; аповесць В. Іпатавай «За морам Хвалынскім» (змешчаны пачатак твора) — грунтоўнае прачытанне драматычнай старонкі нашай нацыянальнай гісторыі.

Калі ўжо гаворка зайшла аб прозе, добра глядзіцца гэты раздзел і ў лютаўскім «Нёмане». Зноў жа найперш дзякуючы В. Карамазаву — у аўтарызаваным перакладзе Н. Ігруновай друкуецца яго аповесць-эсэ «Глядзіце ў вочы лемура», прыцягвае ўвагу і пакутніцкая адысея Ю. Фелічкіна «30 000 дзён аднаго жыцця». Ёсць што чытаць і ў аповесці П. Ламана «Купалінка» («Маладосць»), хоць ёсць аб чым і з аўтарам паспрачацца.

Няблага гавораць за сябе ў часопісах паэзія, публіцыстыка, крытыка. І ўсё ж, мы прывыклі ў апошні час шукаць у чарговых нумарах часопісаў найперш тое, што вяртаецца да сучасніка з-пад напластаванняў гадоў, вяртаецца з-за своеасаблівага небакраю забыцця, бо пра надрукаванне многіх твораў у застойныя гады нават марыць не даводзілася.

Аднак і тут ужо ёсць нагода для радасці. «Загаварыла» унікальная бібліятэка аднаго з самых вядомых нашых бібліяфілаў, пісьменніка Б. Сачанкі. У часопісе «Полымя» змешчаны асобныя творы са зборніка К. Сваяка «Мая ліра», выпушчанага яшчэ ў 1924 годзе. Гэтай публікацыі папярэднічае прадмова Б. Сачанкі, у якой падрабязна прасочваецца жыццёвы і творчы шлях творцы. Б. Сачанка піша: «Не ўсё напісанае Казімірам Сваяком раўназначна і вытрымала выпрабаванне часу, але ў лепшых яго творах астаўся бунтарскі дух, светлыя думкі і мары, вера ў свой народ, яго шчаслівую будучыню, вялікая любоў да роднага краю і простага працоўнага чалавека. Гэтыя творы заслугоўваюць таго, каб іх ведалі, а само імя Казіміра Сваяка — любові і шчырай пашаны».

Сапраўды, тое, што зрабіў гэты католік для развіцця нацыянальнай літаратуры на самым пачатку яе якасна новага станаўлення і развіцця, па сіле далёка не кожнаму «атэісту» з яго нігілістычным стаўленнем да мінуўшчыны, спробай абавязкова вышукваць тое, што «шкодна» для дня сённяшняга. А менавіта К. Сваяк быў адным з нямногіх, хто ўжо на пачатку стагоддзя верыў, што яго народ мае права на сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне.

Менавіта гэтай глыбокай, усвядомленай верай напоўнены і радкі дзённіка К. Сваяка «Дзея маей мыслі, сэрца і волі», датаваныя 1913 годам (сам жа дзённік быў апублікаваны ў 1932 годзе). Цытата, якую прыводзіць Б. Сачанка, досыць разгорнутая, спынімся толькі на гэтым: «Сягоння, слухаючы звон наш цудны касцельны, раблю пробу аддаць уражанне вершам. Па-польску пішуць усе. Беларус — сірата: смяюцца з яго мовы. Я люблю бедных, апушчаных.. Буду пісаць па-беларуску. Мова беларуская ёсць гладкай і згучнай: можа служыць і да паэзіі... Пастараюся выгладзіць стыль свой беларускі. Згодзіцца ў будучыні».

У гэтай жа споведзі К. Сваяк сціпла выказваўся: «...але сам сябе да паэтаў залічыць не важуся». Канечне, творчасць яго не ўзнімаецца да сусветных узораў, але яна з тых вабных кветачак і травінак, з якіх пазней і пачало кусціцца разнатраўе нацыянальнай паэзіі. Не пісаць паэзіі К. Сваяк проста не меў права. Ды пра гэта найлепш сказана ім самім у вершы «Мест прадмовы»: «Не пішу я для забавы, ні для бліхтру, ані славы, ні на смех табе, бязверца, — пішу я, бо плача сэрца».

Ды як не плакаць было сэрцу, калі наўкола морам разлілося народнае гора. К. Сваяк расказваў пра «дзяўчынку з вёскі неўдалёчкі», якая «умёрла з гора: з голаду вайною, і так жа сумна прад сконам глядзела, як застывала мёртвай цішынёю». «Спавіў... сэрца жаль» яму, калі адчуў: «Зямліца прошласці ціхой, крывавай спісана рукой, Айчызна—Маці—Беларусь, цяжкі лёс Твой». І гэты ж жаль прысутнічаў тады, калі паэт, быццам паядноўваўся з самім наваколлем — «жаль па цудоўным сне, жаль па маей вясне».

Праз увесь гэты жаль, душу, спакутаваную і фізічна, і маральна, і духоўна, зноў напаўняла вера. Пра што і адзін з лепшых вершаў К. Сваяка «Брату настаўніку»:

**Не сумуй, хоць льюцца слёзы,**
**Будзь і смелы і цвярозы;**
**Вер, што Беларусь устане,**
**Згіне хітрых панаванне.**

Творчасць тых, хто стаяў ля саміх вытокаў нашага нацыянальнага адраджэння, тым і цікавая, што яна зместам сваім заўсёды была звернута ў заўтрашні дзень, а значыць—у наша сёння. Яна па-ранейшаму — актуальная. Тым больш, калі гэта творчасць такіх сталых аўтараў, якім быў Андрэй Мрый.

Цяпер проза А. Мрыя, паскорана вяртаецца чытачу. Дзякуючы рупнасці С. Грахоўскага і Я. Лецкі, летась у часопісах «Полымя» і «Маладосць» пабачылі свет раман «Запіскі Самсона Самасуя» і асобныя апавяданні пісьменніка. Цяпер у «Беларусі» — працяг знаёмства з навелістыкай А. Мрыя. Больш таго, менавіта апавяданнямі «Тварам да вёскі» і «Абстрыкаўся» Я. Лецка распачаў на старонках часопіса «Анталогію беларускага апавядання 20-х гадоў», папярэдне сказаўшы ўхвальнае слова пра творчасць А. Мрыя, у прыватнасці, пра яго навелістыку.

Прапанаваныя апавяданні даюць нямала для лепшага разумення творчага вобліку творцы, хоць нельга не пагадзіцца і з Я. Лецкам: «гэта яшчэ не той А. Мрый, які крышку пазней, у канцы 1926 года, стане сябрам згуртавання «Узвышша». Адбываецца свайго роду разведка — тэмы, характараў, вобразаў. Пісьменнік як бы намацвае тыя жыццёвыя імпульсы, якія ў далейшым будуць жывіць усё напісанае ім, ператвараючы яго ў мастакоўскую з'яву. Але гэтая проба свайго голасу адбываецца досыць упэўнена. Перафразіруючы словы самога А. Мрыя, можна сказаць, што ён піша з «тварам да чалавека».

«Таварыш з цэнтру» з апавядання «Тварам да вёскі» — гэта, на шчасце, пакуль што не закамплексаваны чыноўнік, які ва ўсім гатовы бачыць схаваную «контру», і не грозны «цэушнік», у якога, апроч лозунгаў, за душой нічога няма. Прыезджы з той кагорты людзей, што не толькі верылі ў Савецкую ўладу, а і сваімі канкрэтнымі справамі, можна сказаць, рухалі яе наперад, адчуваючы саму перспектыву: «Я — сапраўдны аграном. Але я лічу, каб перабудаваць усё на новы лад, трэба заахвоціць людзей, трэба закрануць у іх эстэтычную жылку, трэба так паставіць справу, каб зьявілася імкненьне (захаваны аўтарскі правапіс. — **А. К.**) да прыгажосьці жыцьця, каб узмацнілася нянавісьць да гразі, бруду, цемры».

Як жа непадобны да чалавека, што называе сябе «тварам да вёскі», персанаж апавядання «Абстрыкаўся» Шмыцік, які прыехаў ў мястэчка Карозу «як сябар выбарчай камісіі». У першым творы навідавоку лірычныя адценні ў пісьме А. Мрыя, ён не хавае свайго захаплення, калі бачыць, як

**ЯК ЖЫВЕШ, ЛІТАБ'ЯДНАННЕ**

# ЁСЦЬ НАД ЧЫМ ПРАЦАВАЦЬ

**У апошнія гады літаратурнае аб'яднанне пры нашай раённай газеце «За перамогу камунізму», можна сказаць, не працавала. Нават малалікія пасяджэнні перасталі праводзіць. Пра літаратурную вучобу і гаварыць нявартa. А, між тым, дзесьці далёка ад Слоніма казалі-пісалі: літаб'яднанне працуе добра. Як-ніяк, тут тры члены СП БССР.**

**Доўга не збіраліся пачаткоўцы і летась — пасяджэнне ўсё адкладвалася і адкладвалася, пакуль, нарэшце, моладзь не заявіла рашуча: «Альбо будзем, *альбо не*». *Бурна праходзіла* тое пасяджэнне. Хтосьці пакрыўдзіўся, хтосьці застаўся незадаволены, але пасля яго нешта, здаецца, зрушылася. Новы кіраўнік літаб'яднання С. Чыгрын прыкінуў план работы, рэдактар газеты С. Прасняк падтрымаў скіраванасць пачаткоўцаў на самастойнасць. *Узяліся* за сапраўдную літаратурную вучобу. Перш-наперш прааналізаваны лісты з вершамі, іншымі творамі, якія доўгі час праляжалі ў стале рэдакцыйных шуфлядак. Здзівіла, нават ці не *насцярожыла* тое, *што* большасць вершаў на рускай мове. Можна зразумець ураджэнца Расіі Р. Пастухова, які піша на сваёй роднай мове. Ну, а як разумець хлопцаў і дзяўчат беларускай вёскі, беларускага горада.**

**Добразычліва, глыбока прааналізавалі апавяданні Станіслава Ярашэвіча. Думаецца, гаворка прынясе карысць пачынаючаму празаіку. Члены літаб'яднання заўсёды ўважліва слухаюць Васіля Рыгоравіча Супруна, які не толькі шмат гадоў вывучае гісторыю Слонімшчыны, але і выдатна адчувае паэтычны *і празаічны* радок. Багаты літаратурны вопыт у паэта ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Алеся Сучка (Пятра Навумавіча Дабрыяна). Упэўнена заяўляе аб сабе празаік Іван Сяргейчык, мацнее паэтычны талент Ірыны Войткі. Хочацца спадзявацца, што неўзабаве іх творы мы ўбачым у рэспубліканскім друку.**

**А вось Гродзенскае аддзяленне СП БССР нас нешта не заўважае. Праўда, паслалі свае творы ў сумесны зборнік, які па ініцыятыве пісьменнікаў Гродзеншчыны маецца выйсці ў свет. Ды на гэтым, бадай, і ўсё. Больш цесныя сувязі наладжаны ў нас з абласным аддзелам культуры. Скажам, у кастрычніку мінулага года ў Слонімскай гасцёўні прайшоў семінар «Слонімшчына літаратурная» з удзелам бібліятэкараў усёй вобласці. Карысць ад яго, канешне, узаемная.**

**Вядома, літаратурная вучоба — не адзіны клопат пачаткоўцаў. *Яны ж яшчэ і носьбіты* роднай культуры, яе актыўныя прапагандысты. Як вядзецца гэтая работа? Нястомны даследчык краязнаўца С. Чыгрын падрыхтаваў літаратурную старонку «Спадчына»: няхай бачаць слонімцы, што на іхняй *зямлі даўнія і слаўныя* літаратурныя традыцыі. Сёлетні год быў надзвычай багаты на сустрэчы з чытачамі, асабліва са школьнікамі. Акрамя таго, на старонках «раёнкі» мы распачалі і вядзём шырокую гаворку аб праблемах роднай мовы. Увасобілася ў жыцці яшчэ адна добрая задумка: арганізавалі філіял літаратурнага аб'яднання — клуб аматараў беларускай культуры.**

# Але надзея — ёсць

АГАВАРУСЯ адразу: такія паняцці як «мастацкая праграма», «рэпертуарны напрамак», «ідэйна-эстэтычны ўзровень» і да т. п., у гэтых нататках ужываць не буду. Яны, на жаль, не стасуюцца з сённяшнім станам творчага жыцця калектыву. Тут можна разважаць толькі пра асобныя работы рэжысёраў, артыстаў, сцэнографаў. З чаго ж складаецца сёння магілёўская рэпертуарная афіша? Гэта «Дзеці Арбата» А. Рыбакова, «Адна за ўсіх, усе за адну» балгарскага драматурга Н. Іярданава, «Сабачае сэрца» М. Булгакава, «Мудрамер» М. Матукоўскага, «Зоркі на ранішнім небе» А. Галіна і яшчэ казка для дзяцей «Пунсовая кветачка» С. Аксакава. Калі паглядзець на такую афішу павярхоўна, то можна знайсці ў ёй жаданне тэатра гаварыць з гледачом аб гістарычных і маральна-этычных праблемах нашага грамадства. Аднак калі сур'ёзна, прынцыпова паставіцца да гэтага рэпертуару, дык выснова будзе адна: тэатр не абцяжарвае сябе пошукам, ідзе па звыклым шляху выпадковасці, ставіць тое, што ляжыць на паверхні, іншы раз апанаваны кан'юнктурнымі меркаваннямі. У аснове такога рэпертуару камедыйна-сатырычны напрамак і... разлік на невысокую патрабавальнасць публікі.

Так атрымалася, што асноўны сённяшні рэпертуар тэатра —гэта пастаноўкі маладога рэжысёра Андрэя Гузія. Адна з першых яго работ у Магілёве — сатырычная камедыя «Мудрамер». На мой погляд, спектакль цікавы па форме. Разам з мастаком У. Осіным рэжысёр скупымі і разам з тым у меру гіпербалізаванымі сродкамі (вялізны стол і крэсла міністра, масіўны тэлефон, шыкоўная мэбля і г. д.) стварыў рэальны куток, месца працы сатырычнага тыпа Вяршылы. Насычаны з'едлівым сарказмам пралог (пад бравурную музыку вялізнымі рознакаляровымі алоўкамі Вяршыла падпісвае паперкі) надае дзеянню дынамічнасці і мастацкай выразнасці.

З развіццём сюжэта спектакль набірае сілу, усё ярчэйшыя рэжысёрскія знаходкі, усё больш актыўнай і зацікаўленай становіцца глядзельная зала. Гледачы не толькі радасна ўспрымаюць умовы сцэнічнай гульні, але і добра ацэньваюць жыццёвую пазнавальнасць, тыповасць персанажаў. У тканіну спектакля ўдала ўплятаецца музыка (кампазітар У. Браілоўскі), яна стварае неабходны для сатырычнай камедыі фон і падтэкст. Па-мойму, акцёры добра сябе адчуваюць у такім дакладным жанрава-стылявым адзінстве дзеяння.

Мноствам унутраных і знешніх трансфармацый вылучаецца вобраз Вяршылы ў трактоўцы В. Галкіна. Кожная інтанацыя, жэст, рух, унутраная і знешняя пластыка псіхалагічна абгрунтаваныя, накіраваныя на раскрыццё характару. Цікава выбудаваны на сцэне канфлікт паміж Міралюбавым (В. Галец) і Папсуевай (С. Кліменка). Гэтыя чыноўнікі добра ведаюць двурушніцтва свайго шэфа і таму ў любых сітуацыях трымаюцца, як кажуць, «напагатове». Калі Папсуева — Кліменка адкрыта не прымае вынаходніцтва Мурашкі, то Міралюбаў — Галец імкнецца свае думкі падладкаваць пад пазіцыю Вяршылы. І колькі тут акцёрскага вынаходніцтва, фантазіі, жывой выдумкі! У выніку атрымаўся цікавы сатырычны партрэт сучаснага надзвычай выкрутлівага прыстасаванца.

Пастаноўка ўвогуле багатая на цікавыя вобразы, якія надоўга застаюцца ў памяці — Крутая (А. Чарнякова), Мілашкіна (Л. Гурына), дзяўчаткі ад тэатра (Г. Зелікава, М. Якімава, І. Селязнёва), бабуля Загуменная (С. Машэра). Усе выканаўцы знайшлі тыя адметныя фарбы, якія дакладна высвятляюць характары створаных персанажаў.

Важная сюжэтная і сэнсавая нагрузка выпадае на вобраз Мурашкі, галоўнага носьбіта аўтарскай пазіцыі. Не сакрэт, што існаваць станоўчаму герою ў буйных фарбах сатыры не проста. У самой аснове п'есы гэтаму персанажу адведзена інфармацыйная роля, іграць, па сутнасці, тут няма чаго: прынёс свой «дурамер» і даводзь, што гэты апарат патрэбны народнай гаспадарцы. Тым больш заслугоўвае ўхвалы артыст Р. Белацаркоўскі, які прынёс у «сухую» тканіну ролі Мурашкі цікавыя нюансы, арыгінальны пластычны малюнак. Мурашка—Белацаркоўскі ўвесь час узрушаны бюракратычным самавольствам міністэрскіх чыноўнікаў, ён дасціпны, абаяльны, напоўнены ўнутраным дынамізмам, верай у тое, што яго вынаходніцтва прынясе карысць грамадству...

На спектаклях магіляўчан зноў і зноў узнікае думка: як шмат значыць для тэатра добрая п'еса і здольны рэжысёр! Тым больш, калі яго творчыя вынаходніцтвы абгрунтаваныя і зразумелыя акцёрам. Тады і артысты імкнуцца раскрыць свае здольнасці, узбагаціць сцэнічныя вобразы...

Пра гэта сведчыць наступная работа А. Гузія — «Сабачае сэрца». І ў гэтым спектаклі рэжысёр паказаў сябе ўмелым арганізатарам творчага працэсу, прычым на матэрыяле такой складанай класічнай літаратуры. А. Гузій разам з мастаком М. Волахавым і кампазітарам У. Браілоўскім сціплымі выразнымі сродкамі раскрываюць аўтарскую задуму, вядуць расказ пра тое, як дабро можа стаць злом, чуласць перарасці ў абыякавасць, як прымітывізм і тупасць падмінаюць пад сябе інтэлект. Цікавага ў гэтай рабоце шмат: востры рытм і тэмп мізансцэн, шырыня абагульненняў, гранічна скупое і вельмі выразнае дэкарацыйнае афармленне, вобразная музыка. Гледачы трапляюць у свет метафар, становяцца сведкамі фантасмагарычнай гісторыі аб тым, як сабака становіцца чалавекам.

У такой атмасферы акцёры адчуваюць сябе поўнымі ўладарамі сцэны, дзейнічаюць шчыра і апантана. Перш за ўсё хочацца адзначыць работу Р. Белацаркоўскага (прафесар Прэабражэнскі). Гэта тонкі, умелы выканаўца, які дэманструе ў ролі элементы глыбокага псіхалагізму ў сукупнасці з дыхтоўным бытавым рэалізмам. Яго прафесар — гэта тыповы прадстаўнік інтэлігенцыі, які вымушаны пакутаваць ад свайго ж вынаходства. Радуе знешняя і ўнутраная пластыка акцёра, яго абаяльнасць, уменне тонка, але нераканаўча пасланаць у залу патаемныя думкі. Побач з вучоным дзейнічае доктар Барменталь у выкананні В. Галкіна. Манера ігры гэтага артыста вызначаецца выключнай прастатой. Але гэта знешняя прастата напоўнена сцэнічнай выразнасцю, мастацкай праўдай і тонкай псіхалагічнай нюансіроўкай вобраза. Асабліва ярка гэта праяўляецца ў сцэне з Шарыкавым (В. Гудзіновіч). Доўгацярплівасці доктара супраць подласці Шарыкава прыходзіць канец, і перад намі паўстае ўжо іншая фігура Барменталя, гатовага на самы адчайны крок. У апошніх эпізодах мы зноў бачым мудрага чалавека, вернага службу навукі.

Сплаў нікчэмнасці, подласці і крывадушнасці выразна ўвасобілі артысты В. Гудзіновіч (Шарыкаў) і К. Печнікаў (Швондзер). Артысты наўмысна гіпербалізуюць сваіх герояў, знаходзяць цікавыя пластычныя дэталі, умела карыстаюцца галасавой партытурай ролю.

Наогул у спектаклі захапляе стыхія творчасці, дзе мноства цікавых акцёрскіх работ. Гэта датычыць С. Машэры (Вяземская), А. Ташкінова (Фёдар), А. Палкіна (Пётр Аляксандравіч), С. Кліменкі (Васняцова) і іншых. Спектакль атрымаўся, ён з цікавасцю ўспрымаецца гледачом, але... кожны выканаўца імкнецца існаваць як бы сам па сабе... А гэта ўжо пралік рэжысёра.

Засмуціў спектакль «Адна за ўсіх, усе за адну». У ім шмат мастацка-пастановачных недахопаў: невыразнае афармленне (мастак М. Волахаў), прымітыўны рэжысёрскі малюнак (рэжысёр А. Гузій), мізансцэніраванне зведзена ўсяго толькі да таго, каб неяк «развесці» акцёраў на сцэне, камедыйна-сатырычны погляд на жыццё жанчын супярэчыць жыццёвай і мастацкай праўдзе. Безумоўна, такі комплекс недахопаў не можа спрыяць узнікненню цікавых

# Ці толькі дзеля знаёмства?

РАМАН А. Рыбакова «Дзеці Арбата» стаў падзеяй не толькі ў літаратурным, але і грамадскім жыцці краіны. Таму і не здзіўляе цікавасць людзей, іх жаданне пазнаёміцца хоць бы са сцэнічным варыянтам рамана (бо друкаваную першааснову набыць цяжка).

Але навошта сам тэатр звярнуўся да рамана А. Рыбакова? Каб пазнаёміць аўдыторыю з адным з самых чытэльных твораў сучаснай прозы? Не бяруся аспрэчваць вартасці «мастацкага помніка цяжкім і трагічным гадам нашага жыцця» (Булат Акуджава), але паспрабую вызначыць моцныя і слабыя бакі спектакля і ступень яго адпаведнасці свайму літаратурнаму арыгіналу, бо рэжысёр вельмі хоча пераканаць гледача, што на сцэне менавіта раман А. Рыбакова «Дзеці Арбата» (нават у праграмцы гэта падкрэсліваe).

Можна спытаць у пастаноўшчыка спектакля І. Перапёлкіна: ці ж задача тэатра вычэрпваецца паняццем «пазнаёміць»? Думаю, яна нават і не вызначаецца гэтым словам...

Аўтар інсцэніроўкі С. Какоўкін, на мой погляд, настолькі «ўшчыльніў» тэкст рамана, што замест паўнакроўнага сцэнічнага матэрыялу, які адпавядае сваім законам драматургічнага дзеяння, атрымалася анатацыя твора А. Рыбакова з самавольна перабудаванымі ў дыялогі аўтарскімі роздумамі, перадачай слоў адных персанажаў другім, ператварэннем розных падзей, аддаленых адна ад адной гадамі, у адну падзею, што часам не дае ніякіх лагічных абгрунтаванняў для псіхалагічнай распрацоўкі характараў персанажаў. Такія маніпуляцыі з тэкстам рамана самі па сабе даволі сумніцельныя, а ў выніку падобная «драматызацыя» рамана А. Рыбакова выклікала спрашчэнне і збядненне пісьменніцкай задумы, агрубленне літаратурных вобразаў, абяскольерванне мовы і выпрамленне — у інтарэсах іх большай сцэнічнай нагляднасці—драматычных сітуацый. (Я глыбока перакананы, што такога роду літаратура, якая атрымала вялікі сацыяльны рэзананс, павінна і застацца ў тым жанры, у якім яе стварыў аўтар, а ўсе спробы штучнага «прыцягвання» яе на сцэну носяць кан'юнктурны характар).

...Здавалася б, мастаком У. Осіным прадумана вырашэнне сцэнічнай прасторы. Перад вачамі гледачоў — макеты Арбата і планера, відавочна, як сімвал культуры ці духоўнага прыстанку пакалення 30-х гадоў. З абодвух бакоў планшэта сцэны стаяць адзін за другім па ўбываючай тры пары рознавялікіх партрэтаў Сталіна, які «вітае» гледачоў, як на дэманстрацыі. Верагодна, паводле задумы рэжысёра, гэтыя транспаранты — метафара парадняга і адваротнага бакоў жыцця. Рады з пяці крэслаў размешчаны сіметрычна ля кулісаў з левага і правага бакоў сцэны. Некалькі пражэктараў за крэсламі асвятляюць маляўнічы заднік сцэны — сімвал Крамлёўскай сцяны, падсветленай зверху сафітамі. На заднім плане злева і каля правага парталу мы бачым адзінокія вулічныя ліхтары.

Пад гукі бравурнага марша ўзмывае планер. Калона дэманстрантаў з транспарантамі і сцягамі пад грукатанне медзі выходзіць на авансцэну. Позірк людзей скіраваны на трыбуну Маўзалея, які нібы застаецца за люстэркам сцэны. Народ радасна вітае Сталіна. Штанкеты ўздымаюць левую частку макета Арбата, вызваляючы сцэнічную прастору для першай сцэны ў кватэры Ніны Івановай. Пасля гэтай сцэны ўздымаецца і другая частка макета маскоўскай вуліцы з тым, каб канчаткова застыць «дамоклавым мечам» над галовамі акцёраў, толькі зрэдку нагадваючы аб сабе асветленым акном, за якім жыве Саша Панкратаў.

Прысутнасць у кожнай сцэне партрэтаў Сталіна — занадта спрошчаны прыём стварэння атмасферы таго часу. А калі з гэтых планшэтаў-партрэтаў пачынаюць выгароджваць умоўны інтэр'ер, то метафара губляе свой сэнс, выпадаючы з вобразнага ладу спектакля, ператвараючыся ў фармальны элемент сцэнаграфіі.

Не выкарыстаны рэжысёрам у поўнай меры магчымасці музыкі і шумоў. А тое, што гучала (прэлюдыя Баха, куранты, секундамер), было не выверана па часе, момантам падзейнага шэрагу.

Драматургічная нявыбудаванасць інсцэніроўкі рамана, а таксама павярхоўны падыход рэжысёра І. Перапёлкіна да вызначэння звышзадачы спектакля нарадзілі аморфную нядзейсную мізансцэнічную структуру спектакля, якая мае далёка неабавязковы характар, аднастайнасць выразных выхадаў і адыходаў, зацягванне тэмпа-рытму амаль усіх сцэн.

Роўна і манатонна, без усялякіх успляскаў і спадаў разгортваюцца сцэнічныя падзеі, якія па сіле эмацыянальнага ўздзеяння на гледача (няхай будзе гэта любоўная сцэна альбо арышт Панкратава) нічым не адрозніваюцца адна ад адной. Не перадае пакуль дынаміку развіцця вобраз А. Дудзіч. Яе Віка Марасевіч — звычайная прастытутка з абмежаванымі разумовымі здольнасцямі. А ці ж падобны на бясшкоднага балбатуна, не спакушанага ў жаночай пяшчоце, вобраз Вадзіма Марасевіча (В. Пятровіч)? Алена Будзягіна (М. Якімава) таксама моцна адрозніваецца ад свайго літаратурнага прататыпу. Гэта далёка не тая сарамлівая дзяўчынка, дачка вядомага дыпламата, якая няцвёрда ведае рускую мову і ўспрымае Юру Шарока як зусім іншы свет — народны, просты, сапраўдны. Тэатральную Алену цікавіць толькі далікатнае становішча, у якім яна знаходзіцца, і рэўнасць да каханага.

Дый увогуле большасці маладых акцёраў так і не ўдалося праз свае вобразы перадаць адзінае пачуццё гонару за краіну ў сваіх персанажаў, іх глыбокую веру ў тое, што хоць «яны жывуць па картачках, адмаўляюць сабе ва ўсім, затое будуюць новы свет».

Ю. Ульянаў (Саша Панкратаў) і А. П'янзін (Шарок) да канца не разабраліся ва ўнутраных прычынах складанай канфліктнай сітуацыі, у якой знаходзяцца іх персанажы. Да ўсяго Шарок і Панкратаў «увасабляюць» і вызначаюць дзве светапоглядныя пазіцыі: пазіцыю нягодніка і прыстасаванца, кар'ерыста, чалавека, які глыбока ненавідзіць наш лад, здольны на любую здраду, і пазіцыю высакадухоўных, чужых кар'ерызму, бескарыслівых людзей. Такіх, якімі былі камсамольцы 20-х гадоў. Толькі такія людзі здолелі выстаяць у складаны перыяд нашай гісторыі, знайшлі ў сабе сілы перамагчы і стаць прыкладам для будучых пакаленняў.

Крыху ажыўляюць спектакль сцэны з удзелам Сталіна (К. Печнікаў). Рэжысёр, відаць,

сцэнічных вобразаў. Банальны сюжэт, у якім ёсць дзве канфліктныя лініі —прафесійная прыгоднасць і адзінокае асабістае жыццё, — раскрываецца шкадобнымі, іншы раз слязлівымі інтанацыямі. Артыстка С. Машэра ў вобразе Станкі імкнецца «аналізаваць» гэту банальную гісторыю... неўрастэнічнымі выпадамі супраць сваіх калег-сяброўак і добрага, па сутнасці, Косты (В. Галец). Атрымліваецца нейкі калейдаскоп амаральных адносін: з аднаго боку заціяты недавер адзін да аднаго, з другога — жаданне жыць у дружбе і ўзаемаразуменні. Гаворачы ўвесь час пра каханне і нават імкнучыся да яго, ніхто з гераінь не кахае. Нават Элеанора (С. Кліменка) з яе сексуальнымі прэтэнзіямі — як значна і ярка яны ні дэманструюцца актрысай,— выглядае паказушна і непраўдападобна. Іншыя персанажы такія ж ненатуральныя, штучныя. Увесь час лянотна скуголіць цётка Гінка (Н. Абрамава), безаблічна існуюць Софка (З. Бурцава), Ані (Х. Хазіева), Жэня (Г. Зелікава), Светла (С. Баброўская), на ўсіх беспадстаўна злуецца Красіміра (Л. Гурына), *банальным і бесхарактарным* выглядае Коста (В. Галец)... Замест даследавання прычын жаночай адзіноты і некамунікабельнасці на сцэне ідзе бессэнсоўнае высвятленне душэўных настрояў і інтымных пакут. І ўжо зусім неверагодна выглядае фінал, калі нашы гераіні (на добрым падпітку) аб'ядноўваюцца, каб кагосьці... пабіць. Прычым усё гэта робіцца на поўным сур'ёзе...

*Пасля* прагляду казкі «Пунсовая кветачка» настрой змяніўся ў лепшы бок (пастаноўка А. Гузія, сцэнаграфія У. Осіна, музыка У. Браілоўскага). Адзначу шчырасць ігры артыстаў А. Грунды (Купец), С. Баброўскай (Фіса), Г. Зелікавай (Няня), Х. Хазіевай (Капа), Ю. Ульянава (Кікімара) і асабліва Л. Бяловай (Алёнушка) і В. Галеца (баба Яга). Рэальныя і казачныя сітуацыі арганічна пераплятаюцца, яскрава абыгрываюцца акцёрамі, што ў выніку стварае напраўду тэатральнае відовішча. Усе выканаўцы добра адчуваюць прыроду жанру і ўмела ўключаюцца ў прапанаваную рэжысёрам гульню.

*Перш* чым выказаць свае думкі адносна спектакля «Зоркі на ранішнім небе», адзначу, што паўсюдна запаланілі сцэны нашых тэатраў п'есы, у цэнтры якіх «стогнучыя» няўдачнікі, усемагчымыя «пагарэльцы», «шукальнікі шчасця», незадаволеныя жыццём рокеры, наркаманы, прастытуткі і да іх падобныя. Усе гэтыя «фантомы» выцеснілі сацыяльны аптымізм, пафас сапраўднай чалавечнасці герояў, апантаных ідэяй упрыгожыць свет, сейбітаў дабра і справядлівасці. Прычым многія драматургі і масцітыя крытыкі лічаць, што ўсё гэта нармальна, заканамерна, перспектыўна. І бяда ў тым, што дзеячы сцэны згаджаюцца з гэтым, імкнуцца вышукваць нейкія абагульняючыя з'явы. Чаму ж тады не пашукаць іх у вобразах Гамлета, Атэла, Рамэа і Джульеты, у творах А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Гогаля, Ф. Дастаеўскага, А. Астроўскага, М. Шолахава? Цяжка? Вядома! Прасцей «абагульняць з'явы» на «Кабанчыку», «Рамонце», «Бедным Мараце», «Рэтра», на тых, хто ў «...*адсутнасці любові і смерці*», «Звалках», «Інтэрдзяўчатках», «Зорках...» Аднак, як тут ні круці, але ў гэтых і шмат якіх іншых творах не знойдзеш сапраўдных чалавечых страсцей, пакутаў, болю. Няма ў іх і галоўнага — мастацкасці. У свой час А. Герцэн, аналізуючы гісторыю рускай літаратуры ад Кантэміра да Гогаля, адзначыў: «Гэта гісторыя хваробы, напісаная рукою майстроў»,— і дадаў: «... пісьменнік не лекар, пісьменнік — боль». А ці ёсць гэты боль у нашых сучасных майстроў? Ці не больш тут злабадзённасці, а па сутнасці, — кан'юнктуры?

«Зоркі...», па сутнасці, — надуманы бессэнсоўны калаж на тэму прастытуцыі, п'янства і амаральнасці. Стваральнікі спектакля (рэжысёр І. Перапёлкін і мастак У. Осін) пайшлі «строга» за аўтарам, змясціўшы выканаўцаў у «сараі», не даўшы ім ніякіх жанравых арыенціраў. Таму ў пастаноўцы няма ніводнага завершанага вобраза, што будуецца па логіцы жыцця ролі. Дзяўчаткі — Марыя (А. Міхеева), Ганна (В. Амяльчэня), Лора (А. Дудзіч), Клара (М. Якімава) — гойсаюць па гэтым «сараі», лаюцца, крычаць, п'юць да непрытомнасці «чарніла», скардзяцца на ўсіх і ўсё, а па сутнасці — нічога не жадаюць, ні да чаго не імкнуцца.

...Сёння магілёўская сцэна страціла паэтычнасць творчасці. Яе адсунулі бытавізм і рацыяналізм, эклектыка і павярхоўны погляд на праблемы чалавечага быцця. Страчана асноўная сутнасць сцэны — паэзія, якая заўсёды знаходзіцца разам з праўдай. Не хапае ў магілёўскіх спектаклях мастацкай самааддачы, апантанасці акцёрскай ігры. Як жа можна ствараць «жыццё чалавечага духу» без гэтага?

Наперадзе Магілёўскі тэатр чакаюць цяжкія выпрабаванні. Будынак становіцца на рэканструкцыю, і трупе на некаторы час давядзецца зрабіцца вандроўнай. У такім становішчы тэатру патрэбна дзейсная дапамога і ў першую чаргу — ад гарадскіх, абласных партыйных і савецкіх органаў. Аднак у мяне склалася ўражанне, што абласному ўпраўленню культуры драматычны тэатр — непатрэбныя клопаты. А вось адносіны партыйных кіраўнікоў да тэатра мяне парадавалі. Пад час абмеркавання спектакляў адзін з крытыкаў назваў калектыў «аматарскім тэатрам». Ніхто ад тэатра не запярэчыў супраць такой ацэнкі. А вось сакратар Цэнтральнага райкома А. М. Сушкова і сакратар Магілёўскага гаркома КПБ Л. Н. Івашчанка выказалі думку, што «наш тэатр прафесійны, і мы зробім усё магчымае, каб ён такім заставаўся». Калі падобнае было? Раней партыйныя кіраўнікі моўчкі слухалі заўвагі, а потым у кабінетах давалі «разнос» кіраўніцтву тэатра. Сёння яны публічна абараняюць гонар свайго творчага прадпрыемства. Гэта добра. Ёсць надзея, што тэатр у Магілёве будзе жыць, пераадолее цяжкасці, не страціць узроўню мастацтва, годна выйдзе з творчага тупіка.

**Юрый СОХАР.**



Сцэна са спектакля «Дзеці Арбата». Фота В. ГРЫБАЙЛЫ.

не вельмі дае веры мастакугрымёру, таму і пакідае на сцэне партрэты правадыра. І глядач старанна вывучае кожную рысачку грыму артыста, параўноўваючы яго з арыгіналам на партрэце, адцягваючы тым самым увагу ад унутранага стану персанажа К. Печнікава. І акцёр, разумеючы гэта, не спяшаецца, размерана пахаджае па сцэне ад стала ў сваім кабінеце, які нечакана з'яўляецца ў проразі сцяны задніка, да авансцэны, любуючыся тым уражаннем, якое ён выклікае ў гледача. Паказваючы дэспатычнага чалавека, які валодае бязмежнай уладай, К. Печнікаў раскрывае толькі вонкавую, бачную ўсім рысу характару свайго персанажа, пры гэтым пакідае ўбаку ўнутраную псіхалагічную характарыстыку складанай і супярэчлівай асобы Сталіна. Відаць, гэта было б і цяжка зрабіць з таго беднага тэкставага матэрыялу, падабранага для гэтага вобраза аўтарам інсцэніроўкі.

Але ёсць у гэтым спектаклі па крайняй меры тры вобразы, якія застаюцца ў памяці.

У маленькай ролі Соф'і Аляксандраўны А. Барысавай удалося расказаць нам вялікую аповесць аб пражытым жыцці, паказаць характар сваёй гераіні ў дынаміцы. Глядач бачыць яе і бездапаможнай адзінокай жанчынай, кінутай мужам, добрай, клапатлівай маці, якая ганарыцца сваім сынам і братам, спалоханай, разгубленай, анямелай, нават вартай жалю. але і моцнай жанчынай.

У ролі Вары Л. Бялова здолела адгадаць будучыню сваёй гераіні. У яе маленькім сэрцайку столькі дабрыні, цеплыні! Усё, што раздражняла яе сястру Ніну — «пудра, духі, падваротня, хлопчыкі, — глупства, не больш як хцівая цікаўнасць маленькай жанчыны, якая ўваходзіць у жыццё». Гэтая дзяўчынка з моцным характарам зможа адстаяць праўду жыцця і сваю, і чужую. (Праўда, крыху аднастайным здаецца пластычнае вырашэнне яе вобраза).

У Разанаве Г. Белацаркоўскі падкрэслівае канцэнтрацыю ўсіх сіл, волі, думкі на пастаўленай задачы і тое, як гэтая «канцэнтрацыя» паступова выцясняла самыя важныя для кіраўніка якасці: спачуванне людзям, *цярпімасць да чужых думак*. І як горка даводзілася за гэта расплачвацца! Артыст тонка ўлоўлівае і падае пакутлівы працэс перараджэння асобы свайго персанажа.

Нельга сказаць, каб фінал спектакля быў падрыхтаваны ўсёй унутранай логікай папярэдніх падзей: Саша Панкратаў пасля рамовы з Салавейчыкам, які сабраўся ўцякаць з ссылкі, застаецца ў разгубленасці на авансцэне. Хутка побач з'яўляюцца ўсе персанажы спектакля. Іх позіркі скіраваны ў залу. Калі б рэжысёр не зняў фінальную сцэну інсцэніроўкі (дзе Сталін гаворыць прамову, паведамляючы народу аб забойстве Кірава: «Няхай жорсткай расплатай адкажуць ворагі народа за свае зладзействы...»), гэтая франтальная мізансцэна мела б «дакументальны» характар. Быццам падзеі з мінулага адрасаваны сённяшняму гледачу, які павінен сказаць свае слова, перагарнуўшы старонку гісторыі сваёй краіны з пакутлівым адчуваннем болю, раскаяння і недаўмення. І гэтае адчуванне болю прымусіць іх жыць іначай! На жаль, ніхто не прыходзіць да такой высновы пасля спектакля «Дзеці Арбата», у якім няма «слова ад тэатра» і які далёкі ад эстэтычных выказванняў самога А. Рыбакова...

**Вячаслаў ГРЫБАЙЛА.**

г. Магілёў.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# ПАМЯЦІ АХВЯР СТАЛІНІЗМУ

**Перапоўненая зала. Людзі сядзяць на прыстаўленых крэслах, стаяць у праходах. І — цішыня. Нязвыклая для гэтай залы цішыня. Такая, што нават чуваць, як паціху гудуць лямпы тэлевізійных сафітаў. Зала слухае расказы былых вязняў сталінска-берыеўскіх лагераў...**

**9 сакавіка ў Доме літаратара адбыўся літаратурна-мастацкі вечар памяці ахвяр сталінізму. Адкрыў яго ўступным словам Ніл Гілевіч.**

**Своеасаблівым эпіграфам да вечара, які вызначыў яго змест і пафас, стаў верш Міхася Чарота «Прысяга», напісаны ў засценках і зберажоны ў памяці Міколы Хведаровіча:**

Я вам не здрадзіў,
Не зманіў,
Бо славіў наш Савецкі будзень.
Свой верш сардэчнай чысціні
Ахвяраваў я родным людзям.
Я не чакаў
І не гадаў,
Бо жыў з адкрытаю душою,
Што стрэне лютая бяда,
Падружыць з допытам,
З турмою.
Драпежных здрайцаў ліхвяры
Мяне заціснулі за краты.

Выступае Максім ЛУЖАНІН.

Я прысягаю вам, сябры,
Мае палі,
Мае бары, —
Кажу вам — я не вінаваты.
Паверце — я не вінаваты!

**Ні ў чым не вінаватымі былі і іншыя пісьменнікі, у тым ліку Я. Бяганская, С. Грахоўскі, П. Пруднікаў, В. Хомчанка, С. Шушкевіч, якіх абвінавацілі пры сталінізме ў самых цяжкіх грахах і якія не адзін год правялі «ворагамі народа» ў турмах і лагерах. У гэты вечар, выступаючы перад прысутнымі, яны прыгадвалі перажытае, тое, што назаўсёды ўвайшло ў іх сны, як нешта кашмарнае, неверагоднае.**

**Такое не павінна паўтарыцца! Пра гэта гаварылі Максім Танк, Максім Лужанін, Алесь Петрашкевіч, Барыс Сачанка. Гучалі вершы і публіцыстычныя споведзі, суровыя і бескампрамісныя.**

**Г. Колас пазнаёміў прысутных з лістом свайго земляка з Чэрвеньскага раёна, які ў гады сталінізму апынуўся ў Сібіры. Цяпер чалавек хоча вярнуцца на радзіму, дажыць тут свае апошнія дні, ды толькі звароты ў розныя інстанцыі не ідуць далей абяцанняў...**

**Вечар памяці стаў і вечарам збору сродкаў для пабудовы помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій у Курапатах. У скарбонку апускаліся трохрублёўкі, пяцёркі, дзесяткі...**

**Прыцягвала ўвагу і выстаўка, арганізаваная супрацоўнікамі Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР, на якой былі прадстаўлены шматлікія унікальныя дакументы, звязаныя з лёсамі тых, хто быў рэпрэсіраваны ў трыццатых—саракавых гадах.**

**Тэкст і фота Ул. КРУКА.**

# З ФОНДАЎ ЭРМІТАЖА

**У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР працуе перасоўная выстаўка ленінградскага Эрмітажа. На ёй экспануюцца творы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва Заходняй Еўропы XI—XX стагоддзяў. З выстаўкай ужо азнаёміліся жыхары Іркуцка, Томска, Адэсы, Варонежа, Харкава, іншых гарадоў краіны. Зараз унікальную магчымасць пабачыць стылёвую эвалюцыю ў матэрыяльнай культуры Еўропы, адчуць фармастваральныя прынцыпы кожнага стылю маюць мінчане. Раманскі стыль, готыка, рэнесанс, барока, ракако, класіцызм, мадэрн прадстаўлены праз рэчавы свет — тканіны, гадзіннікі, посуд. Выстаўка будзе цікавай і мастаку-прафесіяналу, і аматару мастацтва, і проста чалавеку, які мае густ на добрыя рэчы.**

**В. БОГУШ.**

# МУШУ ЎДАКЛАДНІЦЬ

**У «ЛіМе» № 4 (27.1.89) было надрукавана маё пісьмо, у якім я дзяліўся сваімі думкамі ў сувязі з вывучэннем пытання аб устанаўленні даты штогодняга дня памяці. Неабходна больш матывавана абгрунтаваць свае думкі.**

**Дзяды — гэта старажытны язычніцкі звычай памінання нябожчыкаў, у якім праяўляюцца сляды культу даўно памерлых продкаў.**

**Фалькларыст М. А. Дзмітрыеў (1869) зафіксаваў і словы, якімі выпраўлялі Дзядоў. Абавязковым рытуалам было ахвяраванне (пакіданне) часткі ежы і пітця продкам на стале. У некаторых раёнах па чарзе пералічвалі імёны памерлых і нават хадзілі на могілкі. Хаця асобны звычай наведвання могілак існаваў больш на Радаўніцу, Наўскі Вялікдзень, Наўскую Тройцу, калі прыбіралі пахаванні і ладзілі рытуальны абед. Своеасаблівым і паэтычным звычаем памінання Дзядоў з'яўляецца «Жаніцьба коміна» на Палессі.**

**Кідаецца адразу ў вочы, што памінанні праводзіліся ва ўсе поры года. Аднак існавалі дамініруючыя ў гэтых адносінах месяцы. Асабліва вылучаюцца вясна і восень. У годзе праводзілася 6 і болей разоў памінак, у тым ліку звычайна 4 Дзяды (колькасць залежыць ад мясцовай традыцыі).**

**Па сутнасці, як я пісаў, вясною такім днём памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны ўжо стала 9 мая. Не ведаю, ці правамерна яго расшыраць і на папярэдні дзень, як прапануюць некаторыя. Дзень Перамогі — гэта не толькі радасць, гэта і сум.**

**Другі такі дзень нацыянальнай памяці ахвяр павінен быць не проста ў адзін з традыцыйных восеньскіх дзён, як я пісаў, а святкаванне ў пачатку лістапада, калі неабходна таксама *даглядзець на зіму* пахаванні. Але неабавязкова 1 лістапада, як гэта было сказана ў маім мінулым матэрыяле (віна аўтара і рэдакцыі).**

**Прапаную нацыянальны дзень памяці загінуўшых за свабоду Беларусі і ахвяр беззаконня праводзіць на Асяніны: у суботу (сямейная трапеза) і нядзелю (мітынг-рэквіем) перад Змітравым Днём, які заўсёды бывае 8 лістапада; калі ж Дзяды супадаюць са святам Кастрычніка або з'яўляюцца яго пярэднем, *то дзень памяці* (мітынг-рэквіем) пераносіцца на папярэднюю нядзелю. Прапануемы варыянт у некаторыя гады будзе супадаць або сутыкацца і з другой датай народнага календара — Задушным Днём і з першымі праводзінамі Дзядоў у Мінску (30 кастрычніка). У перыяд вяртання да народных вытокаў неабходна прынцыпова захаваць народна-каляндарную тэрміналогію, народны каляндар ужо шырока прапагандуецца ў перыядычным друку, на радыё і тэлебачанні.**

**Алесь ЛОЗКА.**

# Між былым і наступным

(Пачатак на стар. 5).

а што ж гэта тады выходзіць? Калі я і не рускі, і не беларус —дык а хто я? Хто я такі ўсё-такі? Паўтараста гадоў назад прадзеды мае называлі сябе проста «тутэйшымі». Дык што —я ізноў зрабіўся «тутэйшым»? Маючы сваю суверэнную дзяржаву—БССР?

Неспакойна і прыкра мусіць пачувацца такі беларус на Беларусі, калі ён жыве думаючы... Хіба ўжо дайшоў да таго, што ні аб чым духоўным не думае? А калі думае—дык самы раз яму на ўвесь голас запытацца: Хто—я? Хто мы ўсе, што нарадзіліся на гэтай зямлі? Як можна жыць без свайго аблічча і без свайго імені? Ды гэта ж—жыць без пачуцця ўласнага гонару і годнасці...

□

**АМАЛЬ НА КОЖНЫМ СХОДЗЕ—плёткі, плёткі, плёткі, бруд, бруд, бруд. Замест размовы аб літаратуры і аб тым, чым жыве, чым заклапочаны народ. Слухаеш іншага члена саюза—і ад сораму хоць ты скрозь зямлю правaліся! Пра якую тут пашану да пісьменніцкай прафесіі гаварыць, калі элементарнай павагі да годнасці сумленнага чалавека не бачна. Вось заклікае таварыш да спагады, да дабрыні, да спынення грызні-міжусобіцы—і тут жа сам такое гаворыць пра калегу-паэта, што хочацца крыкнуць: «госпадзі!» Прычым—гаворыць спакойна, упэўнена, па прастадушнасці сваёй нават не разумеючы, што робіць непрыстойнасць—аблівае брудам сумленнага таленавітага чалавека.**

**Дзе плётка вылазіць наверх, дзе сказаць плётку—важней за ўсё, а не сказаць—няўсцерп,—там абывацельска-мяшчанская мараль святкуе сваю перамогу.**

□

ВУЧЫЦЦА У СУСЕДЗЯЎ, пераймаць іх добры вопыт у сферы духоўнай мы не ўмеем. Вось сабралі тры пісьменнікі—А. Адамовіч, Я. Брыль і У. Калеснік—жывыя расказы пакутнікаў фашысцкай акупацыі на Беларусі і зрабілі выдатную кнігу «Я з вогненнай вёскі...». Па іх узору С. Алексіевіч склала і выдала кнігу расказаў жанчын—удзельніц Вялікай Айчыннай, пад назвай «У вайны не жаночы твар», а пасля—кнігу ўспамінаў былых дзяцей вайны «Апошнія сведкі». Яшчэ ў 1948 годзе выйшла цікавая кніга дзіцячых расказаў аб перажытым у вайну «Ніколі не забудзем», складальнікамі якой былі Я. Маўр і П. Рунец. Гэта ўсё, можна сказаць, мемуары самога народа, часам крыху падрэдагаваныя, аблітаратураныя (аб чым нельга не пашкадаваць). Мы ганарымся гэтымі выданнямі і думаем, што вельмі шмат зрабілі для захавання народнай памяці ў форме вусных апавяданняў, расказаных бывалымі людзьмі краю. А між тым у нашых суседзяў палякаў ужо больш за паўстагоддзя (значыць, з даваенных часоў) праводзяцца конкурсы на напісанне мемуараў, у якіх прыняў удзел **кожны семнаццаты жыхар Польшчы.** Як гэта абуджае грамадска-палітычную актыўнасць людзей—даказваць няма патрэбы. Збіраюцца і іншыя «асабістыя дакументы» народа: дзённікі, жыццёпісы, сямейныя хронікі, запісныя кніжкі. **Чаму ўсяго гэтага не робім мы?** Чаму мы не турбуемся, што адыходзяць у нябыт (ужо адышлі!) сотні тысяч і мільёны расказаў-успамінаў бывалых людзей—франтавікоў, партызан, падпольшчыкаў, палонных і катаржан, пакутнікаў-мучанікаў бязвінна сасланых у Сібір і на Калыму, герояў сацыялістычнага будаўніцтва 30-х і пасляваеннага аднаўлення? Гэта ж неацэнная памяць народа, без чаго немагчыма будзе ствараць праўдзівую гісторыю Бацькаўшчыны.

□

**У КОЖНЫМ ГОРАДЗЕ і раёне ёсць занядбаныя ці часткова разбураныя помнікі культуры, альбо нават ужо рэшткі помнікаў, якія належыць дагледзець, адрамантаваць, рэстаўрыраваць. А дзе трэба—і збудаваць новыя. Пакуль мы гэтага не зробім—не прывяжам тысячы жыхароў раёна да канкрэтнай справы—слабае, на словах, будзе там гісторыка-патрыятычнае выхаванне. На адрэстаўрыраваных і збудаваных помніках абавязкова павінен быць надпіс: за сродкі ўдзячных землякоў, грамадзян гэтай мясцовасці. Ахвяраванні могуць паступіць і ад тых землякоў, што сёння жывуць далёка, але даражаць аўтарытэтам сваёй малой радзімы, свайго гарадка, раёна. Трэба арганізоўваць вялікую работу. Яна—мабілізоўчая. Яна стане масавым рухам супроць абыякавасці да ўласнай гісторыі і культуры і дасць багаты духоўны плён. Асабліва важна, архіважна—уцягнуць у гэты рух моладзь, школьнікаў.**

**І яшчэ: цікавы, каштоўны помнік трэба прапагандаваць. Для чаго: выдаць кніжачку аб ім ці буклет, або і тое і другое. Калі гэта помнік вучонаму, пісьменніку, мастаку—у мясцовай кнігарні (кіёску) заўсёды павінны быць яго кнігі.**

□

«О, ГОСПАДЗІ! Яшчэ гэтых нячыстая сіла прынесла!»

Такое не аднойчы даводзілася чытаць на твары прадстаўніка мясцовага партыйнага або савецкага кіраўніцтва... Не рад, не рад таварышок прыезду пісьменнікаў! Дый чаго радавацца? Па-першае, па горла клопатаў іншых—тых, пра якія абавязкова запытаюць вышэй. А гэта—што за клопат? І якая карысць? Багата маюць вольнага часу—дык вось і раз'язджаюць са сваімі «сцішкамі» ды «романамі». Па-другое, няёмка пачувацца буду: ніводнай жа кніжкі нікога з гасцей і ў руках не трымаў. А ў бібліятэцы—ніводнага беларускага літаратурна-мастацкага часопіса.

Цяжка гасцям-пісьменнікам і цяжка таварышу гаспадару: на розных мовах гаварыць прыходзіцца. У іх—шмат да яго пытанняў; у яго—пытанняў няма. Тое, чым яны жывуць, што іх турбуе, што ім баліць—для яго далёкае і чужое. Лёс роднай мовы і культуры яго не хвалюе. І пакуль будзе так—пакуль клопат пра нацыянальнае аблічча зямлі не стане кроўным клопатам таварыша-гаспадара—датуль духоўнае здароўе нацыі будзе пад пагрозай. Бо для яе здароўя клопату адной толькі творчай інтэлігенцыі—мала.

□

**БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ вельмі кепска ведаюць, што пра іх творы думаюць чытачы—тыя, для каго яны пішуць. Думку крытыка можна і не ведаць, бог з ёй, зрэшты, можна і ўявіць, што напіша той або іншы твой добра знаёмы крытык, а вось што думае чытач, як ён успрыняў напісанае—гэта цікава, гэта вельмі і вельмі пажадана ведаць. Але беларускі чытач сваіх водгукаў у друк амаль не прысылае і пісем аўтару твора амаль не піша. Такі ён — наш чытач, своеасаблівы. сціплы. Што зрабіць, каб выклікаць яго на гаворку? Можа, запрашаць да ўдзелу ў пісьменніцкіх сходах, можа, арганізоўваць з ім інтэрв'ю, можа, звярнуцца да яго з просьбай—прысылаць свае лісты ў газеты і часопісы?.. Ва ўсякім разе—трэба яго неяк раскатурхаць, каб ён браў слова і гаварыў, што думае аб прачытаным. А перш за ўсё—трэба праводзіць сіламі навукоўцаў апытанні, рабіць сацыяльныя даследаванні. Як гэта даўно і з вялікай карысцю робіцца ў добрых людзей. Такое вывучэнне адносін, ацэнак і думак чытача яшчэ больш, чым пісьменнікам, патрэбна палітыкам, ідэолагам, кіраўнікам і важакам мас. Бо чытач у сваёй сукупнасці—гэта, можна сказаць, народ. Добрую кнігу чытаюць мільёны.**

□

У ПІСЬМЕННІКАЎ слабыя арганізацыйна-творчыя сувязі з навукоўцамі акадэміі і вышэйшых навучальных устаноў. Тое ж самае, што і ў нашых узаемадачыненнях з іншымі творчымі саюзамі. Гэта шкодна адбіваецца на агульным стане беларускай нацыянальнай культуры і асабліва—на стане беларускай мовы. Наша супрацоўніцтва з мовазнаўцамі, гісторыкамі, філосафамі, этнографамі, фалькларыстамі, мастацтвазнаўцамі—ніякае, ці амаль ніякае. А гэта ж тыя навуковыя сілы, якія працуюць на беларускім нацыянальным матэрыяле, якія вызначаюць нацыянальны воблік акадэміі і вышэйшай школы і якія ў першую чаргу абавязаны падтрымліваць узровень гуманітарнай культуры ў рэспубліцы. Уяўляю, якім карысным было б, напрыклад, кантактаванне пісьменнікаў з гісторыкамі, да якіх бы супольных поспехаў мы ўжо сёння прыйшлі, калі б яно ўзнікла своечасова. Пісьменнікі даўным-даўно выказалі погляды і думкі, да якіх нарэшце гісторыкі пачалі прыслухоўвацца (яшчэ не ўсе і не да ўсіх, праўда), але мы выказвалі іх не ў атмасферы супольных пошукаў ісціны, не ў творчых, таварыскіх і сяброўскіх, кантактах з навукоўцамі, між намі заўсёды існавала пэўная адчужанасць. Цяпер яна, дзякаваць богу, патроху пераадольваецца.

□

**ЦУДОЎНЫ РАМАНС Аляб'ева на верш Гётэ. Музыка—руская, а паэзія—нямецкая. Нямецкая? Была нямецкая—пакуль была на нямецкай мове. Але як толькі пераплавілася ў душы рускага паэта-перакладчыка на рускі лад—яна стала рускай паэзіяй. І Аляб'еў напісаў раманс на рускі верш. Падобных прыкладаў у гісторыі рускай музыкі вельмі шмат, што сведчыць аб вялікай эстэтычнай культуры і мудрасці кампазітараў: яны разумелі, што паэтычны пераклад з замежнай мовы на рускую належыць ужо і рускай літаратуры, рускай нацыянальнай культуры.**

**Сілюся ўспомніць хоць бы адзін гэтакі прыклад у беларускай прафесіянальнай музыцы, у песеннай творчасці беларускіх кампазітараў. На жаль, успомніць не магу. Калі і ёсць падобныя прыклады, дык, мабыць, вельмі-вельмі рэдкія. Не цікавяцца нашы сябры-кампазітары беларускімі паэтычнымі перакладамі. А дарэмна! Колькі ў зборніках замежнай паэзіі на беларускай мове цудоўных лірычных шэдэўраў, якія самі просяцца на музыку? Як бы гэта ўзбагаціла тэматычна і вобразна нашу беларускую песню!..**

□

ШТО МЫ ВЕДАЕМ пра тое, як беларуская мастацкая культура ідзе па свеце і як яна ў свеце ўспрымаецца, як ацэньваецца? Што гавораць-пішуць пра нашы песні і танцы, пра наш тэатр, пра нашу літаратуру? У чым бачаць асаблівасць, адметнасць беларускага нацыянальнага мастацтва?

Вельмі мала мы ведаем пра гэта. У друк трапляюць асобныя звесткі—выпадак ад выпадку, эпізадычна. Што само як-небудзь прыцячэ—дабяжыць да нашага краю, спадарожным ветрам занясецца. І нават гэтыя крохі не збіраюцца ў адно месца, не аналізуюцца, не вывучаюцца. Як быццам нам зусім абыякава, што пра нас думаюць, як мы выглядзім у вачах свету. А між тым у нас ёсць сваё Міністэрства замежных спраў, сваё прадстаўніцтва ў ААН і ў ЮНЕСКА, ёсць Таварыства дружбы, ёсць таварыства «Радзіма»... Шмат чаго ёсць, толькі няма ў каго спытаць—што пра нас гавораць-пішуць за мяжою? А гэта неабходна ведаць. Для нармальнага самапачування. Каб не захварэць усёй нацыяй на комплекс непаўнацэннасці.

□

**ЯК МЫ ПАВАЖАЕМ сваю нацыянальную культуру, а гэта значыць—саміх сябе, можна меркаваць і па наступных фактах: хто прадстаўляе гэту культуру за мяжой Беларусі і Савецкага Саюза, у міжнародных арганізацыях, на ўсесаюзных і міжнародных форумах. Нярэдка гэты «хто» бывае або «дуб дубам», або таварыш, які нядаўна пераехаў у рэспубліку, з гісторыяй і культурай Беларусі як след пазнаёміцца яшчэ не паспеў, мовы беларускай не ведае—двух слоў не звяжа, нават чытаць па-беларуску не ўмее—не тое што гаварыць, пра такія імёны, як Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Гарэцкі, нават і не чуў,—і аднак жа едзе прадстаўляць нацыю, выступаць ад яе імя. Калі глянуць сур'ёзна, па-дзяржаўнаму—дык што гэта? Недаразуменне? Абыякавасць? Дурнота? Напэўна! Бо не хочацца ж думаць, што гэта—свядомы, наўмысны, цынічны здзек, запланаванае прыніжэнне нашай нацыянальнай годнасці. Чаму ж мы церпім гэтакі ненармальны, недарэчны стан рэчаў? Хто ж у свеце будзе нас паважаць, калі мы самі сябе не паважаем?..**

□

Б'ЮЦЬ У ДРУКУ маладых энтузіястаў адраджэння беларускай культуры, гісторыі, мовы. Не проста ўшчуваюць—пабацькоўску, заклапочана, а менавіта б'юць — лупяць добрым дубцом ды яшчэ і з поцягам. Нават горш: знаходзяць у іх грамадскай чыннасці, у іх культурных захапленнях штосьці агульнае са здраднікамі Радзімы гадоў Вялікай Айчыннай, з фашысцкім ахвосцем...

Старэйшым вучыць маладых —так заведзена адвеку. Вучыць, падказваць, накіроўваць, дапамагаць добрай парадай... Але—лупцаваць, біць? Гэта можа даць плён толькі кепскі.

Маладым паэтам і пісьменнікам, напрыклад, трэба дапамагчы зразумець, што беларускай літаратуры сёння, можа, як ніколі, патрэбны моцныя сумленныя таленты. І што старэйшыя майстры слова заклапочаны перш за ўсё гэтым. Чым больш будзе яркіх і, галоўнае, сумленных талентаў—тым больш надзей, што роднае слова не загіне, будзе гучаць у вуснах і сэрцах тых, каму яно павінна належаць. Вось гэту ісціну трэба напамінаць ім часцей. Што ж датычыць іх цікавасці да каранёў і вытокаў нацыянальнай культуры, да складаных пытанняў айчыннай гісторыі, іх жадання паслужыць —хай сабе часам і няўмела—росту гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці свайго народа,—дык гэтаму трэба толькі радавацца... Не лічыць жа мудрасцю тыя прынцыпы выхавання, паводле якіх нашы маладыя людзі будуць вырастаць нацыянальнымі нігілістамі, раўнадушнымі да лёсу роднай мовы, беларускай гісторыі і культуры. Ці, можа, хто-небудзь думае, што ў нас ужо наогул страчана здольнасць адрозніваць, дзе мудрасць, а дзе подласць?

□

**«АЛЕ САМАЕ ГАЛОЎНАЕ, што цяпер трэба зразумець,—гэта тое, што разнастайнасць, непадобнасць нашых нацый адна на другую ўзбагачае чалавецтва ў цэлым...» Гэтыя словы выдатны рускі пісьменнік Дзмітрый Міхайлавіч Балашоў сказаў на Міжнародным сімпозіуме ў Італіі, прысвечаным 1000-годдзю хрышчэння на Русі.**

**Ніколі, пачынаючы яшчэ са студэнцкіх гадоў, не было ў мяне сумненняў у праўдзівасці гэтай думкі, гэтага погляду на шматнацыянальнае ўстройства чалавечага агульнажыцця, дакладней—на вялізны агульны выйгрыш ад такога светаўстройства. І аднак жа ўсё жыццё збіраю, выпісваю або падкрэсліваю ў кнігах думкі, ідэнтычныя або сугучныя толькі што працытаванай. Навошта—калі даўным даўно перакананы ў гэтым і перакананняў маіх ужо нішто не пахісне? Не ведаю, навошта. Можа, таму, каб бачыць і адчуваць: ты ў сваіх галоўных перакананнях не адзінокі—вунь колькі людзей думалі і думаюць дакладна гэтак жа, як і ты, і гэтак жа горача адстойваюць гэту пазіцыю. А можа, ты робіш гэта таму, што амаль кожны дзень сустракаеш погляды процілеглыя, сустракаеш ваяўнічае непрыманне «разнастайнасці і непадобнасці» нацый? Чаму так шмат людзей, якія патрабуюць уніфікацыі, зліцця нацыянальных моў і культур, саміх народаў? І чаму іменна аб гэтым так цяжка весці з імі спрэчку—даказваць відочную абсурднасць, г. зн. ненатуральнасць і бяссэнсавасць такога патрабавання? Пытанне—не з тых, што «паміж іншым».**

*Па старонках друку*

# ДОБРЫ ЗНАК ЦІ «ЭКЗОТА»

**Чытачам «Советской Белоруссии» напэўна запомніўся нумар газеты за 26 лютага г. г. Запомніўся, вядома ж, лістом жыхара г. Вілейкі Б. Дуброўскага, змешчаным на трэцяй старонцы пад рубрыкай «Прашу слова». Ён адразу ж прыцягваў увагу надрукаваным па-беларуску загалоўкам «Не цурацца сваіх вытокаў». І ліст чытача таксама быў на беларускай мове.**

**«Я і вялікае кола маіх сяброўаднадумцаў, — піша Б. Дуброўскі, — горача вітаем усе пазітыўныя зрухі ў перабудове грамадскага жыцця нашай рэспублікі, асабліва тыя, што датычаць роднай культуры, нацыянальных традыцый і беларускай мовы. Як можна далей цярпець такую пякучую несправядлівасць, што беларус, карэнны жыхар рэспублікі, вымушан цурацца сваіх вытокаў, пазбягаць размаўляць на роднай мове? Як магло такое здарыцца?.. Трэба нешта рабіць, тэрмінова, неадкладна, зараз жа, каб не здарылася трагічна-непапраўнае, каб не задыхнулася ў нас велічная ідэя перабудовы».**

**Правільна ставіць пытанне адраджэння роднай мовы чытач «Советской Белоруссии» з Вілейкі. У гэтай сваёй турботе, у гэтых сваіх клопатах і трывогах ён не адзінокі. У абарону беларускай мовы і культуры падымае голас шырокая грамадскасць рэспублікі. Людзі самых розных узростаў і прафесій з болем і абурэннем пішуць пра ненармальнасць становішча з роднай мовай у рэдакцыі газет і часопісаў, на радыё і тэлебачанне, у савецкія і партыйныя органы і ўстановы. Шмат такіх лістоў і ў рэдакцыйнай пошце «ЛіМа». Карацей кажучы, ліст Б. Дуброўскага — усяго толькі адзін з многіх, і на яго можна было б не звяртаць асаблівай увагі, калі б не тая акалічнасць, што ён надрукаваны ў «Советской Белоруссии»... на беларускай мове.**

**Наогул беларускае слова калінікалі трапляе на старонкі рускамоўных газет Беларусі. Так, час ад часу друкуе вершы беларускіх паэтаў у арыгінале брэсцкая «Заря». Колькі гадоў назад яна апублікавала нават цэлую паэму Ніны Мацяш. Сяды-тады паяўляюцца вершы на беларускай мове ў «Сельской газете», а таксама ў «Знамени юности». Не так даўно апошняя «адважылася» і на большае: надрукавала ў арыгінале, гэта значыць па-беларуску, дзённікавыя запісы Уладзіміра Караткевіча. Зрэдзь часу вершы нашых паэтаў у арыгінале трапляюць і на старонкі «Советской Белоруссии». Адным словам, прэцэдэнты былі. Але, паўторым, тычыліся яны пераважна беларускага паэтычнага слова.**

**Выпадак жа, на які звяртаем увагу — іншага плана. На гэты раз «Советская Белоруссия» надрукавала на беларускай мове звычайны ліст чытача. Праўда, лісту папярэднічае такая рэдакцыйная «прадмоўка»: «Хотя «Советская Белоруссия» выходит на русском языке, письмо жителя г. Вилейки Болеслава Дубровского мы решили напечатать без перевода. Причина одна — сохранить его колорит, стиль, полнее и острее передать всю тревогу за судьбу РОДНАЙ МОВЫ, которой живет автор».**

**Вось і ўзнікаюць пытанні. Што азначае гэты, апошні прэцэдэнт? Ліст апублікаваны без перакладу толькі таму, што ў ім ідзе гаворка пра беларускую мову? Дзеля таго, каб, так бы мовіць, родным словам сказаць аб родным слове? Ці мо гэта ўсё ж спроба наогул сёе-тое друкаваць па-беларуску, добры знак увагі і спадзявання на тое, што беларускае слова можа прысутнічаць і не адчуваць сябе іншародным у рускамоўнай беларускай газеце? Пра гэта ў рэдакцыйнай «прадмоўцы» нічога не гаворыцца. І тым не менш пасля публікацыі ліста Б. Дуброўскага падумалася: а чаму б і не прапісацца беларускаму слову на газетных паласах, скажам, той самай «Советской Белоруссии», стала? Чаму робіцца выключэнне толькі для вершаў? Чаму не змяшчаць у арыгінале і апавяданні нашых пісьменнікаў? А рэцэнзія на кніжку ці на тэатральны спектакль, нарыс? Сапраўды, а чаму б і не?**

**Такое практыкавалася ў свой час і ў нас, такое практыкуецца і зараз у некаторых рэспубліках. Дальбог жа, нічога заганнага не было б у тым, каб час ад часу рэдакцыі ажыццяўлялі такія публікацыі (прынамсі, да таго часу, пакуль выданні, як мяркуецца, зноў не стануць двухмоўнымі). Як-ніяк, гэта ж усё-такі рускамоўныя БЕЛАРУСКІЯ газеты, яны адрасуюцца ўсім жыхарам рэспублікі, а не толькі яе рускамоўнай частцы.**

**ЛІМАВЕЦ.**

*Музыка*

# ФАНФАРЫ І КАМЕНТАРЫІ

**У зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся «Парад брас-ансамбляў» з Масквы. Такія канцэрты пакуль не частыя. Канцэртная духавая музыка толькі набірае сілу, таму вельмі важна не пакінуць такія падзеі без увагі рэкламы, друку. На сённяшні дзень мы маем не вельмі прыемную карціну прапаганды і папулярызацыі жанру духавой музыкі. Як ні прыкра, большасць людзей мае ўяўленні пра выразныя магчымасці медных духавых інструментаў на ўзроўні колішніх паркавых і самадзейных аркестраў. Сёння людзі ў масе сваёй катастрафічна адсталі ад дасягненняў айчыннага і замежнага выканаўчага мастацтва ігры на духавых. (На гэтую тэму быў у «ЛіМе» за 20.05.88 г. грунтоўны артыкул загадчыка кафедры духавых інструментаў БДК М. Волкава).**

**Канцэрт, які стаўся падставай для сённяшняй размовы, — канкрэтнае дзеянне ў справе вырашэння праблем духавой музыкі. На жаль, гэты канцэрт не быў выключэннем па запаўняльнасці філарманічнай залы. Прычынай і на гэты раз з'явілася амаль «нулявая» рэклама. Многія, відаць, проста не ведалі пра канцэрт. Упэўнены, што сярод мінчан прыхільнікаў духавой музыкі значна больш, чым сабрала ў той вечар зала.**

**А канцэрт па ўсіх мерках атрымаўся асаблівы. Праграма яго цалкам складалася з твораў для ансамбляў медных духавых інструментаў. Маскоўскі квартэт трубачоў і Брас-квінтэт Маскоўскай кансерваторыі, Брас-квінтэт і Квартэт трамбонаў ДАВТа СССР былі прадстаўлены на вечары. З уступным словам выступіў народны артыст РСФСР прафесар Цімафей Дакшыцэр. (Дарэчы, ягоны прыезд у Мінск сам па сабе стаўся значнай падзеяй). Калі ён выйшаў на сцэну, доўга не сціхалі апладысменты. Цімафей Аляксандравіч, коратка закрануўшы гісторыю ўзнікнення і развіцця выканаўства на духавых інструментах, больш падрабязна затрымаўся на сучасных набалелых пытаннях. Вядома, як трубач-выканаўца Ц. Дакшыцэр — велічыня сусветнага прызнання і славы. Ён пастаянны ўдзельнік міжнародных сімпозіумаў па праблемах развіцця выканаўства на духавых інструментах, таму інфармацыя, якою ён валодае, заўсёды самая аператыўная і цікавая.**

**Наогул, ансамблевае выканаўства на медных духавых справа даволі маладая ў нашай краіне: масавасць і распаўсюджанне, проста захапленне ансамблевай ігрой, арганізацыяй брас-ансамбляў назіраецца менавіта ў наш час — у канцы 80-х. Па ўсім было відаць, што і прадстаўленыя ў «Парадзе» калектывы знаходзяцца ў творчых пошуках свайго, непадобнага да іншых выканаўчага стылю. У гэтым плане вылучыўся Брас-ансамбль Маскоўскай кансерваторыі: рэпертуар такіх ансамбляў папаўняюць пераважна творы замежных кампазітараў, а тут праграма цалкам складалася з твораў савецкіх, яна з'явілася і прэм'ерай для мінскіх слухачоў, і паказала, што кампазітары, асабліва маладыя, усё часцей звяртаюцца да духавых, магчымасці якіх яшчэ мала раскрытыя.**

**На фоне агульнага поспеху канцэрта Квартэт трамбонаў Вялікага тэатра СССР успрымаўся сапраўдным адкрыццём для мінскай публікі. Многія, з кім давялося падзяліцца ўражаннямі аб выступленні гэтага калектыву, збянтэжана прызнаваліся, што ведалі пра існаванне Квартэта, але і не здагадваліся пра яго бліскучы мастацкі ўзровень. Трэба хаця б трохі разбірацца ў спецыфіцы ігры на трамбоне, каб уявіць сабе ўсе складанасці, вялікія намаганні іх пераадолення на шляху да такой фантастычнай зладжанасці і збалансаванасці гучання.**

**Але ж чаму так здараецца, што музыканты сусветнага класу застаюцца малавядомымі ў сваёй краіне? Чым тут можна было б з боку нас, беларусаў, дапамагчы справе? Існаванне «ЛіМа» — гэта добра, але ж недастаткова, каб паспяваць за адлюстраваннем усіх цікавых музычных падзей. Сёння можна толькі марыць пра спецыяльнае музычнае выданне, на старонках якога змяшчаліся б інтэрв'ю аўтарытэтных музыкантаў-духавікоў (я не кажу тут пра іншыя музычныя спецыяльнасці), педагогаў, аркестравых музыкантаў. На тых старонках маглі б падзяліцца сваімі ўражаннямі і слухачы. А ў рэспубліцы ёсць высокапрафесійныя музыканты-духавікі, сапраўдныя майстры сваёй справы. Ёсць што сказаць і ім, і пра іх.**

**Яшчэ адну балючую нашу праблему нагадаў бліскучы «Парад брас-ансамбляў»: ён узрушыў даўнія мары (не толькі выканаўцаў-духавікоў) пра арганізацыю прафесійнага духавога аркестра ў БССР. Здаецца, колькі ўжо выспяваць аб'ектыўным і суб'ектыўным умовам? Патрэба ў аркестры павялічваецца з году ў год, многае робіцца, а карэнных перамен няма, хаця ўсе спадзяванні скіраваны па-ранейшаму на духавы аркестр студэнтаў кансерваторыі, якім кіруе А. Берын. Відаць, ёсць у гэтым калектыве праблемы творчыя. Але ж творчыя не значыць — не вырашальныя! А тым часам студэнцкі энтузіязм губляе сілу, а на адміністрацыйна-дысцыплінарных прыёмах наўрад ці атрымаецца задуманае.**

**Аптымізму надаюць хіба што канцэрты накшталт «Парада брас-ансамбляў». Яны не толькі ўзрушваюць пачуцці, але і абуджаюць дзейсныя творчыя сілы, мацуюць веру ў магчымасць існавання духавой высокапрафесійнай канцэртнай музыкі. Дзякуй кожнаму ўдзельніку «Парада», арганізатарам гэтага выдатнага музычнага вечара. І пажадайма, каб мінская публіка часцей ішла на прызыўныя гукі канцэртных фанфар.**

**П. ДУДАРЭНКА,**
**артыст аркестра Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР.**

# ПЛЁН ПЛЕНЭРУ

**Вось яны і стаяць. Гэтыя дзесяць камянёў. Быццам знялі іх кранам не з кузава аўтамашыны, а з акамянелых плячэй. Мускулы яшчэ гудуць. Сэрца ж, быццам выпрамленая спружына, само сабе не верыць: няўжо ўсё!.**

Ужо дваццаць гадоў сярод скульптараў Мінска ішла гаворка пра гарадскі пленэр дэкаратыўна-паркавай скульптуры. Але заўжды нешта перашкаджала ідэю рэалізаваць. Калі пагадзіцца, што «архітэктура — гэта мастацтва каралёў», то ваянне па сваёй працаёмкасці — мастацтва князёў. Як вядома, калі з бронзаю ў 60—70-ыя гады і пазней было цяжка, дык каменя для скульптуры не было ўвогуле. Дайшло да таго, што амаль на валаску вісела рамяство фарматораў, пракладчыкаў. Ды што—скульптараў! Скульптурная секцыя СМ Беларусі адзін год з трох фактычна не працавала зусім! Ці ж дзіва, што на першы дзень пленэру дэкаратыўна-паркавай каменнай скульптуры, які адбыўся летась у Мінску з 21 жніўня па 14 кастрычніка, на дзесяць скульптараў быў толькі... адзіны ручны малаток. Па сутнасці каменярэзнае майстэрства ў Мінску вyратавалі ад вымірання рабочыя — улюбёныя ў сваю справу каменярэзы скульптурнага цэха мастацка-вытворчага камбіната: Генадзь Скабіцкі, браты Казіміравы і браты Козелы. Трэба было бачыць, як майстры-каменярэзы вучылі скульптараў, як «ставілі» ім удар, як вучылі нават назвам інструментаў.

Цяпер гэта ўжо — успаміны. Ні фота, ні кінакамеры не пакінулі сведчанняў аб тым, як разгублены, амаль у роспачы, стаяў скульптар Л. Зільбер з ручным інструментам ля свайго вялізнага каменя. А ў гэты ж момант побач фанабэрыста-ганарлівы Канстанцін Козел, апрануўшыся ледзь не ў касмічны касцюм, пад грукат кампрэсара, нібы алоўкам, выкрэсліваў бензарэзам з граніту сілуэты кампазіцыі У. Слабодчыкава. Побач Г. Гаравая, як птушка, па зярнятку дзяўбе мармуровую глыбу.

— Камісар, давай тэхніку!— гэта значыць кампрэсар-шланг, пнеўмамалаткі і скарпелі. Гэта я цяпер ужо ведаю, як усё гэта разам працуе. А тады, у пачатку пленэру? Забеспячэнцы Мастацка - вытворчага камбіната — спецы і тыя не змаглі дастаць увесь камплект абсталявання. Што ж мог зрабіць я, калі і сам дрэнна ўяўляў, чаго там трэба.

Месяц, які быў у мяне на падрыхтоўку пленэру, увесь пайшоў на «выбіванне» дазволу гарвыканкома. Усе — «за». Ніхто не супраць. Але вось толькі ніхто не ведае, што гэта такое — пленэр... Тут падумаеш, перш чым свой подпіс падставіць. Пленэр пачаўся 21 жніўня. Пастанова аб яго правядзенні падпісана толькі ў канцы дня ў пятніцу — 19-га.

Ці другі прыклад. Ужо ў час пленэру ўзнікла патрэба зрабіць нейкія прылады. Па звычцы застойных гадоў звяртаюся ў гарком партыі: «Ратуйце!», бо ведаю: гэта «спрацуе» хутчэй за ўсё. З гаркома звоняць у партком аднаго завода — «Дапамажыце». Прыходжу. Сустракаюць ласкава. Адразу ў цэх? Не, давайце чарцяжы: раптам што здарыцца — нам адказваць. Добра. Раблю чарцяжы. «Прабачце, адзін узор можам з ходу. Астатнія — планавым чынам». Як узяліся падлічваць выдаткі, сабекошт, металаёмкасць....— пленэр скончыўся. Званю: «Хлопцы, здыміце заказ, ужо не трэба». — «Ну і добра, — адказваюць, — мы і не пачыналі». За наяўны разлік умельцы-рабочыя стварылі неабходнае за дзень. І зноў, як у «старыя, добрыя часы» застою: украсці можна, чэсна зрабіць — нельга.

Або ўзяць парадак фінансавання пленэру. У Гародні ў гэты ж час ішоў падобны пленэр. Аддзел культуры гарвыканкома не шукаў пасрэднікаў, а сам арганізаваў фінансаванне. У Мінску ж скульптурны пленэр быў праведзены гарвыканкомам як заказ праз Мастацка-вытворчы камбінат Мастацкага фонду БССР, і камбінат атрымаў свае накладныя расходы ні многа ні мала — амаль чвэрць каштарысу. Канечне ж, камбінат дапамог. Але атрымалася так, што фінансавыя дакументы часткова прайшлі ў абыход камісара і ўдзельнікаў. Мяркую, што ў наступны раз (а пленэр вырашана праводзіць штогод) трэба паставіць справу інакш. Каб не ўдзельнікі пленэру былі субпадрадчыкамі мастацкага камбіната, а наадварот — камбінат быў субпадрадчыкам кааператыву скульптараў. Танней абыдзецца гораду і выгадней удзельнікам. Такі каапературў мог бы абслугоўваць не толькі мінскі, але і пленэры ва ўсіх абласных гарадах Беларусі. І гродзенскі, і мінскі пленэр паказалі, што справу гэту трэба распаўсюджваць, бо ўсе нашы абласныя гарады, раённыя — тым больш, не маюць паркавай скульптуры.

Але ўсё гэта — справы гаспадарчыя. А вось творчы працэс. Другі дзень пасля адкрыцця пленэру. На работу замест 10 чалавек з'явіліся толькі шасцёра. Дзень, другі, тыдзень — няма людзей. Тэрмінова шукаць падмену? Праз тры тыдні прыйшоў сёмы. Толькі праз месяц — яшчэ двое. «Хлопцы, ці ж так можна? Дваццаць гадоў марылі і на табе!»— «Мы нагонім... Дзень і ноч рабіць будзем...»

Не. Камень — справа сур'ёзная. Патрабуе да сябе павагі. Ледзь-ледзь з дапамогаю каменячосаў выкарабкаўся трэці — усё роўна след паспешнасці адчуваецца і зараз у ягонай рабоце.

Гавораць, першы блін камяком. На жаль, уся творчая частка пленэру прайшла, на мой погляд, нездавальняюча. Горад атрымаў абяцанае — дзесяць каменных скульптур. Але ж пленэр — форма творчасці. Яго трэба параўнаць з навукова-практычнай канферэнцыяй. Задача пленэру не толькі зрабіць пэўную работу, але і даць штуршок для творчага росту ўдзельнікаў. Мне здаецца, што ў рамках праграмы пленэру павінен адбывацца абмен думкамі аб стане скульптурнага мастацтва, рамяства, лекцыі мастацтвазнаўцаў, сустрэчы з кіраўніцтвам горада.

Усяго гэтага не было таму, што камісар ператварыўся ў гаспадарчага «бегунка» па «пажарных» пытаннях. Скульптатараў не ўдалося адлучыць ад хатніх турбот, ды й сама абмежаванасць разумення пленэру як творчай справы сыграла сваю ролю. Дагэтуль неабмеркаваны вынікі пленэру. Можа, няма пра што гаварыць? Ці ўсё яшчэ дзейнічае прынцып закуліснай крытыкі? Не зразумела.

Лепшы (па агульнай ацэнцы ўдзельнікаў) твор пленэра — «Голуб» Галіны Гаравой. Тут пры мінімальнай стылізацыі формы атрымалася вельмі ўдалае спалучэнне сімвала з канкрэтыкай жыццёвага пачуцця.

«Хлеб» У. Слабодчыкава — яскравы прыклад «дэфармацыйнага» прынцыпу формаўтварэння. У 60—70-я гг. гэты прынцып шырока скарыстоўваўся ў прыбалтыйскай пластыцы.

І. Кляніцкі ў сваіх «Адлюстраваннях» перш-наперш выяўляе матэрыял, тады як Э. Астаф'еў у «Абуджэнні» практычна зводзіць эстэтычную каштоўнасць каменя амаль да нуля. Скульптар Я. Пуставы будуе «Імправізацыі» на чыста дэкаратыўных магчымасцях чырвонага граніту, А. Фінскі ў кампазіцыі «Сон» знаходзіць вельмі тонкую грань фактуры каменя і выяўленчай пластыкі. Пластычныя хады ў «Элегіі» маладога скульптара А. Чыгрына крыху нагадваюць ужо вядомыя знаходкі тыповай логікі не «сурэвага» — «стрыманага» рэалізму. Больш вопытны Л. Зільбер (скульптура «Чалавек, які падымаецца з каленяў») дасягае спалучэння бытавізму з манументальнасцю, каменнай прыроды статуі з дакладнасцю дробных рысаў жанравай сюжэтыкі. Як бачым, творчы плён у чыста пластычных пошуках дае падставу для роздуму, і з гэтага боку пленэр можна лічыць удалым.

Яшчэ адзін бок падзеі варта закрануць у гэтых нататках. Дэкаратыўнай пластыкі ў Мінску пакуль вельмі мала. Жыхары горада не прывучаныя да думкі аб сапраўднай каштоўнасці мастацкіх твораў у гарадскім асяроддзі. У многіх мінчан у памяці разбурэнне «Хлопчыка з лебедзем» у скверы ля тэатра Янкі Купалы. Але вось хтосьці размаляваў фарбай «Хлопчыка з вавёркай» скульптара Л. Давыдзенкі, што стаіць у зоне адпачынку па вуліцы Варашылава. Хтосьці разбіў керамічныя кампазіцыі Г. Кобрына на дзіцячай пляцоўцы. Нехта падпілаваў ногі чорта ў кампазіцыі «Батлейка» Л. Зільбера ля Тэатра музычнай камедыі. Нехта з «айцоў горада» затрымаў устаноўку дэкаратыўных кампазіцый Б. Маркава ў мікрараёне «Усход-1»— вось ужо некалькі год сапсаваныя творы коштам не ў адзін дзесятак тысяч рублёў ляжаць на гаспадарчым двары «Зелянбуда» па вуліцы Смаленскай. Нездарма ж удзельнікі пленэру наадрэз адмовіліся ставіць свае творы ў Міхайлаўскім скверы (па вул. Валадарскага) — на такім «бойкім» месцы шмат сыходзяцца «бойкіх» юнакоў. Пасля доўгіх спрэчак месца для выстаўкі твораў пленэру было знойдзена добрае — у Купалаўскім скверы.

Хацелася б толькі, каб гаспадары «Зелянбуда», якім урачыста перадалі скульптары свае творы ў падарунак, неяк больш паважліва ставіліся да эстэтычнага выгляду выстаўкі. Не прайшло і месяца, а ўжо інфармацыйныя планшэты валяліся на зямлі, анатацыя выстаўкі знікла, таблічкі з назвамі пагубляліся. А ў парку ж ёсць і дворнікі, і даглядчыкі.



Удзельнікі Першага мінскага скульптурнага пленэру.

Пленэр скончыўся. Скульптары сталі на варту прыгажосці: да лета — у скверы, а потым — у Садзе скульптуры, што размесціцца на беразе Свіслачы між будынкам гасцініцы «Беларусь» і Траецкім прадмесцем. Наперадзе наступны пленэр — цяпер ужо з удзелам гасцей з саюзных рэспублік і братніх краін. Рэпетыцыя прайшла. Вынік — плённы. Але нявырашаных пытанняў засталося шмат — і фінансава-арганізацыйных, і тэхнічных, і творчых, і прапагандысцкіх. Наступнаму камісару хопіць турбот. А пакуль дзякуй удзельнікам, кіраўніцтву Мастацка-вытворчага камбіната, супрацоўнікам аддзела культуры гарвыканкома, гаркома партыі, майстрам-каменярэзам — усім, хто спрыяў рабоце.

...А там, на палігоне скульптурнага цэха, зноў равуць краны, цяжкавозы — рыхтуюцца новыя глыбы. Новыя вобразы чакаюць часу, каб з'явіцца на свет, на людскія вочы, каб заступіць на сваю вахту прыгажосці ў сталіцы Беларусі.

**Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ.**

## З паэтычнага сшытка

**Аляксей МАРАЧКІН**



З-пад пэндзля — колер, з-пад пяра — слова. Як родняцца два мастацтвы — колеру і святла — у адной асобе? Таемнасць? Але ж ёсць тут і відавочная логіка, разумная крэўнасць, якую адчуваеш як падвоеную пакуту ў падвоенай радасці творцы. І яшчэ — як двайное свята ад сустрэчы з яго асобаю.

Наш славуты зямляк жывапісец Бялыніцкі-Біруля, да прыкладу, пакінуў не толькі класічныя творы жывапісу, але і ўзоры паэтычнага слова ў жанрах эпісталярыя, мемуараў, апавядання. Пісаў і вершы. Яго самы блізкі сябар, вядомы мастак-акадэмік С. Жукоўскі, з якім Вітольда Каэтанавіча родніла не толькі беларуская глеба паходжання і творчага натхнення, аднойчы, жывучы ў Варшаве і атрымаўшы ліст ад сябра, усклікнуў: «Ліст твой, брат мой духоўны, вялікі лірычны і рамантычны твор! Па глыбіні пачуцця і назіральнасці — вышэй за Тургенева! Я ўсім даю чытаць. Захаваю яго як рэліквію прыгажосці душы паэта-мастака». Ігар Грабар неяк сказаў, што няма іншага жывапісца, які б гэтак бліскуча валодаў літаратурным стылем, як Бялыніцкі-Біруля. Ён прасіў яго напісаць успаміны пра Левітана. І мастак напісаў «Апошнія кветкі Левітана».

Гэта апавяданне — свята колераў, мастацкіх дэталяў, музыкі. Узор прозы мастака-жывапісца.

Берагі аднаго, «свайго» жанру і віду мастацтва, мабыць, не заўсёды могуць «утаймаваць» тэмперамент мастака. Ці не адсюль і вершы Аляксея Марачкіна: «Дзядзька Язэп», «Гарадзец, Станулі, Варганы...», «Хто там?..» — працяг падарожжаў мастака па родным краі, па сцежках славутых сыноў Беларусі Язэпа Драздовіча і Паўлюка Багрыма? Дагэтуль мы ведалі яго карціны, напісаныя ў гэтых падарожжах, бачылі яго арыгінальныя партрэты Драздовіча і Багрыма. І вось — зноў тыя абліччы, ужо не ў колерах, а ў слове. Хоць словы жывапісца — і колеры, і святло.

Судзіць паэзію пакінем Паэзіі.

Парадуемся грамадзянскаму і мастакоўскаму тэмпераменту Аляксея Марачкіна. Яго любові да роднага слова: «Чыстую вопратку я апрану — слова са мной святое». Яго адчуванню і разуменню: «Слова — паходня». Яго гонару і малітве: «Слова маё... У нябыт не сплыло. Ціха шапчу: «Не знямела б».

Поспеху табе, Аляксей, у новых берагах.

**Віктар КАРАМАЗАЎ.**

### Дзядзька Язэп

У 1921 годзе ў вёсцы Сталіца, што непадалёку ад Германавіч, залажыў беларускую школу. Ды праіснавала яна не больш як два месяцы. Польскія ўлады закрылі яе як «нелегальную». Шкадавалі бацькі і плакалі дзеці... Вучняў сваіх вучыў па сваёй методыцы без «пастрах і кары», а на зразуменні, што ёсць дабро і зло, што прыгожа і непрыгожа. Слухалі мяне не як «господина учителя» ці «пана», а як «дзядзьку настаўніка».

З Дзённіка Язэпа **ДРАЗДОВІЧА.**

У войта Халявы
Настрой сапсаваны.
Расою азяблай блішчаць акуляры.
— Зноў узяліся за свое...
Вярэдзяць мне раны.
Для чэго хамуйлам я шлю цыркуляры?
Каб чуць вашу мову
Ў мястэчку, у гміне?
Дарма ўскрашэнне таго, што загіне...
Настрой у Халявы задужа паганы.
Тапоршчуцца вусы... Змяніўся у твары.
У крэсле на крэсах і мулка, і колка.
Не ўгледзеў.... Пад бокам адкрылася
школка
На мове мужыцкай.
З якое нагоды?
На тое ні ўказу было ані згоды.
Пся вас!.. О, холера!
Што хочуць дабіцца?
Шыбуе пан войта у вёску Сталіца.
А ў школцы ў Сталіцы
На кніжных паліцах:
Ластоўскі, Гарэцкі, Бядуля, Машара..
Купала, Луцкевіч...
Халява, як хмара.
А ў школцы ў Сталіцы
Над кніжнай паліцай
Абраз маляваны ў залочанай раме,
Як быццам сышоў сюды
з Вострае Брамы.
Не вусы Маршалка на ім, не пагоны.
Вой з мечам узнятым выява Пагоні.
І словы Максіма, самотнага Бога.
Кліч Маці-Радзімы, і боль, і трывога.
А ў школцы ў Сталіцы
У роднай крыніцы
настаўнік-пагоніч
Ён мову бароніць.
І горуцца дзеткі...
Ён з імі нароўні.
Малююць узоры ў школе-майстроўні.
Падпанкаў і войтаў не страшны набегі.
Яго касмавітай, нябеснае бегі
Ніхто не адыме, ніхто не сурочыць.
І дзядзька Язэп сваім вучням
прарочыць:
— Пярунавы стрэлы над пушчай
грымелі...
— Жыве Беларусь: покуль мы
не знямелі!
Жыве! Покуль з намі адчай і адвага
І будзе да нас, як да іншых, павага.
Жыве! Хай паўторыцца гэта замова.
Жыве Беларусь, покуль жыць будзе
мова!
Між Мнютай, Айтай
Язэп дзядзька крочыць
І кліча на веча і вечна прарочыць...
А ў вёсцы Сталіцы, у нашай сталіцы
Другія ўжо кніжкі на школьных
паліцах.
Другія імёны, эпоха не тая,
І зерне на глебе асцём прарастае.
Здаецца ж, не крэсы, а тыя ўсё крэслы.
Відаць, яшчэ смецце не ўсё
перaтрэслі.
Арудуе спраўна таварыш Халява
І шле цыркуляры налева й направа...
Чым мне перад дзядзькам Язэпам
хваліцца?
Што школка адкрылася ў нашай
сталіцы?
У матчынай роднай і
вольнае мове?
Што мне расказаць пры сустрэчы-
размове?
Як глянуць у ясныя сінія вочы?
Дух цемры адолець
ўчарашняе ночы?..

●

А дзядзька Язэп усё крочыць
і крочыць,
Нябёсаў прарок. Ён між намі
прарочыць.

*Пераклады*

**Дарына ГЕРАВА**

# ДАПЛЫСЦІ ДА ТАГО БЕРАГА

*апавяданне*

УСЕ называлі яе дзяўчынай, калі не бачылі зблізку яе твар. Ці ж не прыемна?

На пляж ішла рана, калі мора было бляклым ад прахалоды, а пясок не прасох яшчэ ад начнога прыліву. Знаходзіла месца каля скалы, адкуль бачны чырванаваты горб вострава, і чытала. Пакуль не рабілася горача.

Гэтае лета пачалося няўдала. Ад'язджаючы, разбіла дыяптрычныя акуляры ад сонца. І засталася са звычайнымі акулярамі — бездапаможная супраць жнівеньскага бляску. К полудню Евін пляж ператвараўся для яе ў размытую пляму, якая калыхалася і рухалася па бугрыстым пяску. Пакрысе яе апаноўвала паніка — ад агню на небе, ад голых грудзей і спінаў, ад віску дзяцей, якіх жанчыны ўвесь час цягалі за сабой. Намацвала на дне сумкі купальнік, адзявала яго і ўцякала ў мора.

Вада — халодная і маўклівая — абдымала яе, і яна расслаблялася на хвалях, а тыя трымалі яе, як лёгкі кавалак дрэва. Тут, у вадзе, пачынала супакойвацца, думаць пра штосьці нявыразнае, што было ці не было, што будзе ці не будзе.

Вада не тое, што паветра — яна пругкая, і быць у ёй надзейна. У вадзе чалавек ніколі не бывае адзінокі.

Але вось непадалёк яна заўважае адну з тых хлапчукоўскіх галоў, якія цікуюць здалёк за голымі жанчынамі.

— Як вам не сорамна? — усклікнула яна. — Ай-я-яй!

Хлапчукі трапляліся розныя. Адны ўцякалі з хуткасцю спартсменаў, другія — нахабныя і вострыя на язык — адбрэхваліся. Аднойчы яна разгледзела праз акуляры, як ружавеюць іх мокрыя шчокі, і падумала: «Калі ў мяне будзе сын, ён будзе такі ж». Яна не магла нарадзіць непрыгожага чалавека.

Але калі будзе сын, трэба будзе трымаць яго далей ад Евінага пляжа. Ад усіх тых форм, па-рознаму вылепленых прыродай.

На пяску дыхала цяжка, супакойвалася пасля паядынку з хвалямі. Адпачывала на сваім месцы каля скалы і старалася глядзець толькі на хвалі, неба і астравы.

Каб мела сына, трымала б яго далей ад Евінага пляжа. Хлопец ёсць хлопец, ён заўсёды ў пошуку жаночай прыгажосці і таемнасці...

Пасля абеду чытаць не хацелася. Плавала да вострава і вярталася назад, стомленая, але задаволеная, з адчуваннем, што вызвалілася ад напружання. У такі момант адчувала, што яна створана з мускулаў — моцных і пругкіх мускулаў, якія прыходзяць у рух па яе жаданні.

Пасля абеду хлопцаў у заліве не было. Пасля абеду яны шукаюць дзяўчатак. На высокім быльняговым пагорку ў гэты час з'яўляліся мужчыны і, не хаваючыся, зіркалі ў бок Евінага пляжа. Жанчыны крычалі, сарамацілі іх, і тыя аддаляліся маўклівыя, як робаты, што ідуць у пэўным напрамку і з пэўнай мэтай.

З маленства адчувала недавер да хлопцаў, а пасля перанесла гэты недавер на мужчын. Спрабавала ўявіць, што гэтыя людзі такія ж, як і яна, — але дарэмна. Кожная сустрэча з якім-небудзь мужчынам выклікала страх — як дакрананне да нейкай экзатычнай расліны. А раптам гэта расліна атрутная? І калі пакіне знак на ўсё ажно процілеглы бераг вялікага заліву, дзе бялелі раскіданыя палаткі. Яе вабіла дабрацца туды з дапамогаю сваіх рук і ног — па вадзе.

Шмат было чаек — больш, як у іншыя дні. Яны кружылі над хвалямі — грацыёзныя, але драпежныя, з раскрытымі дзюбамі і распластанымі крыламі. Палявалі рыбу.

Яна нетаропкімі, разлічанымі рухамі адзела купальнік — загадзя берагла сілы для вялікага заплыву. Толькі акунулася і ўздрыгнула — не нават не паспелі ўскрыкнуць. Гаварылі і пра жанчыну з Евінага пляжа, што голая бегала шукаць сваю дачку. І ніхто не гаварыў пра яе блага.

Даўно не ела такіх нясмачных кебабчыкаў[1]. Сядзела на краі паўразваленай каменнай агароджы, бо крэслы і сталы былі заняты, сціскала кардонны падносік з надкусаным кавалкам хлеба і дзівілася таму раздражненню, якое расло ў ёй і набірала хуткасць, нібы лавіна.

Здаецца, лета яе скончылася. Вы жыццё? Каханне яе заспела непадрыхтаванай. Да яго яна паставілася сур'ёзна — як мужчына да мужчыны. І памылілася. «Ты моцная, — сказаў ёй на развітанне. — Ты перажывеш».

Калі пыталіся, ці не хоча яна мець дзіця — вядома, пыталіся жанчыны, а не мужчыны, мужчыны не задаюць такіх пытанняў, — яна толькі паціскала плячамі і ўсміхалася. Не адчувала яна патрэбу ў дзецях. А ці праўда? Праўда.

Пасля такіх размоў заставалася горыч шкадавання, што пытаюць аб гэтым у яе. І была глыбока прыхаваная надзея — усё ж была яна яшчэ не старой. І здароўе было, і нічога з ёй такога не здаралася, што так часта здаралася з людзьмі...

На пляжы гаварылі пра хваробы, пра моду, пра сваіх мужоў. Любілі пахваліцца і ўмела плялі розныя гісторыі. Некаторыя спрабавалі плаваць на цёплым мелкаводдзі. Яны пішчалі, плялёхаліся, і ўся энергія іх рук і ног вылівалася ў сумбурнае боўтанне, ад чаго атрымліваўся толькі вялікі шум і дабаўлялася пены ў заліве.

Перад заходам сонца якая-небудзь Ева, адзінокая, як і яна, падсядала да яе, каб прыкурыць цыгарэту, прамаўляючы два-тры словы — для прыліку. Падабаліся ёй негаваркія, яны не любяць хваліцца і не стараюцца даймаць людзей сваімі клопатамі.

Але і тыя кароткія размовы мала кранaлі яе і не маглі яе развеяць. Калі ўжо лета пачалося няўдала, яго не паправіць і сонечнае надвор'е.

●

У той дзень паветра было асабліва чыстае, і яна бачыла праз акуляры ад холаду, ад злавеснага выцця сірэны недзе побач.

«Праклятае лета! — падумала яна са злосцю. — Ну праклятае лета і ўсё тут».

На агульны пляж прымчала «хуткая». Да аднаго месца кіравалі маторныя лодкі. Не пераставала выць сірэна. За спіной хтосьці загаласіў.

Ёй захацелася бегчы туды. Каля яе мітусіліся жанчыны, шукалі сваё адзенне. Адна з іх — не зусім маладая і не зусім худзенькая — пабегла. Яе суседка паспрабавала затрымаць яе, але тая крутанулася і пабегла, на хаду прытрымліваючы свае грудзі, каб не перашкаджалі, калыхаючыся, бегчы. Яна бегла па ўскрайку пляжа, па зыбкім пяску, па вадзе, губляла раўнавагу, здавалася, вось-вось упадзе, не бачачы нічога і нікога. Хтосьці кінуў ёй халат, каб апранулася, але тая толькі наступіла на яго. І выскачыла на агульны пляж — голая.

Жанчыны апраналіся і ўзбуджана ўзіраліся ўдалечыню, каб зразумець, што ж такое здарылася. Ці не ўтапіўся хто? І ці адзін?

Сірэна ўсё выла, а яна думала да атупення толькі адно — калі б утапілася яна, то яе не пазнаў бы ніхто з усяго пляжа і нават з таго берага заліва.

Яе штурхалі, наступалі на ногі. Усе беглі на агульны пляж — нібыта кінуліся ў дзіўны, дзікі танец. Жанчыны беглі, падскоквалі, хісталіся, падалі...

А мора паціху плюскатала. Хваля набягала на хвалю.

Вечарам у чарзе ў сталоўку даведалася, што гэта былі два хлопцы. Семнаццацігадовыя. Трапілі ў яму і рашыла — заўтра даплыве да процілеглага берага, каб выканаць сваю праграму, і потым будзе збіраць рэчы. На вячэрні аўтобус.

А далей? Адно лета нічога не значыць. Потым прыйдзе восень. І восень не значыць нічога. Пасля прыйдзе зіма — і зіма не значыць нічога... Год за годам — для чаго? Яна не мела дзеля каго бегчы — ні па пяску, ні па вадзе, ні па паветры.

Ноччу спала дрэнна і сніла, што плыве па пяску, глытае ваду і захлынаецца.

Калі прачнулася, стала страшна ад таго, што надумала. Плысці праз увесь заліў сёння, пасля таго, як два хлопцы трапілі ў яму? «Ты моцная жанчына...» Памыляешся, дарагі. Што азначае «моцная жанчына»? Моцная тая, што можа адступіць. Адрачыся. Забыць. Успомнілася голая «Ева» — моцная была яна ці слабая? Цяжка ўявіць больш брыдкую карціну, як бегла яна, задыхаючыся, кашляючы, нібы заграбаючы паветра рукамі, каб не ўпасці, высільвалася, не магла захоўваць раўнавагу, але ж усё-такі бегла. Маці...

З самай раніцы ўвесь Евін пляж гаварыў толькі пра тапельцаў. Студэнты тэхнікума, прыехалі ў лагер. Начальніка лагера адразу ж адазвалі. Абодва ў бацькоў — адзіныя сыны.

У той дзень не сгаранілася голых жанчын, не зашывалася за выступ скалы, не чытала. Сядзела на пяску ў купальніку і шукала вачамі жанчыну, якая бегала ўчора галяком. Азіралася, каб убачыць фігуру, якую, па сутнасці, не ведала, і раптам адчула.

[1] Засмажаныя на агні кавалачкі мяса.

●

Гарадзец, Станулі, Варганы...
Як адзежына даўняга строя.
Старажытныя курганы
Рэха, памятка прашчураў-вояў.

Адгукнецца праз тоўшчу вякоў
Дым стажараў, гул стольнага веча,
Устрывожаны цокат падкоў,
Звон набатны, звон цяжкага меча.

Кавалі, Верацеі, Вялец...
Коціць воды празрыстыя Мнюта,
Мчыць па полю ўзмакрэлы ганец,
Асыпаецца квеценем рута.

Скрыжаванні забытых дарог
Прараслі хмызняком верасовым.
Як настольнік, квяцісты мурог
Адбівае узор адмысловы.

Стогне вецер у лапах ялін,
Дрэвы-волаты ціха гайдае
Памяць продкаў, трывожных часін...
Смутак, радасць і боль нагадае.

Курганы... Усяслава шалом
Узвышае купчастыя сосны.
Знітаваных стагоддзяў сувой
Ткуць узорысты летапіс кросны.

Навасельцы, Лужкі, Камаі...
Майго роду адметная рыска.
Баўтрамеі, Лугі, Барсукі
Маіх продкаў былая калыска.

●

Паўлюку БАГРЫМУ

Хто там—
стук ды грым—
Звініць молатам?
То Паўлюк Багрым,
Яго доля там.

Кузня—дом і храм.
Горан полымем
Адбіваецца,
Нібы золатам.

Ой, як жар гарыць
На далонях рук!
І ў сінеч ляціць
Паўлюкоў жаўрук.

## Слова

Слова не птушка, не верабей,
Выпусціш—не дагоніш.
Словы зласлоўя адолей, развей,
Хай будуць ясныя гоні.

Чыстую вопратку я апрану.
Слова са мной святое.
Гукаў чароўныя струны крану
І акраплю іх вадою.

Тою, сцюдзёнай з крынічных азёр,
З нетраў зямных і нябесных.
Боль замалю і звярнуся да зор,
Вызвалю з путаў іх цесных.

Словы—паходня.
Гарачым агнём
Плавяць душы маёй краты
І спапяляюць кудлаты залом,
Звіты чужынцам ля хаты.

Мудрым дарадцам прыходзяць ка мне,
Лашчаць балесныя скроні
Словы—замовы нібыта у сне
Ззяюць у срэбнай кароне.

Што у канцы—напачатку было.
Лепшае долі не мела б
Слова маё... У нябыт не сплыло.
Ціха шапчу: «Не знямела б».

што хоча знайсці яе сярод стройных загарэлых дзяўчат, а не там, дзе ляжалі поўныя, абясформенныя жаночыя целы.

Мора было спакойнае, і выратавальнікі плавалі на маторках за буйкамі. Яна падумала: можа, абплыць востраў пад вадой, а потым скінуць купальную шапачку, каб яе не заўважылі, але гэта патрабавала шмат сіл.

Апошні раз азірнулася — на развітанне з «Евамі». Яны не былі вінаватыя, што лета няўдалае. Што той бераг гэтак далёка. Што яна можа ўтапіцца...

Дзяўчаты вылежваліся пад сонцам і грызлі яблыкі. Некаторыя рабілі сабе манікюр. Хавалі свае гладкія твары пад стракатымі парасонамі. Але доўга ляжаць на месцы дзяўчаты не ўмеюць. Сонца хутка надакучае ім, і яны ўцякаюць з Евінага пляжа, ідуць шукаць кампанію больш цікавую.

А жанчыны цярпліва прымалі сонца ўсёй сваёй скурай. Некаторыя былі пазначаны прыкметамі мацярынства. Другія насілі сляды складаных аперацый, пасля якіх з'яўляўся чалавек. Былі старыя жанчыны, высахлыя з твару, як вялая бульбіна, і нечакана свежыя там, дзе сцягнулі адзенне. Былі і далікатныя, роўна загарэлыя дамы, якія і на пяску акуратна выконвалі гімнастычныя практыкаванні. Найбольш непрыемна дзейнічалі на яе нагрыміраваныя — ёй здавалася, што і сонца, і пясок, і мора ледзь трываюць іх.

Кожнае цела было нібы дакумент аб адной кароткай або працяглай жаночай гісторыі.

Захацелася ўявіць саму сябе ў гэтым натоўпе неапранутых жанчын — але не змагла. За мінулую ноч з ёй нешта сталася. Сапраўды, у яе прыгожая фігура, але што з таго? Плавае лепш за ўсіх на пляжы і робіць гэта з задавальненнем — ну і што? Напэўна, будзе плаваць і пазней, тады, калі і яе твар стане падобны на высахлую бульбіну.

Адзінокая баба ў моры. Ах, якая карціна...

Яна кінулася ў ваду, перапоўненая непрыязнасцю да самой сябе. Падумаеш, плыўчыха! Прыгожая — ах-ах! Адзінота і спакой — як шыкоўна!

Яе заўважылі з выратавальнай лодкі, засвісталі, але яна дала нырца. Спадзявалася, што яе, калі яна вынырне без шапачкі, не заўважаць.

Дарэмна. З лодкі дражніліся з ёй. Яна ўдыхнула пабольш паветра і пачала доўгі заплыў пад вадой, каб падплысці бліжэй да вострава і зліцца там з прыбярэжнымі скаламі. Лёгкія, здавалася, разрываліся без паветра, рукі і ногі яе дрыжэлі. Больш яна ўжо не магла. Вынырнула, каб схапіць хоць раз паветра і адразу ўбачыла, што яе шукаюць у другім напрамку.

Марныя пошукі... І не ўпершыню. Колькі сіл марна траціла яна ў такіх падводных манеўрах — проста каб толькі некаму дагадзіць.

Неяк раптоўна адчула стому. Можа, вярнуцца ці плысці ўсё-такі далей? Было нейкае блазнаватае адчуванне, што хтосьці назірае за ёй і чакае, каб убачыць, як яна прайграе.

А неба раўнадушна сінела да самага далягляду — без аніводнай белай аблачынкі.

«Ты моцная. Ты вытрымаеш...» Дарагі... А ямы? А калі захлынешся недзе — без гуку, без следу? У яе гаспадыні багата кватарантаў — пакуль заўважаць, што яе няма, яна знікне ў моры назаўсёды.

Яна механічна плыла да таго берага, да якога, што б там ні было, задумала дабрацца. Востраў ужо быў у яе за спіной, ён нагадваў велізарны бохан хлеба.

Трэба было адпачыць. Перабярнулася на спіну і раскінула рукі. Ёй адкрылася бездань неба.

«Ты моцная—вытрымаеш». Глупства. Што азначае моцная жанчына? Моцная тая жанчына, якая разумее самае галоўнае —мужчыне не патрэбна моцная жанчына. Моцная жанчына тая, якая знаходзіць яшчэ крышачку сілы, каб стаць слабай. Для мужчыны.

На процілеглым беразе пачалі ўжо вырысоўвацца палаткі. Праз акуляры заўважыла, што яны і жоўтыя, і аранжавыя, а белыя губляюцца сярод іх. Паступова паказваліся кроны некалькіх дрэў. Ёй нават здавалася, што бачыць і людзей —нейкіх паўголых тарзанаў, якія блукаюць сюд-туд і займаюцца гаспадарчымі справамі.

Над ёй раптам распасцёрліся белыя крылы чайкі. Мора стала святлейшым — набліжаўся бераг. Ну, малайцом, — павіншавала сябе. Усё-такі яна павінна дабрацца да другога берага. Даплыве сама.

І раптам успомнілася ёй жанчына, якая бегла па пляжы. Яе заплыў не варты быў і аднаго кроку тае жанчыны.

Калі нагамі кранула дно і пайшла да берага, вялікага задавальнення яна не адчувала. Не адчула і прыемнай стомы ў плячах і нагах — такою была стомленай.

Хацелася дабрацца да каменя, ды не змагла. Апусцілася проста на сухі пясок. Зняла акуляры і рассеяна выцірала іх аб мокры купальнік. Ёй было цяжка, але яна аддалася тупому болю з новым адчуваннем бязважкасці і салодкай пустаты.

На гэтым беразе яна як быццам была інакшай, і ў той жа час душою заставалася з голымі жанчынамі на Евіным пляжы.

«Што было, тое было, — падумала яна з радасцю. — А тое, што будзе, яшчэ няма. А цяпер пакуль што — лета».

Пасля абеду выйшла на агульны пляж — хацелася ўбачыць знаёмых.

Вечарам, як думала, не паехала аўтобусам. Не паехала і назаўтра.

З балгарскай пераклала
Вера МАСЛОЎСКАЯ.

# ЧАКАЕМ ВАШЫХ ПРАПАНОЎ

Тэма вяртання нашай духоўнай спадчыны сёння хвалюе ўсіх, многія ўключыліся ў грамадскі рух за адраджэнне помнікаў, свят, мовы... Асабліва важна цяпер зберагчы багатую фальклорную спадчыну беларускага народа. Мы ў Беларусі маем унікальную (у параўнанні з іншымі славянскімі рэгіёнамі краіны) захаванасць жывых форм традыцыйнай народнай культуры, у тым ліку старадаўніх.

Важна цяпер накіраваць намаганні менавіта на развіццё і стымуляванне аўтэнтычных форм народнай творчасці, а не захапляцца толькі стылізацыямі і апрацоўкамі.

Вельмі важна наталіць цікаўнасць шырокай грамадскасці да фальклору, даць магчымасць убачыць фальклор ва ўсёй велічы і глыбіні, спыніць паток скажэнняў і падробак, якія дапускаюцца шматлікімі культработнікамі і рэжысёрамі нават пры паказе аўтэнтычнага фальклору.

Неабходна вызначыць у Беларусі запаведныя фальклорныя зоны і стварыць там неабходныя ўмовы для яго ахову і развіцця.

Пералічаныя вышэй праблемы з'яўляюцца своеасаблівай праграмай дзейнасці створанага год назад аддзела фальклору Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры. У яго складзе ёсць спецыялісты па этнаграфіі, песенным фальклоры, інструментальнай музыцы, народным тэатры. На бліжэйшыя гады плануецца праводзіць рэгулярныя комплексныя экспедыцыі ў найбольш багатыя фальклорам мясціны. Да ўдзелу ў іх будуць запрашацца культработнікі, настаўнікі і моладзь. Паралельна будзе весціся прапагандысцкая і навукова-метадычная работа з мэтай вяртання традыцыйнай культуры належнага статуса ў грамадскае жыццё вёсак, райцэнтраў, гарадоў. У гэтым годзе павінны адбыцца экспедыцыі ў Мінскую і Гродзенскую вобласці.

Каб вырашыць праблему з кадрамі фалькларыстаў, неабходна ў кожным раёне выявіць энтузіястаў народнай культуры, працаваць з імі ў непасрэдным кантакце, праводзіць для іх семінарскія заняткі з удзелам вядучых вучоных рэспублікі.

Відавочная патрэба выдаваць рэгулярна для культработнікаў, прыхільнікаў народнай творчасці метадычныя дапаможнікі з апісаннямі аўтэнтычных народных свят. З гэтай серыі ўжо ўбачыла свет кніга «Традыцыйныя вяселлі Віцебшчыны (у сучасных запісах)».

У тых мясцінах, што слаўныя багата захаваным фальклорам, трэба прыступіць да стварэння цэнтраў традыцыйнай культуры, асноўнай задачай якіх будзе кансалідацыя сіл людзей, зацікаўленых у росквіце рэгіянальных мастацтваў, а таксама — ажыўленне фальклору, далучэнне да яго моладзі, дзяцей, сцвярджэнне яго маральных і эстэтычных скарбаў. У такіх цэнтрах мяркуецца праводзіць камерныя фальклорныя канцэрты і народныя святы, тут можна будзе атрымаць самыя падрабязныя звесткі аб выканаўцах фальклору, яго жанрах, атрыбутах народных свят, мастацкіх промыслах і ўмельствах, развучыць народны танец, запісаць на сваю касету песню, калыханку, казку для дзіцяці ў выкананні вясковых бабуль.

Сёлета можна прыступіць да стварэння такіх цэнтраў у Пастаўскім, Іванаўскім, Дзятлаўскім раёнах. Скора будзе адкрыты такі цэнтр і ў Мінску.

Наперадзе шмат спраў. СПАДЗЯЕМСЯ, ШТО І Ў ВАС ЁСЦЬ СВАЕ ПРАПАНОВЫ І МЕРКАВАННІ. ЗАХОДЗЬЦЕ ДА НАС СА СВАІМІ ІДЭЯМІ ПА АДРАСУ: МІНСК, ВУЛ. А. ПАШКЕВІЧ, 3, РЭСПУБЛІКАНСКІ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНЫ ЦЭНТР РАБОТНІКАЎ КУЛЬТУРЫ, 5-Ы ПАВЕРХ, ПАКОЙ 34, ЦІ ЗВАНІЦЕ КОЖНУЮ СЕРАДУ ПА ТЭЛ.: 34-07-34 ПАСЛЯ 18.00.

Л. РЫЖКОВА,
заг. аддзела фальклору РНМЦ культуры.

# Часопісы ў сакавіку

## «ПОЛЫМЯ»

Нумар адкрываецца публіцыстычным артыкулам У. Бібікава «Ля ўзроставай мяжы».

Змешчаны вершы У. Паўлава, В. Аксак, В. Шніпа, У. Кліцэвіча (уступнае слова і публікацыя Б. Сачанкі), М. Рэрыха (пер. Я. Сіпакова), К. Шэрмана (пер. Р. Барадуліна).

Надрукаваны апавяданні Х. Лялько, А. Шараxоўскай, заканчэнне аповесці В. Іпатавай «За морам Хвалынскім».

«Гарынская падкова» — нарыс У. Глушакова.

Старонкі гісторыі ўзнаўляюць М. Ермаловіч «Вузел загадак» і А. Жамойцін «Зарывам асветлены».

Сярод іншых матэрыялаў—заканчэнне запісных кніжак У. Караткевіча «У дарозе і дома», паленіка Д. Бугаёва «Пара глядзець праўдзе ў вочы» і В. Каваленкі «У імя чаго баталія?», нататкі А. Васілевіч «Поплеч з намі».

З рэцэнзіямі выступаюць М. Барсток, Б. Бур'ян, Т. Шамякіна.

Ёсць раздзелы «З рэдакцыйнай пошты» і «Дзядоўнік на Парнасе».

## «БЕЛАРУСЬ»

Надзённыя праблемы закранаюцца ў матэрыялах І. Герменчука «Як зарабляюць мільёны», Д. Лупача «Выпрабавальнікі «БелАЗаў», А. Грыцкевіча «Эфект аховы».

Пра вядомую спявачку В. Пархоменку расказвае У. Карызна «Залаты званочак».

Апублікаваны падборка вершаў маладых паэтэс «Высокі мой дзень веснавы», старонкі «Анталогія беларускай паэзіі 20-х гадоў», апавяданні Р. Баравіковай «Лабус» і М. Гіля «Анюта са Звонічаў».

Слова пра Т. Шаўчэнку гаворыць Н. Гілевіч «Чытайма і перачытвайма Кабзара! (да 175-годдзя з дня нараджэння)».

Пра Е. Лось успамінае В. Коўтун—«Сястра блакітнай валошкі». З юбілеем В. Палтаран віншуе А. Васілевіч — «Вера».

Чытач пазнаёміцца з працягам аповесці В. Гігевіча «Штучны розум», падарожнымі нататкамі М. Янчанкі «Мая Украіна» і А. Мяснікова «Аўстрыя: для каго гучаць венскія вальсы...», іншымі матэрыяламі.

## «МАЛАДОСЦЬ»

У паэтычным раздзеле —творы А. Якаўлевай, Л. Возісавай, У. Паўлава, Н. Шкляравай, С. Каробкінай, Т. Пяркоўскай.

Проза прадстаўлена аповесцю Т. Бондар «Марыя», апавяданнямі В. Няхая «Да горада рукой падаць» і «Па сямейных абставінах».

Змешчана драма І. Чыгрынава «Звон — не малітва».

Некаторыя старонкі гісторыі ўзнаўляюць у сваіх артыкулах С. Тарасаў —«Зруйнаваная памяць мuроў», М. Зайцаў — «З пячаткай «Зямлі і волі».

На пытанні анкеты «Маладосці» адказваюць У. Дамашэвіч, В. Супрунчук, М. Тычына.

Пра Е. Лось успамінае Э. Агняцвет—«Яна — з людзьмі».

Штрыхі да творчага партрэта У. Савіча напісала Г. Сачанка—«Вандроўкі наяве і ў сне».

У. Сіўчыкаў рэцэнзуе кнігу паэзіі А. Глобуса «Парк».

# ПЕЙЗАЖ З ПАЛІФЕМАМ на фоне хімзавода

(Пачатак на стар. 2—3).

сілы прыроды. Фантастычную постаць Паліфема мастак у сваім палатне ўвёў у рэальную карціну магутнай дзікай прыроды. На карціне ёсць і людзі, якія бестурботна бавяць час, не зважаючы на суседства пачвары. Пейзаж поўны гармоніі і нейкай унутранай сілы. Але ёсць у гэтай ідылічнай карціне (а можа, гэта мне толькі здаецца?) нейкае прыхаванае пачуццё трывогі, адчуванне невыказнай небяспекі.

Зразумела, сённяшняе ўспрыманне твора, напісанага ў XVII стагоддзі, абцяжарана «многімі ведамі». Але мне чамусьці думаецца, што пры ўсёй нашай знешняй цывілізаванасці і дасведчанасці мы ўсё яшчэ нагадваем тых людзей са старадаўняй карціны, што жывуць толькі сённяшнім днём і ні аб чым не хочуць ведаць, апрача ўласных жаданняў. Толькі ж месца наіўнага казачнага персанажа заняў тэхнагенны дэман разбурэння. У любую хвіліну ён можа жорстка адпомсціць чалавеку за яго саманадзейнасць і абыякавасць. Самае страшнае — людзі ведаюць гэта, але працягваюць жыць так, быццам ніякай небяспекі няма. Яны звыкліся з гэтай небяспекай! Яны ўгаворваюць самі сябе: пацiху што-небудзь ды зробім, прыдумаем, усё як-небудзь абыдзецца.

Дзесяцігоддзямі «якнебудзь» абыходзілася. Дакладней — усё зыходзіла з рук: і загубленыя рэкі, і зведзеныя лясы, і высахлыя моры, і забруджанае паветра. І вось аказалася, што прырода, яе багацці — не бясконцыя. Нашым унукам можа не хапіць нават глытка чыстай вады, глытка паветра. З кожным годам усё больш дзяцей у нашай краіне нараджаюцца з хваробамі сэрца, з паталагічнымі адхіленнямі ў псіхіцы. Усё больш спадчынных захворванняў. А гэта ж бомба пад будучыню чалавецтва як від!

Каб уратаваць будучыню, каб быць упэўненымі ў заўтрашнім дні нашых дзяцей, трэба ўжо сёння разарваць ланцугі ведамасных інтарэсаў, узняцца над вузкакарыслівымі інтарэсамі бюракратыі і сваімі ўласнымі дробнымі амбіцыямі. Мы ж усе хочам дыхаць на поўныя грудзі...

Віталь ТАРАС.
Светлагорск — Мінск.

## Музам на пацеху

**Павел МІСЬКО**

# КУРЫЦА МАНЯ

**Не толькі для малых апавяданне**

Кошык саломкай Настуля заслала,
Толькі здалося, што мяккасці мала.
Зверху наклала кудзелі і пуху,
Тут жа паклікала ў хату квактуху.
— Вось табе, Маня, дзесятак яечак!
Курыца села на іх. І ў падпечак
Кошык паставілі ў цёмны закутак.
Так пачалася для бабы пакута.
Як яно пойдзе? Ці скора ўсё будзе?
Яек качыных далі сёння людзі.
Баба хацела, каб з качанятак

Мець і прыбытак, мець і занятак.
Толькі ці выведзе Маня падкідкаў?
— Выведзе!

— кажа дзядуля Мікітка. —
Хіба адна наша Маня такая?

Можа, дасць бог, то і мы прычакаем.
Курыцу зернем адборным кармілі,
Піць ёй вадзіцу з крыніцы насілі.
Маня сядзела старанна і верна,
Бабе ж цягнуліся дні неймаверна.
Раптам настала шчаслівае ранне.
— Дзедка, пішчаць! Проста клад

наша Маня!
Ах ты, разумніца! Ах, харашуха!
Вывела ўсіх! Падыдзі хоць, паслухай!
Маня ў адказ ганарыста закохкала.
Баба ж не сціхла, баба завохкала:
— Што ж мы... Ох, дзедка...

Гані іх на траўку!
Хай папасуцца, пашчыплюць мураўку.
Дзед паказаў тут свой нораў старэчы,
Бабе Настулі ён так запярэчыў:
— Качкі — не гусі. Больш плаваць ім

трэба.
Там, у вадзе, мецьмуць хлеб

і да хлеба.
І качанят пасадзіў ён у кошык,
Крупак сыпнуў ім туды,

трошкі крошак,
Маню пад паху, кошык у руку —
Борзда да сажалкі дзедка патрухаў.
Баба ж крычала яму наўздагонку:
— Што ты надумаў? Паслухай лепш

жонку!

Плаваць ім трэба яшчэ навучыцца!
Могуць малыя ў вадзе прастудзіцца!
Трох не відаць... Утапіліся недзе!
Людзі, ратуйце! Ратуйце, суседзі!
Курыца Маня кудахча таксама,
Рады не дасць — сухапутная мама!
Дзед раззлаваўся, да Мані сігае,
Хоп за крыло і да дзетак кідае.
— Мамаю стала? Вучы тады плаваць!
Ходзіш, як пані якая ці пава!
Крыламі плюхае Маня, кудахча,
Нема крычыць.

Баба ў сажалку скача,
Курыцу ловіць, цалуе, галосіць,
Дзеда кляне, «Паратуй мяне!» —

просіць.
Твань ёй па пояс, а ногі ўсё

грэзнуць.
— Ты мо не плавала, баба, ні разу?
У качанят разам з Маняй вучыся...
Эх, ты!.. Вось кій...

Толькі добра дзяржыся!
Выцягнуў бабу Мікіта на сушу,

Сполах калоціць Настулю, як грушу.
Баба квактуху на траўку пускае.
Курыца дзетак нядродных склікае.
Тым жа няўцям: што ім кажуць?

што хочуць?
Шчыра жыруюць, заўзята шваргочуць.
— Эх, бесталковая курыца Маня!
Мала ў тым толку,

што маміна званне.
Трэба даць дзецям і матчыну мову,
Каб разумецца,— такую прамову
Дзед прамаўляе, малых выганяе,

Вось ужо бераг. Дзед Маню пускае
І качанятак на траўку вымае.
Маня спалохана круціцца, квохча,
Дзетак адвесці ад сажалкі хоча.
А качаняты вады не баяцца,
Хочацца плаваць ім, цягне купацца.
Дружна заплюхалі ў раску і ціну...
— Што нарабіў ты?!

Куды ты іх кінуў?! —
Баба падбегла, махае рукамі.—
Хіба ж маленькія плаваюць самі?

Хто спатыкнецца, таго пачакае.
Потым ідуць усім гуртам дадому,
Рады і сонцу, і ветру малому:
Бабу падсушыць,

малым не зашкодзіць.
Пух дзьмухаўцоў вакол іх

карагодзіць...
Скончыць аповяд свой мог бы

на гэтым,
Каб не здарылася вось што налета.
Год прамінуў, можа, трошкі і болей,
Часу на роздум хапала даволі.
Курыца Маня зашылася дзесьці,
Яек нанесла і вывела дзесяць
Родных і крэўных сваіх дачанятак,
Жоўценькіх,

круглых пушкоў-куранятак.
Маня запомніла: летась за штосьці
Ёй абмывалі ля сажалкі косці.
Толькі за што?

Ну ніяк жа не ўцяміць...
І падказала курыная памяць:
Трэба адразу зрабіць усё гэтак,
Каб пахвалілі і маму, і дзетак.
Сказана — зроблена.

Вывадак Маня
Кліча з сабою, цацанкамі маніць,
Быццам ля сажалкі горы смакоцця,
Еш — не хачу, і раздолле-выгоддзе.
Коршак кружляў, і сівая варона
На куранят паглядала ўтрапёна.
Грозны быў выгляд у Мані-квактухі,
І спасавалі драпежныя зухі.
Вось і той бераг. Прыйшлі куранята...
Качак ніводнай... Далёка да хаты...
Хто ж панавучвае плаваць малечу?
Сам як не ўмееш — ураз абязвечыш!
Трошкі на мелкае Маня заходзіць,
Кліча малых, нібы

штосьці знаходзіць.
«Што?» — сыпанулі туды куранят кі.
«Мама, тут мокра і холадна ў пяткі!»
«Дзе?» — пазіраюць у матчыны вочы,
«Страшна!» — глыбей яны лезці

не хочуць.
Крыламі Маня шырока махнула
І куранят у ваду як здзьмухнула:
«Плаваць карысна! Вучыцеся плаваць!
Хай па ўсім свеце разносіцца слава,
Што кураняты свайго адракліся
І ў качаняты гурмой падаліся!»

Сведкаў трагедыі той было многа:
Сонца і неба, і кветкі, дарога...
Толькі не скажуць ні сонца,

ні кветкі,
Плавалі добра ці не яе дзеткі,
Ці навучылася плаваць і мама,
Бо... захлынулася мама таксама!..
Мо хіба прыклад паказвала маці?
Скокнула, можа, дзяцей ратаваці?
Хто нам адкажа?

Ні сонца, ні неба...
Прыкра.
Журботна.
Балесна...
Ганебна!..

---

**Віктар СЕМЯНЯКА**

# ПРАЎДУ Ў ВОЧЫ

Мяне выклікаў дырэктар. Прапанаваў сесці. Пацікавіўся здароўем сям'і. Я не вытрываў.

— Ведаеце што, Павел Пятровіч, — кажу, — давайце без прадмовы. Мая цешча вас так цікавіць, як казу леташні снег. Дык навошта рабіць выгляд, што вы без маёй сям'і жыць не можаце? Таму, як кажуць, адразу бярыце быка за рогі.

— Навошта ты, Іванчанка, так усё завастраеш? — разгневаўся дырэктар.— Прэшся лбом на сцяну.

— Маеце на ўвазе сябе?

— Не, Іванчанка, гэта ў пераносным сэнсе...

— А вось больш не трэба. Я вас прашу. Ні ў якім там пераносным сэнсе. Самі ведаеце, што я называю рэчы сваімі імёнамі.

— Згодны! Згодны! У цябе не словы, а проста-такі атрута. І як ты іх у роце трымаеш? Кажуць, што калі гадзюка ўкусіць, дык потым здыхае. Ёсць такая парода. А цябе нічога не бярэ. Адкуль такая смеласць?

— А мне няма чаго траціць. Таму і рэжу праўду-матку проста ў вочы. Сказаў — і кропка. І злосці не трымайце.

— Дзякую, Іванчанка, за шчырасць. Заўтра ў нас сход. Палезеш на трыбуну?

— Палезу. Кіруеце па-старому. Не прыслухоўваецеся да голасу народа. Ды й сваім намеснікам не даяце ходу. Анружылі сябе падлізнікамі. Любое дурноцце падтрымліваюць...

Я паўгадзіны пералічваў грахі дырэктара. Той сабе месца не знаходзіў, але цярпеў, нават падахвочваў:

— Давай, Іванчанка, здымай стружку!

Я стараўся. Нарэшце выдыхнуўся, прахрыпеў:

— Усё, выдаў, як на споведзі!..

— Малайчына! — пахваліў Павел Пятровіч і дадаў:—Дарэчы, тваю заяву аб нечарговым набыцці «Жыгулёў» я падпісаў. Можаш плаціць грошы і катайся сабе на здароўе. А што датычыцца твайго выступлення на сходзе...

— Не-не, я чалавек слова, — запратэставаў я катэгарычна. — Сказаў раз — хопіць. На сходзе паўтарацца не буду...

Пераклаў
з украінскай
Уладзімір ШКАБРОЎ.

---




**З 20 ПА 26 САКАВІКА**

20 сакавіка, 20.00
**«НАШЫ ГОСЦІ»**
Іграе духавы аркестр «Рыга». Прагучаць творы Дрыго, Расіні, Бетховена, Паганіні, Ардылоўскага, Дзітрыха, Штрауса, Глебава.
Гутарку з мастацкім кіраўніком і дырыжорам Г. Ардылоўскім вядзе музычны каментатар Э. Язерская.

21 сакавіка, 21.50
**«ЛІРА»**
Мастацка-публіцыстычная праграма.
Аб ролі інтэлігенцыі ў сучасным грамадстве разважае В. Тарас.
Ю. Хадыка расказвае, як былі знойдзены і ўратаваны некаторыя экспанаты музея старажытнабеларускага мастацтва.
Л. Дайнека гаворыць аб праблемах гістарычнай прозы.
Вядучы — У. Сцепаненка.

24 сакавіка, 18.30
**«РАДЗІМІЧЫ»**
Літаратурна-мастацкі часопіс.
Вы ўбачыце вырабы народнага мастака С. Бераснёва. Пра нашу гісторыю, пра лёс беларускай мовы разважае выкладчык Гомельскага універсітэта імя Скарыны С. Купцоў. Пабываеце на выстаўцы акварэлей мастачкі М. Ягоравай. Пазнаёміцеся з тэатрам-студыяй «Верасень» у Мазыры.

25 сакавіка, 12.45
**«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ»**
Успамінае акадэмік Акадэміі навук БССР Ф. І. Фёдараў.

25 сакавіка, 14.25
**«РОЗДУМ»**
Акварэлі В. Паўлаўца.
Вядучы — мастацтвазнаўца У. Бойка.

25 сакавіка, 17.20
**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**
Адбудзецца сустрэча з вядомым пісьменнікам Ю. Чарнічэнкам, які прымаў удзел у лютаўскай нарадзе публіцыстаў краіны ў Мінску.
Пабываеце таксама ў вядомага фотамайстра У. Крука.
Вершы У. Караткевіча чытае Г. Кухальская.
Пісьменнік А. Вольскі падзеліцца ўспамінамі пра Янку Купалу.

25 сакавіка. 18.05
**«Я ВЕРУ У ВЯСНУ»**
Песні на вершы Н. Гілевіча.
Выканаўцы — А. Макрэнка, Я. Еўдакімаў, Г. Радзько, Я. Паплаўская, А. Ціхановіч, Н. Бярнацкая, вакальна-інструментальны ансамбль «Сябры».

25 сакавіка, 19.30
**«ТЭАТР І ЧАС»**
Да Міжнароднага дня тэатра.
Крытык Г. Колас разважае, чаму так сталася, што ў нашай рэспубліцы толькі тры беларускамоўныя тэатры. Пра міжнародныя кантакты дзеячаў сцэны расказваюць А. Вольскі і балгарскі рэжысёр П. Аляксандраў. Будзе расказана аб становішчы ў тэатрах брацкіх рэспублік, у прыватнасці, Эстоніі. На заканчэнне — знаёмства з маладой актрысай Рускага драматычнага тэатра імя Горкага Г. Маланкінай.
Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства В. Ракіцкі.

25 сакавіка, 23.20
**ЗАБАЎЛЯЛЬНАЯ ПРАГРАМА**
Студыя «Рэй». «А-у!», ці Адзін дзень у жыцці горада.

26 сакавіка, 16.35
**«ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ»**
Заслужаная артыстка БССР В. Клебановіч.

26 сакавіка, 20.10
**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**
Вершы А. Бачылы чытае артыст Ю. Кухаронак.

26 сакавіка, 23.20
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**
Інфармацыйна-музычная праграма.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

П. МАРЦІНОВІЧ. Сталёвы бусел. Вершы. Мн., «Юнацтва», 1989. — 15 к.

У. РУБАНАЎ. Таямніца птушынага гнязда. Аповесць. Апавяданні. Мн., «Юнацтва», 1989. — 85 к.

А. СЕРБАНТОВІЧ. Жаваранак у зеніце. Вершы. Укладанне і прадмова С. Кавалёва. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 1 р. 70 к.

А. СТАВЕР. Зоры зямныя. Паэма, вершы, песні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 1 р. 20 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 07455 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.